КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 32 (353) ◂ 30 жніўня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144



ВІКТАР ШАЛКЕВІЧ

Стар. 30

**КРАІНА, ДЗЕ ТРЭБА АДКАЗВАЦЬ ЗА СЯБЕ**

Эстонская дзяржава не гоніць з-пад палкі сваіх грамадзян на суботнікі. Яны самі здольныя сабраццa, і не толькі самі, яшчэ і ўвесь свет заразіць сваім прыкладам. Эстонская сістэма ЖКГ вачыма журналіста Дзмітрыя Галко

Стар. 4–5

**У СІРЫІ ІДЗЕ ВАЙНА ПАМІЖ ЗША І РАСІЯЙ**

Пра тое, што думаюць самі сірыйцы наконт падзей на сваёй радзіме, журналіст НЧ Алег Новікаў спытаў у Халіда Аміра — аднаго з лідараў сірыйскай грамады ў Адэсе

Стар. 29

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**УЗЛЁТЫ КАЗІМІРА РАХАТКІ**

Нарыс Віталя Сямашкі

З НАГОДЫ

# ЗМОВА СУПРАЦЬ «УРАЛКАЛІЮ»?

Сяргей ПУЛЬША

**Пасля гучнага «скасавання шлюбу» паміж «Уралкаліем» і Беларускай калійнай кампаніяй беларускі бок пачаў адкрытую вайну.**




Калі сцісла пераказваць гісторыю, то напрыканцы ліпеня «Уралкалій» заявіў пра разрыў адносінаў з БКК. Фармальнай падставай стаў указ Аляксандра Лукашэнкі, які надаў калійшчыкам права прадаваць угнаенні па-за межамі БКК. «Уралкалій» відавочна не меў рацыі, бо сам яшчэ з мінулага года «піхаў» свае угнаенні ў абыход БКК праз уласны «Уралкалій Трэйдынг». Але потым Баўмгертнер абвясціў пра фактычны дэмпінг: продаж максімальнай колькасці калійных угнаенняў у шкоду коштам. Гэта абваліла сусветны рынак угнаенняў амаль на 20 мільярдаў долараў. Акцыі калійных кампаніяў пайшлі ўніз, і сам «Уралкалій» патаннеў 30 ліпеня на 20%.

Прад'яўляючы абвінавачванні менеджарам «Уралкалію», Беларусь падкрэслівае, што пацярпелі і іншыя ўдзельнікі рынку. У Следчым камітэце кажуць, што валодаць фактамі «аб сумнеўных дзеяннях топ-менеджараў «Уралкалію» не толькі супраць беларусаў, але і супраць расійскіх банкаў, кітайскіх фінансавых структур і многіх іншых замежных партнёраў». На думку следчых, абвал рынку супрацоўнікі «Уралкалію» спланавалі яшчэ ў 2011 годзе.

Схема, на думку СК, выглядала наступным чынам. Супрацоўнікі БКК употай ад беларускага боку рабілі зніжкі на прадукцыю асобным пакупнікам, перанакіроўвалі зафрахтаваныя пад беларускі калій судны на загрузку прадукцыяй «Уралкалію», скасоўвалі выгадныя кантракты, абяцаючы заключыць іх з «Уралкаліем» па больш нізкіх коштах. «Мэта відавочная — замкнуць на сябе ўсе фінансавыя патокі і асноўных гандлёвых партнёраў на ключавых рынках», — упэўнены ў СК. Калі б гэта было зроблена, то ўвесь продаж ішоў бы праз «Уралкалій Трэйдынг», які на 100% належыць «Уралкалію».

«Беларуськалій» жа апынуўся б без рынкаў збыту. Беларускія чэкісты такога дапусціць не маглі.

У міжнародны вышук аб'яўленыя і іншыя менеджары БКК і «Уралкалію». Нават дзеяннямі валадара «Уралкалію» Сулеймана Керымава даецца «прававая ацэнка».

Але штосьці ў гэтай гісторыі не стасуецца.

Найперш, не верыцца ў тое, што ў БКК не здолелі заўважыць «скасаванне выгадных кантрактаў» і «перанакіраванне зафрахтаваных пад беларускі калій суднаў» на «Уралкалій». Але адначасова, а менавіта ў перыяд «разводу» паміж БКК і «Уралкаліем», 25 ліпеня дырэктар БКК Валер Іваноў сыходзіць з гэтай пасады і становіцца намеснікам старшыні Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі.

Пакуль беларускія следчыя капаюць пад кіраўніцтва «Уралкалію», той самы Сулейман Керымаў 20 мая сустракаецца з Аляксандрам Лукашэнкам і абмяркоўвае сумесную палітыку ў межах БКК. Лукашэнка заяўляе, што «мы будзем умацоўваць нашы дзеянні па адзінстве на рынку калійных угнаенняў».

Але дзеянні чамусьці супрацьлеглыя: «скасаванне шлюбу» і падзенне калійнага рынку.

«Беларуськалій» крыкам крычыць: «Гэта была спроба рэйдарскага захопу нашага прадпрыемства!» Пра той жа рэйдарскі захоп кажа і следства, і беларускі агітпроп. Але ўсё, «Беларуськалій» выстаўлены на продаж? Альбо ягоныя акцыі свабодна прадаюцца на рынку? Расія, канешне, не супраць набыць беларускае прадпрыемства, але Лукашэнка яшчэ ў 2010 годзе сказаў: яно каштуе 30 мільярдаў долараў, і прадаваць яго ніхто не будзе. Кропка. Дык пра які рэйдарскі захоп можа ісці гаворка?

А вось што тычыцца самога «Уралкалію», то тут якраз ідзе той самы рэйдарскі захоп. Як ужо казалася, «Уралкалій» патаннеў на 20%. Падчас абвалу фонд Сулеймана Керымава скупае 4,55% акцый прадпрыемства і павялічвае сваю долю з 17,2% да 21,75%. На гэтым абвале Керымаў зэканоміў каля 130 мільёнаў долараў.

У той жа час другі акцыянер «Уралкалію» — кампанія Wadge Holdings Limited, якая валодае 12,5% акцый «Уралкалія», абвяшчае пра змену ўладальнікаў. Яе ўладальнікамі становяцца фонд Сулеймана Керымава і яшчэ два буйнейшых акцыянера «Уралкалію» — Філарэт Гальчаў і Анатоль Скураў.

Такім чынам, спадар Сулейман Керымаў можа лічыцца ўладаром чвэрці «Уралкалію».

Паведамленне аб арышце Баўмгертнера зноў абрынула акцыі расійскага прадпрыемства. За два дні яны ўпалі на 5%. І, магчыма, гэтае падзенне не апошняе, паколькі беларуская следчыя перайшлі да разважанняў пра магчымасць арышту маёмасці «Уралкалію» як на тэрыторыі Беларусі, так і за яе межамі.

Цікава, колькі гэтым разам скупіць акцый «Уралкалію» Сулейман Керымаў?

Наўрад ці беларускі бок прыняў рашэнне пра арышт Баўмгертнера без значнай выгады для сябе. Арыштаваць чалавека, які прыбыў у Мінск па запрашэнні прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча, — гэта як абвясціць вайну. Тым больш, што разам з Баўмгертнерам запрашэнне дасылалася і віцэ-прэм'еру Расіі Аркадзю Дварковічу, а пра візіт гендырэктара «Уралкалію» дамаўляўся, па інфармацыі «Forbes», сам Дзмітрый Мядзведзеў. Значыць, рашэнне пра арышт прынятае на самым версе.

Выгада ёсць, і вельмі значная. Калі «Уралкалій» будзе надоўга выведзены з гульні, то на рынку ўзнікне пэўны дэфіцыт калійных угнаенняў. І кошты на іх пойдуць уверх, што адназначна выгадна «Беларуськалію». Дасягненнем будзе нават тое, калі спыніцца планаваны дэмпінг «Уралкалію» на сусветным рынку, і кошты застануцца хаця б на месяцы. Зніжэнне ж кошту калію, якое спецыялістамі прагназавалася ўжо даўно, нанясе значны ўдар па беларускім бюджэце. Такім чынам, Беларусь зацікаўленая ў дэфіцыце калію на сусветным рынку, чаго можна дамагчыся калі не выключэннем з рынку, то абмежаваннем дзеянняў аднаго з найбуйнейшых гульцоў — «Уралкалію». Памятаеце пра магчымы арышт маёмасці нядаўняга беларускага партнёра?

Няўжо Лукашэнка і Керымаў сапраўды дамовіліся пра рэйдарскі захоп «Уралкалію»?

Працяг на стар. 2, 12 ▸

▸ БЕЛАРУСЬ–РАСІЯ

# ЦІ ЧАКАЦЬ НАМ «ВАЙНЫ БАЎМГЕРТНЕРА»?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Адразу пасля затрымання ў Мінску топ-менеджара «Уралкалію» Уладзіслава Баўмгертнера, беларускія і расійскія аналітыкі прагназавалі новую «вайну» з Расіяй. Быццам бы, у беларуска-расійскіх адносінах можа запахнуць малочнымі і газавымі войнамі, актывізуецца галоўны санітар АніШчанка, Расія націсне на тармазы па ўсіх фінансавых праектах з удзелам Беларусі. Але чым далей Баўмгертнер застаецца ў «амерыканцы», тым стрыманей становіцца рэакцыя Расіі.**



Уладзіслаў Баўмгертнер




Расія магла б адрэагаваць на арышт Баўмгертнера больш рашуча. Але заявы з заклікам вызвалення Баўмгертнера выдаюцца на ўзроўні «трэцяга эшалону» расійскай улады, а найбольш актыўную пазіцыю займаюць толькі МЗС і расійскае пасольства. Пакуль не чапаюць «цяжкую артылерыю»: не выступае з асуджэннем Пуцін і не пушчаны ў ход Анішчанка. Чаму?

Найперш, варта адзначыць, што ў спрэчцы са «скасаваннем шлюбу» паміж «Уралкаліем» і БКК Расія, выказаўшыся раней, сама паставіла сябе ў кут. Як толькі стала вядома, што «Уралкалій» парывае сувязі з БКК, з расійскага боку гэта было заяўлена як «спрэчка гаспадарчых суб'ектаў». Маўляў, гэта справа кампаній, і аніякай палітыкі тут няма. Таму, выбачайце, і палітычных рычагоў уздзеяння на «Уралкалій» быць не можа. Зараз гэтым аргументам скарыстаўся беларускі бок. МЗС Беларусі запатрабаваў не пераводзіць спрэчку гаспадарчых суб'ектаў у палітычнае рэчышча, бо палітыкі тут няма — выключна крымінал. І Расіі прыйшлося гэта праглынуць.

Не ўмяшаўся ў сітуацыю Уладзімір Пуцін. Здавалася б, аднаго ягонага слова было б дастаткова, каб Баўмгертнер апынуўся на волі. Але Пуцін не выступіў. І не толькі таму, што сама Расія падала сітуацыю паміж кампаніямі як гаспадарчую спрэчку. Пуціну няма чаго ўмешвацца, бо Баўмгертнер — не ягоны чалавек. І ўладар кампаніі Сулейман Керымаў — не ягоны. Хутчэй, наадварот.

Як кажа кіраўнік аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Леанід Заіка, Керымаў — гэта чалавек «дагестанскай мафіі», а былы мэр Махачкалы зараз знаходзіцца пад следствам і сядзіць у Лефортава. Да таго ж, «Уралкалій» быў канторай і «лужкоўскай мафіі», так што асаблівага піетэту ў Пуціна да Керымава і «Уралкалію» не маецца. Заіка нават не выключыў, што «Уралкалій» праз некаторы час будзе нацыяналізаваны.

Керымаў і «Уралкалій» — гэта вотчына «малодшага ў тандэме» Дзмітрыя Мядзведзева. Як паведаміў СМІ віцэ-прэм'ер Расіі Ігар Шувалаў, Мядзведзеў «даў усе неабходныя даручэнні, і да таго, што здарылася, падключаныя ўсе ведамствы». Аднак інтарэсы Пуціна і Мядзведзева супадаюць далёка не заўсёды. І ўжо здаралася, што ў калійным бізнэсе іх пазіцыі супярэчылі адзін аднаму.

Група Дзмітрыя Мядзведзева ўжо даўно спрабавала дамагчыся прыватызацыі «Беларуськалія» на выгадных для сябе ўмовах. Аднак яе палітычнай вагі аказалася недастаткова для эфектыўнага ціску на Аляксандра Лукашэнку.

Не вельмі актыўна ўключылася ў падтрымку Баўмгертнера і Дзярждума Расіі, прынамсі, ніякай кансалідаванай заявы не зрабіла. А ўсё з таго, што нядаўна быў прыняты «закон аб маёмасці дэпутатаў»: тыя, хто маюць актывы і ўласнасць за межамі Расіі, не могуць быць дэпутатамі. Дэпутат Федэральнага Сходу Расіі Сулейман Керымаў зрабіў свой выбар на карысць «залатога бычка», і ад дэпутацтва адмовіўся.

Да таго ж, сам Керымаў, у дачыненні да дзеянняў якога беларускія следчыя даюць «прававую ацэнку», проста маўчыць. А мог бы і сам звярнуцца да Лукашэнкі ў гэтай справе, бо яны ж нібыта сябры, колькі разоў сам-насам сустракаліся!

Магчыма, каб у Беларусі былі арыштаваны сам Керымаў альбо кіраўнік Савету дырэктараў БКК і былы кіраўнік Адміністрацыі расійскага прэзідэнта Аляксандр Валошын, то сітуацыя б выглядала па-іншаму. А так: ну хто такі Баўмгертнер? Трэці намеснік пятага начальніка? І дзеля яго непакоіць Пуціна?

Калі казаць аб магчымых палітычных наступствах справы Баўмгертнера, то яны будуць залежаць ад гатоўнасці Масквы да поўнамаштабнага канфлікту. А да гэтага канфлікту Масква не гатовая. У іх на павестцы дня Алімпіяда, стварэнне Еўразійскага саюза і вялікія праблемы з намерам Украіны падпісаць асацыяцыю з Еўрасаюзам. Баўмгертнер можа пачакаць.

Канешне, Мінск прадэманстраваў не толькі расійскім, але і ўсім іншым інвестарам, як ён ставіцца да дзелавых партнёраў. Таму чакаць запланаванага аб'ёму інвестыцый у 6,7 мільярда долараў на наступны год не варта. Але гэтыя планы і так былі невыканальныя, і ніхто на іх сур'ёзна не разлічваў. Мінск можа атрымаць і пэўны іншы «гешэфт»: расійскія алігарха-чыноўнікі надалей тры разы падумаюць, перш чым улазіць у праекты «халдэнгізацыі» Беларусі, якія з такімі цяжкасцямі прасоўвае расійскі віцэ-прэм'ер Аркадзь Дварковіч.

Адзінае, што можа непакоіць беларускі бок, — гэта лёс новага крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС, пра гатоўнасць узяць які заявіла Беларусь, і нафтавы баланс на чацвёрты квартал 2013 года і 2014 год. Гэтыя праблемы будуць абмяркоўвацца на пасяджэнні Савета міністраў Саюзнай дзяржавы 17 верасня. З-за Баўмгертнера перамовы будуць ускладненыя, але і не з такіх складанасцяў беларуская чыноўнікі выплывалі.

Адзіная непрадказальная фігура — санітарны ўрач Расіі. Калі яму дадуць «адмашку», пойдуць і войны. Але, падаецца, у Расіі больш жадання прадэманстраваць Украіне выгоды Мытнага саюза, чым «гандлёвымі войнамі» вызваляць Баўмгертнера.

▸ АГЛЯД

# ГАНГСТАРСКАЯ ТАКТЫКА НА КАЛІЙНЫМ РЫНКУ

Зміцер ГАЛКО

**«У глабалізацыі ёсць свая іронія. Фінансавы лёс кампаніяў у ЗША, Германіі, Ізраілі і Канадзе залежыць ад дзеянняў былога старшыні саўгасу, а цяпер дыктатара малавядомай усходнееўрапейскай краіны, і настолькі ж непрадказальны», — піша «Bloomberg» пра арышт гендырэктара «Уралкалію» ў Беларусі, які паўплываў на сусветны рынак калійных угнаенняў.**




Выданне называе гэты крок спробай даць задні ход распаду расійска-беларускага калійнага картэля, адзначаючы, што працэс быў запушчаны самім беларускім прэзідэнтам, калі ён падпісаў летась дэкрэт, які дазваляў «Беларуськалію» гандляваць у абыход БКК.

Пасля чаго, як памятае беларускі чытач, «Уралкалій» выйшаў з картэлю і пачаў дэмпінгаваць. Ён мог лягчэй за астатніх сусветных вытворцаў пераждаць зніжэнне коштаў, дзякуючы невысокаму сабекошту вытворчасці: беларускім і амерыканскім вытворцам тона абыходзіцца каля $100, а «Уралкалію» — $62.

«Вызваліўшы спачатку рынкавыя сілы ў калійнай прамысловасці шляхам разбурэння картэля, цяпер прэзідэнт спрабуе вярнуць камфортнае становішча манапаліста адзіным вядомым яму спосабам — узяццем закладніка», — гэтак, паводле «Bloomberg», выглядае сюжэт канфлікту.

«Ці спрацуе гэткі гамбіт — каб замест гандлёвай вайны Расія пайшла на саступкі Лукашэнку і адрадзіла БКК у той ці іншай форме? Падобна, рынак думае, што спрацуе: пасля арышту Баўмгертнера інвестары паднялі ўверх кошты акцый усіх калійных вытворцаў — апроч «Уралкалію». У свеце калійных угнаенняў гангстарская тактыка Лукашэнкі можа акупіцца», — заключае выданне.

«Гэтая загадкавая гісторыя далей мусіць быць усё цікавейшай, — цытуе «Stockhouse» словы прэс-сакратара канадскай калійнай кампаніі «Western Potash Corp». — Я ўпэўнены, што ў бліжэйшыя пару тыдняў мы ўбачым яшчэ нямала выгібаў і паваротаў сюжэту».

«Калі Бэн Афлек можа сыграць Бэтмэна, чаму б не паверыць, што «Уралкалій» адмовіцца ад сваёй стратэгіі і вернецца да супрацоўніцтва з «Беларуськаліем»? — іранізуе выданне.

Супраць таго, каб Бэн Афлек выканаў ролю Бэтмэна ў новым фільме кінакампаніі «Warner Bros.» у інтэрнэце сабрана ўжо болей за 80 тысяч подпісаў. «Ён недастаткова жахліва выглядае для ролі Бэтмэна. Бэтмэн — той, хто ўсяляе страх у сэрцы людзей», — адзначаецца ў петыцыі.

Але ў асноўным прагнозы датычна будучага лёсу тандэма «Беларуськалію» і «Уралкалію» несуцяшальныя.

«Чым бы ні скончылася гэтая гульня, БКК ужо не выратаваць, — піша «Blouin News». — Інвестары чакаюць падзення коштаў на чвэрць у выніку распаду картэляў. Добрая навіна для фермераў, якія іх набываюць».

Пра тое, што распад картэляў на калійным рынку быў прадказальны, гаворыць і Эндру Макензі, гендырэктар горназдабыўнай кампаніі «BHP Billton», якая нядаўна зрабіла стаўку на калій, уклаўшы 2,6 мільярда ў канадскі калійны праект. «Мы заўсёды казалі, што калійны бізнэс з часам страціць структуру картэльнага тыпу, таму мы, у некаторай ступені, прадказалі тое, што здарылася», — цытуе яго «The Telegraph».

Як піша «The Globe and Mail», «прымірэнне паміж «Уралкаліем» і «Белкаліем» выглядае малаверагодным». Выданне прыводзіць словы аналітыка «Рэнэсанс Капітал» Барыса Краснажонава, які лічыць, што барацьба ідзе не столькі за аб'яднанне, колькі за падзел рынкаў».

Такой самай думкі прытрымліваецца і незалежны эканаміст Сяргей Чалы: «Картэлі доўга не жывуць. І гэтаму ўжо не жыць. Можна паглядзець на прыклад АПЕК, які працягвае існаванне, але ні на што не ўплывае. А для чаго спатрэбілася ўся гэта гісторыя з арыштам? Каб паказаць! Бо інакш пацаны на раёне не зразумеюць. Ну і кантракты адбіць. Наколькі я разумею, яны цяпер без збытавай сеткі засталіся».

Каб падвесці рысу, працытую агенцтва «Reuters»: «Гэтая сутычка — яшчэ адзін сімптом дысфункцыі гандлёвых адносінаў, якая аказвае згубнае ўздзеянне на прастору былога СССР».

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ДЛЯ ЧАГО ПАТРЭБНЫЯ СКАНДАЛЫ

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Скандалы патрэбныя не толькі для таго, каб паскандаліць. Ёсць яшчэ і іншы бок: пад «фішкай» скандалу на другі план адыходзяць усе надзённыя праблемы і турботы. Ды яшчэ можна зваліць уласныя пралікі на які-небудзь фрагмент таго ж скандалу.**

Напрыклад, нечакана ў Беларусі адбылося тое, што мела адбыцца толькі напачатку 2014 года. Аляксандр Лукашэнка 26 жніўня падпісаў указ пра тое, што ў Беларусі на 45% павышаны стаўкі акцызаў на бензін, на 70% — на дызельнае паліва. Нагадаем, што Мінэканомікі прапанавала падняць акцызы на тыя ж працэнты толькі з 1 студзеня наступнага года. Вырашылі зрабіць гэта зараз.

Такім чынам, стаўка акцызу на 95-ы бензін і вышэй складзе 1 785 700 рублёў за тону, на бензін з актанавым лікам ад 91 да 95 — 2 238 800 рублёў, з актанавым лікам да 91 — 2 539 100 рублёў. Стаўка акцызу на дызельнае паліва ўстаноўлена ў памеры 1 686 100 рублёў. Улічваючы тое, што акцыз у кошце бензіну складае ад 16 да 24%, адпаведна, прыкладна на 5% вырастуць кошты на запраўках.

Здавалася б, ёсць нагода правесці чарговы акцыі кшталту «Стопбензін», бо кошт расійскай нафты для нас не павышаецца, а паніжаецца, і ніякай падставы для таго, каб павышаць канчатковы кошт на запраўцы, няма. Аднак кошты павышаюцца — трэба нечым затыкаць бюджэтныя дзіркі.

> Хтосьці думаў, што з-за арышту аднаго чалавека з Расіі нам больш грошай не дадуць? Памыліліся. Беларусь атрымае свае 440 мільёнаў долараў апошняга траншу стабілізацыйнага крэдыту АКФ ЕўрАзЭС

Таксама ёсць апошнія лічбы Белстата наконт нашай геаічнай сельскай гаспадаркі, якая ў чарговы раз неймавернымі высілкамі перамагла ў чарговай бойцы за ўраджай. «Не «змаганні», а менавіта, «бойцы», бо гаспадарка выйшла з гэтага інцыдэнту занадта пакалашмачанай. У Беларусі па выніках працы ў студзені-чэрвені 2013 года стратнымі былі 849 сельгаспрадпрыемстваў (56% ад агульнай іх колькасці), паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт. Сума чыстай страты сельгаспрадпрыемстваў павялічылася ў 3,4 разы ў параўнанні са студзенем-чэрвенем 2012 года і дасягнула 1,2 трыльёна рублёў.

Страты геаічнаму змагару трэба нечым кампенсаваць? Канешне. Мінэканомікі Беларусі пастановай ад 23 жніўня № 59 павысіла цэны на хлеб і хлебабулачныя вырабы. Згодна з дакументам, на 10% павышаюцца гранічныя максімальныя адпускныя цэны на хлеб жытні і жытна-пшанічны, булачныя вырабы з пшанічнай мукі з утрыманнем па рэцэптуры цукру і тлушчаў у суме не вышэй за 14%.

А тым, хто заўважыць павышэнне коштаў на хлеб і бензін, тым можна адказаць: «Вы тут скардзіцеся, а Баўмгертнер увогуле сядзіць!»

Не без карысці для сябе ўлада выкарыстала і галоўны галаўны боль рэспублікі — сітуацыю з афрыканскай чумой свіней. Пад выглядам надзвычайных высілкаў у барацьбе з АЧС, беларускія ўлады маюць намер усталяваць поўны кантроль над пастаўкамі камбікармоў і прэміксаў.

У прыватнасці, распрацаваны праект дзяржаўнага рашэння, які прадугледжвае, што «забеспячэнне жывёлагадоўчых комплексаў і асабістых падсобных гаспадарак грамадзян павінна ажыццяўляцца праз арганізацыі камбікормавай прамысловасці і спажыўкааперацыі айчыннымі кармамі, якія прайшлі ва ўстаноўленым парадку ацэнку адпаведнасці».

Пры гэтым «забараняецца рэалізацыя камбікармоў, кармавых сумесяў, вотруб'я, кармавых адходаў мукамольнай і крупяных вытворчасці, мінеральных дабавак і прэміксаў юрыдычнымі і фізічнымі асобамі, у тым ліку індывідуальнымі прадпрымальнікамі без узгаднення з дзяржаўнай ветэрынарнай службай». Таксама забарона распаўсюджваецца на імпарт названай прадукцыі з небяспечных па АЧС краін (рэгіёнаў).

У выпадку прыняцця дакумента будзе ўведзена забарона на ўтрыманне свіней на асабістых падворках грамадзян, якія пражываюць у населеных пунктах, дзе зарэгістравана афрыканская чума свіней (на тэрмін не менш за 6 месяцаў). Плануецца забараніць утрыманне свіней на асабістых падворках работнікаў жывёлагадоўчых аб'ектаў, а таксама на жывёлагадоўчых аб'ектах, на якіх не можа быць забяспечана захаванне ветэрынарна-санітарных правілаў.

Такім чынам, улады робяць аж чатыры рэчы. Па-першае, узаконьваюць незаконнае дагэтуль забіццё свіней у прыватных гаспадарках. Па-другое, забараняюць людзям трымаць свіней як мінімум на паўгады, адкрываючы дарогу на рынак толькі «дзяржаўнай» свініне. Трэцяе: фактычна ўсталёўваюць дзяржманаполію на камбікорм. І чацвёртае — адпаведна, «разгружаюць склады» айчынных камбікормавых прадпрыемстваў.

І ўсё гэта — вынік толькі адной паперы! Здаецца, калі б АЧС у Беларусі не існавала, яе трэба было б выдумаць.

Не забыліся ўлады і на знешнія крыніцы прыцягнення грошай. Хтосьці думаў, што з-за арышту аднаго чалавека з Расіі нам больш грошай не дадуць? Памыліліся. Беларусь атрымае свае 440 мільёнаў долараў апошняга траншу стабілізацыйнага крэдыту АКФ ЕўрАзЭС нягледзячы на арышт гендырэктара «Уралкалію». «Гэта ж ніяк не звязана з арыштамі, мы павінны свае абавязацельствы выконваць. Калі Антыкрызісны фонд прыйдзе да высновы завяршальны транш выдаць, мы яго выдадзім — куды мы падзенемся?» — заявіў намеснік міністра фінансаў РФ Сяргей Сторчак.

І дакладна ж, нікуды не падзенуцца. Больш за тое, разглядзяць пытанне і пра новы крэдыт. Бо, па словах Сторчака, АКФ ЕўрАзЭС будзе прымаць рашэнне аб выдзяленні новага крэдыту Беларусі «пры ўмове выканання ёю абавязацельстваў па папярэдняй крэдытнай праграме». «АКФ ЕўрАзЭС і краіны-чальцы павінны сказаць, што папярэдняя праграма дасягнула ўсіх вынікаў, для якіх яна ладзілася. Аналіз яшчэ трэба рабіць», — сказаў Сторчак.

Ну што, зробяць аналіз, высветляць, што ўсё ў парадку, і дадуць. Бо раней жа Беларусь не выконвала свае абавязацельствы перад АКФ. Прынамсі, прыватызацыю прадпрыемстваў на 2,5 мільярда долараў у год, як гэта было прадугледжана контрактам, ніхто выконваць і не збіраўся. Аднак грошы нам давалі і давалі. Не выключэннем будзе і гэты раз.

Цікава, чым жа мы такія добрыя для іх, што яны нас усё спансуюць? Пэўна, гэта нешта за межамі рацыянальнага.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ

На волю з гродзенскай турмы выйшаў старшыня «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч. Сустракаць палітвязня да турэмнай брамы прыйшлі дзясяткі ягоных сяброў, паплечнікаў і журналістаў.

Людзі чакалі Змітра пачынаючы ад поўначы. Супрацоўнікі міліцыі, якія дзяжураць пры турме, спрабавалі прагнаць «вахтавікоў», маўляў, тыя праводзяць незаконнае пікетаванне, але потым супакоіліся.

Зміцер пакінуў гродзенскую турму ў турэмнай робе. Лідар «Маладога фронту» выглядаў вельмі схуднелым, але бадзёрым. Ён распавёў, што яму загадалі ўжо сёння, у сераду, да 17-й гадзіны з'явіцца ў Мінску ў міліцэйскі ўчастак і зарэгістравацца. «Мяне нібыта выпусцілі з адной малой турмы ў другую, вялікую», — адзначыў вызвалены моладзевы лідар.

Пасля вызвалення Зміцер разам з жонкай Настай вырашыў на кароткі час заехаць у свае родныя Старыя Дарогі, каб пабачыцца з бацькам, які зараз хварэе. Найбліжэйшым часам Зміцер Дашкевіч паабяцаў падрабязна распавесці пра сваё зняволенне, а таксама пра планы на будучыню.

«Мы ўсе вельмі шчаслівыя, што наш сябра выйшаў на волю. Натуральна, ягоная крымінальная справа была сапраўднай правакацыяй напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, каб не даць Змітру ўдзельнічаць у Плошчы, і вельмі шкада, што Зміцер мусіў столькі часу правесці за кратамі», — адзначыў адказны сакратар аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Дзяніс Садоўскі. «Я проста шчаслівая, што Зміцер выйшаў на волю і што ён бадзёры і ўсміхаецца», — дадала жонка і паплечніца Дашкевіча Наста.

З улікам тэрміну, які Дашкевіч адбываў у 2006 годзе ў калоніі за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі (артыкул 193-1 Крымінальнага кодэксу Беларусі), лідар «Маладога фронту» правёў за кратамі амаль тры гады.

### АНДРЭЙ ГАЙДУКОЎ



Самы вядомы «шпіён» Беларусі застанецца за кратамі. 27 жніўня судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда адхіліла касацыйную скаргу Андрэя Гайдукова і яго абаронцаў на прысуд Віцебскага абласнога суда ад 1 ліпеня 2013 года. Гэтым прысудам Гайдукоў прызнаны вінаватым у замаху на ўсталяванне супрацоўніцтва на канфідэнцыйнай аснове з разведорганам замежнай дзяржавы.

«Абгрунтаванасць высноў суда аб вінаватасці Гайдукова ў здзяйсненні злачынства, а таксама і правільнасць юрыдычнай кваліфікацыі зробленага па ч. 1 арт. 14 і арт. 356-1 КК ні самім абвінавачаным, ні яго абаронцамі не аспрэчвацца. У пададзеных на прысуд скаргах утрымліваліся просьбы аб змякчэнні прызначанага пакарання ў выглядзе аднаго года шасці месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму», — паведаміла прэс-сакратар ВС Марына Лапо.

Але выклікае пытанне тое, што па словах Лапо, абцяжарваючымі абставінамі прысуду Гайдукову стаў «факт здзяйснення ім злачынства з карысных меркаванняў».

Гэта неяк не стасуецца з тонамі «кампрамату», што выплеснула на Гайдукова дзяржаўнай прэсай напярэдадні разгляду касацыйнай скаргі. Нешта ў «зліве» КДБ было не тое?



### МІХАІЛ ГРАБОЎСКІ

Форвард зборнай Беларусі па хакеі Міхаіл Грабоўскі знайшоў сабе новую працу. Ён пераходзіць у «Вашынгтон Кэпіталс», паведаміў тэлеканал ОНТ.

Па дадзеных тэлеканала, беларускі хакеіст заключыць кантракт на адзін год, за які зарobiць 3 мільёна долараў.

«Мне імпануе стыль гульні «Вашынгтона», гэта каманда атакі, — перадае словы хакеіста афіцыйны сайт НХЛ. — Я проста хацеў гуляць у тым клубе, які зацікаўлены ва мне. Генеральны менеджар каманды Джордж Макфа і галоўны трэнер Адам Оутс сапраўды хацелі бачыць мяне ў камандзе. Ім падабаецца, як я гуляю. Менавіта таму я абраў «Вашынгтон». Думаю, што змагу дапамагчы сваёй новай камандзе».

У мінулым сезоне 29-гадовы хакеіст выступаў за «Таронта Мэйпл лівз», дзе ў 48 матчах набраў 16 балаў (9 шайбаў і 7 перадач). У ліпені кіраўніцтва канадскага клуба выкупіла кантракт форварда. Пагадненне Грабоўскага з «Таронта» з гадавым заробкам у 5,5 мільёна долараў ЗША было заключана да 2017 года. За датэрміновае скасаванне кантракта канадскі клуб выплаціць беларускаму хакеісту 14 мільёнаў 330 тысяч долараў на працягу васьмі гадоў.

▸ **БЕЛАРУСЬ — ЭСТОНІЯ**

# КРАІНА, ДЗЕ ТРЭБА АДКАЗВАЦЬ

**Зміцер ГАЛКО**

**Усюдыісны супермэн гатовы пазбавіць няшчаснага грамадзяніна цяжару самастойнасці. Аднак у абмен на самастойнасць давядзецца трываць дробныя нязручнасці, кшталту планавых і пазапланавых адключэнняў вады з электрычнасцю. Калі спатрэбіцца, пацерпіць і ўшчыльненне забудовы. Спакойна выслухае папрокі ў тым, што ён утрыманец, бо аплачвае ўсяго 30% паслуг ЖКГ. І будзе ўсё прымаць з удзячнасцю, абы толькі яго не прымусілі адказваць за сябе самога.**



Крэнгольм

## Вялікая мара савецкіх людзей

Сяргей Мартынаў, былы міністр замежных спраў Беларусі (2003–2012 гады), у 2009-м сказаў у інтэрв'ю «Інтэрнэшнл Геральд Трыб'юн»: «Прагулка па Мінску, з яго МакДональдсам, «Макс Марай» і ажыўленым вячэрнім жыццём паказала б, што такое мая краіна — незалежная еўрапейская нацыя...»

Гэта быў перыяд пацяплення адносінаў з ЕС, ад якога чакалі значнай фінансавай дапамогі, таму з «таксама рускіх» вырашана было часова перакваліфікавацца ў «таксама еўрапейцаў». Чыноўнікі розных рангаў навыперадкі імкнуліся даказаць прыналежнасць Беларусі да заходняй цывілізацыі ў даступных ім катэгорыях.

Даўным-даўно, калі свет быў яшчэ двухпалярны, стваральнік поп-арта Эндзі Уорхал вызначыў розніцу паміж двума полюсамі ў сваёй правакатыўнай манеры: «Самае прыгожае ў Токіа — McDonald's. Самае прыгожае ў Стакгольме — McDonald's. У Пекіне і Маскве няма пакуль нічога прыгожага».

У адрозненне ад Уорхала, трэба думаць, Сяргей Мартынаў быў цалкам сур'ёзны і шчыры. Ён сапраўды ўпэўнены, што ў Беларусі ажыццявілася ў агульных рысах вялікая мара савецкіх людзей — жыць як на Захадзе. Былы міністр не так ужо і памыляецца, бо тая мара часцей за ўсё не пашыралася далей за шыльды, антураж, аксэсуары, стракатыя паліцы ў крамах, праслаўтыя джынсы і жуйку. А гэтага ўдосталь, бяры — не хачу.

Такім чынам мысляць не толькі беларускія ўрадаўцы, але і многія шараговыя грамадзяне. Таму нярэдка можна пачуць расчараваныя водгукі ад тых, хто толькі нядаўна змог пабачыць Еўропу на ўласныя вочы. «Ну нічога ж асаблівага...» Мара пра Захад паблякла, бо вабіла яго абалонка. Цяпер, калі больш-менш падобную нацягнулі на нашу краіну, людзям падаецца, як быццам розніца амаль не засталося.

Вядома, нам ужо не давядзецца перажыць таго, што перажывалі рэдкія адзінкі, каму пашчасціла трапіць на Захад за савецкім часам. Як расказваў мне адзін з такіх людзей, тады нават «звычайная ручка дзвярэй выклікала дзівоснае захапленне». Заменнікам недасяжнага Захаду, даступным простаму савецкаму чалавеку, была Прыбалтыка. Цяпер наўрад ці хто-небудзь назаве яе «іншай планетай» — вельмі шмат шнараў і драпін пакінуў на ёй пакутлівы працэс распаду СССР.

Тым не менш, у Эстоніі я адчуў сябе за мяжой.




Бык на лаве

## Кожны сам сабе дворнік

Здавалася б, ужо чым-чым, а чысцінёй беларуса ўразіць немагчыма. На яе працуе аранжавая армія дворнікаў, якія са сцэны гарадскога жыцця не сыходзяць цэлы дзень, месці вуліцы гоняць беспрацоўных разам з асацыяльнымі элементамі. Пра «самае чыстае месца на глобусе» спяваюць песні. З самай высокай трыбуны аўтарытэтна было заяўлена: «Я праехаў увесь свет, я бачыў Еўропу: усё сціснута, усё брудна, людзі труцца адзін аб другога, штурхаюць. Цяжка людзям там. А тут, у цэнтры гэтага хаоса, душа радуецца!»

Парадуецца тут душа, калі па тратуары ідзеш нібы па міннаму полю, абы не наступіць у пляўкі і соплі. Лаўку без шалупіння ад семак вакол яшчэ паспрабуй адшукай. Не кажучы ўжо пра загарадны адпачынак. У дзікай прыродзе дворнікі не водзяцца, на жаль, і тут ты разумееш, што хваленая чысціня знаходзіцца ў прамой залежнасці ад іх.

Але яшчэ болей, чым адсутнасць пляўкоў на тратуары і шалупіння ад семак вакол лавак, у Эстоніі мяне здзівіў асобна ўзяты гараж у горадзе Курэсаарэ. Самы звычайны гараж у двары самага звычайнага двухпавярховіка пяцідзясятых гадоў пабудовы. Шэрая цэгла, чырвоныя жалезныя дзверы. Мы зайшлі сюды разам з гаспадаром Андрэем Крыкуновым, каб выпіць піва. Работнік рыбзавода Тоомас Мялк, расстроены тым, што не змог паказаць працэс вытворчасці, бо ў гэты дзень быў шторм, і рыбу не лавілі, падарыў нам пакет воблы.

Сядзім, гутарым, чысцім воблу, пацягваем піва, як раптам я разумею — з гэтым гаражом нешта не тое. І не толькі таму, што над сталом мірна вісяць побач нібыта неспалучальныя сімвалы — эстонскі сцяжок і георгіеўская стужка. Андрэй — сын рускага афіцэра і эстонскай жанчыны. Не разрывацца ж напалам… Але ў гаражы нічога няма, апроч маленькага стала, двух крэслаў і двух вузкіх адкрытых слупкоў з палічкамі. На падлозе дыванок, на сценах нічога. «Ты, мусіць, сам машыну не рамантуеш?» — стаўлю пытанне рубам. Гаспадар кажа, што рамантуе. «А дзе ж твае інструменты?» — не супакойваюся я. Пра бруд і плямы масла пытацца няёмка, хаця ў нармальным гаражы яны таксама павінны быць. Ён, крыху здзіўлены маім пытаннем, дастае аднекуль пластыкавы чамадан, раскрывае — вось інструмент, усё тут.

Нават калі пасля двух пляшак піва гаспадар сказаў, што яму хопіць, я менеей здзівіўся.

## Ціхая дэмакратыя

Эстонская дзяржава не гоніць з-пад палкі сваіх грамадзян на суботнікі. Яны самі здольныя сабрацца, і не толькі самі, яшчэ і ўвесь свет заразіць сваім прыкладам.

У 2008 годзе Ахці Хейнл (галоўны канструктар Skype) і Райнэр Нылвак (заснавальнік інтэрнэт-партала Delphi) арганізавалі акцыю «Мая Эстонія. Зробім!» па ўборцы краіны ад смецця, якое назапасілася за доўгія гады ўздоўж дарог, у лясах, лугах і іншых месцах.

Народ адгукнуўся на заклік і выйшаў на агульнарэспубліканскі суботнік. Удзельнічаў кожны 27-ы жыхар краіны. За пяць гадзін добра арганізаванай працы 50 тысяч чалавек сабралі 10 тысяч тон смецця, у тым ліку 50 тысяч старых аўтамабільных пакрышак. Акцыі дапамаглі і многія фірмы. Да прыкладу, 40 кампаній, якія займаюцца ўборкай смецця, бясплатна далі ў арэнду транспарт і кантэйнеры, а «Nokia» выдала заснавальнікам 200 тэлефонаў «Nokia N82», якія маюць камеру і GPS.

Праектам займаўся камітэт аднадумцаў з 11 сябраў. Праграмнае забеспячэнне праекта выканаў галоўны архітэктар «Skype» Ахці Хейнл. Праект уключаў 11 лагістычных патокаў: праграмнае забеспячэнне, рэгістрацыя, фінансы, навакольнае асяроддзе, картаграфаванне, СМІ, IT, збор і перасоўванне смецця. У ходзе падрыхтоўкі да рэалізацыі праекта было праведзена картаграфаванне 40 тысяч месцаў нелегальнага смецця па ўсёй краіне. Спецыяльныя каманды зафіксавалі з дапамогай GPS-навігатара гэтыя месцы і нанеслі іх на карту (праграма Google Earth). На сайце суботніка добраахвотнікаў зарэгістравалі для ўдзелу ў ім (групамі 3–15 чалавек), якія павядамілі свае электронныя адрасы. Па гэтых адрасах ім паказалі час і месца збору для ўдзелу ў суботніку. Мясцовыя самакіраванні фінансавалі праект і ажыццяўлялі каардынацыю ўборкі.

Кампанія была прызнана самым важным мерапрыемствам года, а праект быў прызнаны лепшым лагістычным праектам года. Праект «Зробім!» (анг. «Let's do it!») ператварыўся ў міжнародны экалагічны рух, мэтай якога з'яўляецца збор смецця і яго далейшая перапрацоўка. Летась да яе далучылася і Беларусь.

Аднак Райнэр Нылвак, якога трапна назвалі «творцам ціхай дэмакратыі», марыць пра большае, чым проста ўборка смецця. На яго думку, з'яўленне новых тэхналогій можа дазволіць народу наўпрост кіраваць сваім лёсам і разам знаходзіць рашэнні агульных праблемаў.

«Бюракратыя робіць дзяржаву вельмі дарагой, — кажа ён. — Бюракратыя не давярае людзям, таму яна стварае прадпісанні і войска наглядчыкаў. Праўда, гэта не замяне злачынцам займацца цёмнымі справамі. Маючы сённяшнія тэхналогіі, можна пабудаваць празрыстую сістэму кіравання, каб такія ўчынкі стала здзяйсніць вельмі складана, калі не немагчыма...»

Райнэр лічыць, што «сёння можна ўявіць сабе існаванне такога праграмнага забеспячэння, дзе ад усіх дзеянняў чыноўніка застаецца адбітак і дзе відаць, якую працу ён зрабіў. Праграмнае забеспячэнне з належнай архітэктурай дазваляе ўсталяваць давер, даўшы бакам як абавязкі, так і свабоды».

Яго мара — каб «нейкія дзяржаўныя паслугі грамадзяне змаглі ажыццяўляць самі, напрыклад, старэйшыны вёсак і іх намеснікі, старшыні кватэрных таварыстваў, хатнія гаспадыні або пенсіянеры», што дазволіла б атрымаць «гнуткую сетку паслуг, якая ўлічвае ўсе мясцовыя асаблівасці...»

У будучыню ён глядзіць з аптымізмам: «Праблем, якія мы зможам вырашыць разам, тысячы. Тэхналагічна тут няма нічога немагчымага, хутчэй наадварот — гэтыя рашэнні цалкам рэальныя».

Улады ідэю падхапілі, як расказала каардынатар акцыі «Зробім!» Тацццяна Лаўрова. Па ініцыятыве прэзідэнта Эстоніі Томаса Хендрыка Ільвэса быў створаны «Народны сход» («Rahvakogu») — інтэрнэт-платформа для сумеснай законатворчасці прадстаўнікоў дзяржавы і грамадства.

# ЗА СЯБЕ

Калісьці я напісаў артыкул пра праграмістаў, дзе параўнаў іх з пралетарыятам пачатку XX стагоддзя. Не ў сэнсе эксплуатацыі і адносінаў да сродкаў вытворчасці, а па сваім статусе. Пралетарыяў пачатку мінулага стагоддзя было адносна няшмат, але яны выраблялі вельмі важны прадукт. Настолькі важны, што маглі лічыць сябе (і лічылі) творцамі матэрыяльнага свету, стваральнікамі будучыні. Гэтак жа сама намаганнямі праграмістаў сёння ствараецца новы свет у старым, яны падобным чынам знаходзяцца на перадавой прагрэсу. І гэта мусіць падштурхоўваць іх да сацыяльнай творчасці. Прыклад Ахці Хейнла і Райнэра Нылвака даказвае правільнасць маёй высновы.

На вялікі жаль, нягледзячы на тое, што беларускія праграмісты дэманструюць высокі ўзровень кваліфікацыі, выйграюць міжнародныя алімпіяды і конкурсы, іх асяродак падобныя постаці не спараджае. Наадварот, многіх з іх адрознівае высокая ступень сацыяльнай пасіўнасці.

## Запалкі дзецям не забава

Што таму віной — гісторыя, геаграфія, клімат? Праславутая ментальнасць, спасылкі на якую набілі аскому? Чаму нават людзі, занятыя сучасным відам дзейнасці, не вельмі залежныя ад дзяржавы і добра забяспечаныя, дэманструюць у Беларусі абыякавасць да грамадскіх праблемаў?

Калісьці беларускі прэзідэнт са згоды большасці выбаршчыкаў не павёў свой народ у абяцаны капіталістычны рай наўпрост, па ярах і пагорках, а, як усякія нармальныя героі, рушыў у абыход. Паціху-паманеньку, падтрымліваючы пад ручку, падсцілаючы саломку, дзе трэба, здымаючы з партызанскага атрада лішнія нягоды. Увогуле, атачыў беларусаў бацькоўскім клопатам так, што яны амаль і не заўважылі дарогі, прапырхаўшы над цяжкасцямі і небяспекамі. Нібыта з дому, то бок сацыялізму, не выходзілі, а глядзі ж, вунь ужо і капіталізм мільгае рознакаляровымі агеньчыкамі. Ласкава запрашаем, дарагія!

Так гаворыць афіцыйны міф. І ён цалкам праўдзівы ў той частцы, што стаўка была зробленая на пазбаўленне самастойнасці асобных грамадзян і гаспадарчых суб'ектаў. Дзеля іх жа выгоды, вядома. Як мы памятаем, у нас нават чыноўнікі «нібы дзеці малыя — запалкі трэба хаваць, бо дом спаляць».

Мы і самі адвучыліся іх чапаць, тыя запалкі. Хто яго ведае, чым абернецца...

## Крэнгольм vs. Камволь

Само параўнанне народа з малымі дзецьмі, якое чырвонай ніткай праходзіць праз усе прамовы з самай высокай трыбуны, вельмі зневажальнае. Але «нябачная рука рынка» сапраўды можа шмат чаго спаліць, калі суб'ектам рынкавых адносінаў прадастаўлена максімальная самастойнасць. Гэтак, у Эстоніі яшчэ ў першыя гады незалежнасці згарэў цэлы шэраг гігантаў савецкай прамысловасці, некаторыя іншыя дагарэлі пазней.

Адзін з найбольш балючых прыкладаў — Крэнгольмская мануфактура ў Нарве, дзе ў сямідзясятыя гады працавала да 12 тысяч чалавек (у 1990 годзе насельніцтва Нарвы складала каля 80 тысяч чалавек). Прыватызаванае ў 1994 годзе, у 2010-м прадпрыемства прызнанае банкрутам. Можаце ўявіць сабе, што гэта азначала для горада.

Тут быў зняты дакументальны фільм «Varesesaare venelased» («Рускія з Варонінай выспы») пра беспрацоўных, бяздомных, наркаманаў, злодзеяў, на здымкі якога дзяржава адмовілася даваць грошы, назваўшы яго «сацыяльнай парнаграфіяй». Самы запамінальны момант — калі зусім малады яшчэ хлопец, у якога ўжо амаль не засталося зубоў і нага гніе ад наркотыкаў, абдымае сваю «каханую жанчыну», таксама наркаманку, і расказвае, што яны пакахалі адно аднаго, калі ён... заразіў яе СНІДам. Хлопец цалуе яе ў жывот і кажа, што хоча, каб яна нарадзіла яму дзяўчынку.

Зараз паспрабуйце адказаць, нікуды не падглядаючы, у якім беларускім горадзе можна было б зняць падобную «сацыяльную парнаграфію»? Ён насіў калісьці неафіцыйнае званне «сталіцы наркаманіі і СНІДу». Калі вы не змаглі адразу яго ўзгадаць — гэта таксама вынік клопату дзяржавы пра ваш спакой у доўгай дарозе. Навошта «выцягваць брудную бялізну» і «расчэсваць язвы»?

Наўрад ці вы зможаце адразу адказаць, колькі чалавек працуе сёння на ААТ «Камволь». У савецкі час колькасць работнікаў прадпрыемства дасягала 7 тысяч. Цяпер яно ўваходзіць у топы самых стратных, у мінулым годзе тут працавала 949 чалавек. Аб'ёмы вытворчасці скараціліся ў 20 разоў. Прадпрыемства можа «пахваліцца» толькі шматмільярднай крэдыторскай запазычанасцю і заробкам работнікаў у 200–250 еўра. За гэтыя грошы людзі працуюць у напаўпустых, дрэнна асветленых і брудных цэхах, на станках, якім часцяком па 30–40 гадоў.

Прычына крызіснага стану тая ж самая, што і на Крэнгольме, — ніякай змовы цёмных сілаў. Як заўважыў у размове са мной Тармо Тамістэ, мэр Нарвы, ва ўмовах, калі бавоўну везлі сюды з Узбекістана, не пераймаючыся наконт выдаткаў, мануфактура магла існаваць толькі пры існаванні гарантаванага збыту. Пры капіталізме ж ніхто табе нічога не гарантуе, джаст бізнэс.

У Беларусі няма дастаткова пагалоўя авечак, каб забяспечыць «Камволь» сыравінай. «Найлепшыя авечкі ў свеце», якіх прэзідэнт трымае ў сябе на ферме, хаця і «даюць велізарную колькасць воўны», не спраўляюцца. Але ж ён працуе! Няхай высмоктвае з бюджэту грошы, няхай прадукцыя яго не карыстаецца попытам, затое людзі пры справе, не на вуліцы. Палітолаг Дзмітры Ісаёнак называе такую спецыфічную форму прадпрыемства, адзіны сэнс існавання якога палягае ў тым, каб людзі не бадзяліся без справы, «сацыяльным заводам». І лічыць



Кожны сам сабе дворнік



Хрушчоўка з паркоўкай



Зробім Эстонію чыстай

яе больш разумнай, чым выплаты дапамогі па беспрацоўю.

Падмывае з ім пагадзіцца — думка незацяганая, арыгінальная. Толькі для гэтага трэба забыць, што дзяржаўны бюджэт не гумовы. Грошы, якія ўбухваюцца ў кансервацыю безнадзейных прадпрыемстваў, — гэта пераведзены ў смецце абмежаваны рэсурс, адабраныя ў будучыні сродкі.

Заводы і фабрыкі — не егіпецкія піраміды, каб існаваць вечна. Эстонская і беларуская стратэгіі адрозніваюцца тым, што там хвост котцы адразу адсеклі, а ў нас рэжуць па частках. Толькі гэты «хвост» — жывыя людзі...

У Эстоніі атрымалася стварыць на руінах савецкай прамысловасці новую. Замест заводаў «імя каго-небудзь» выраслі тэхна- і прампаркі, кампаніі і канцэрны. Без ранейшай гігантаманіі, але хапае. Прамысловасць дае 30% ВУП. Ну а раптам не атрымалася б? Ніхто ж нічога не гарантуе, як было сказана вышэй. У большасці постсавецкіх рэспублік выйшаў аблом. Дык лепей не рызыкаваць.

На век прэзідэнта хопіць.

## Школа дэмакратыі

Амаль кожны жыхар Эстоніі, калі ён валодае кватэрай, праходзіць вымушаную школу дэмакратыі. Жыхары прыватызаванай кватэры абавязкова павінны быць членамі кватэрнага таварыства, створанага для сумеснага гаспадарчага абслугоўвання дома і ажыццяўлення агульных інтарэсаў.

Дзяржава больш не абавязана клапаціцца пра стан дамоў, і ўладальнікі кватэр, якія сталі чальцамі таварыства, нясуць калектыўную адказнасць за своечасовую аплату рахункаў, за стан дома і камунікацый. Адпаведна, усе праблемы, якія ўзнікаюць у ходзе эксплуатацыі дома, кладуцца на плечы жыхароў дома.

Апроч таго, калі ў адным доме пражываюць людзі рознага дастатку і сацыяльнага становішча, атрымліваецца велізарная камунальная кватэра, і праблемы ўзнікаюць амаль як у камуналцы. Вырашаць іх даводзіцца на сходзе, які не заўсёды збірае кворум. Прыходзіцца знаходзіць кампраміс паміж самымі беднымі жыхарамі і больш забяспечанымі.

Самастойнасць — гэта яшчэ і адказнасць, якую не кожны захоча на сябе ўзвальваць. Але тут даводзіцца і кантраляваць дзейнасць старшыні таварыства, і браць удзел у сходах — карацей, праяўляць грамадскую актыўнасць. Бо абыякавасць можа дорага каштаваць, а вінаваціць няма каго, дый бессэнсоўна.

Існуюць падобныя таварыствы і ў нас, прычым даволі даўно. Яшчэ ў 2003 годзе была створана «Канцэпцыя развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў РБ да 2015 года», якая прадугледжвала «давядзенне долі жыллёвага фонду, які абслугоўваецца на конкурснай аснове, да 100 працэнтаў шляхам стварэння прыватных арганізацый з пераважнай формай кіравання шматкватэрнымі жылымі дамамі — таварыствамі».

Аднак у канцы 2012 года, калі атрымалі агалоску канфлікты ў некаторых таварыствах, прэзідэнт робіць выгляд, што нічога пра існаванне таварыстваў увогуле не ведаў: «Там нейкія з'явіліся таварыствы забудоўшчыкаў, ці як яны называюцца. І калі я асабіста пацікавіўся ў некаторых людзей, яны кажуць: «Мы пра гэта не ведаем, нам вось сказалі, і мы плацім дадаткова за гэта і за тое». Адразу ж у дзяржаўных СМІ пачала з'яўляцца негатыўная інфармацыя пра таварыствы ўласнікаў. Выглядала ўсё гэта як спрэчка ў адной асобна ўзятай галаве.

Зрэшты, дзіўна не тое, што на таварыствы абрынуліся з крытыкай, здзіўляе само іх існаванне, якое супярэчыць курсу на мінімальную самастойнасць грамадзян.

А ці патрэбна яна ім? Па выніках даследавання Рэспубліканскага сацыяльна-асветніцкага грамадскага аб'яднання «Сумеснае домаўладанне», 85% сябраў таварыстваў уласнікаў не ўдзельнічаюць у працы жыллёвых самакіраванняў — «няма часу», «няма жадання», «не бачу сэнсу».

У новабудоўлях таварыствы ствараюцца звычайна забудоўшчыкам, якому жыхары часта дазваляюць праводзіць у кіраўніцтва сваіх людзей, бо абіраць уласнага прадстаўніка няма часу. Натуральна, чалавек забудоўшчыка дзейнічае ў першую чаргу ў інтарэсах забудоўшчыка. А разам з тым можа яшчэ і валодаць кампаніяй па абслугоўванні з усімі адпаведнымі наступствамі. Разбірацца ў гэтым у жыхароў дома няма жадання.

Тут, вядома, прылятае на крылах усюдыісны супермэн, гатовы пазбавіць няшчаснага грамадзяніна ад цяжару самастойнасці. У абмен на якую яму давядзецца цярпець дробныя нязручнасці кшталту планавых і пазапланавых адключэнняў вады з электрычнасцю. Калі спатрэбіцца, пацерпіць і ўшчыльненне забудовы. Спакойна выслухае папрокі ў тым, што ён утрыманец, бо аплачвае ўсяго 30% паслуг ЖКГ. І будзе ўсё прымаць з удзячнасцю, абы толькі яго не прымусілі адказваць за сябе самога.

Мне цяжка меркаваць, ці з'яўляюцца таварыствы жыхароў найлепшай формай домаўладання. Магчыма, ёсць і лепшыя. Я пра іншае — для беларусаў, як ні сумна прызнаваць, нават пачатковая «школа дэмакратыі» аказалася непасільнай.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# У ЯКІ БОК СКІРУЕЦЦА ЛАКАМАТЫЎ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ?

Сяргей НІКАЛЮК

**Актуальнасць пытання: «Калі не ён, дык хто ж?» дастаткова спрэчная, тым не менш пошукі адказу на яго працягваюцца з энергіяй, вартай лепшага скарыстання.**




Артыкул Арцёма Шрайбмана «Дзе беларусам шукаць свайго Навальнага?» сабраў на TUT.BY больш за 400 каментараў. Такая актыўнасць наведвальнікаў сайта не павінна здзіўляць. Па традыцыі, да пошуку лідара, што здольны змагацца з адзіным палітыкам (АП), і зводзіцца большасць дыскусій у апазіцыйным сегменце беларускага грамадства.

Аўтар артыкула абапіраецца на меркаванне экспертаў і прапануе звярнуць увагу на наменклатуру. Вось дзе Клондайк будучых лідараў, здольных адказаць на пытанне: «Калі не ён, дык хто?». У якасці абгрунтавання свайго аптымізму Арцём прыводзіць «феномен Аляксея Навальнага ў Расіі», які «звязаны якраз з разрывам традыцыйнага шаблону супрацьстаяння кансерватыўнай наменклатуры і прагрэсіўнай інтэлігенцыі».

## Нечаканая сацыялогія

Прыглядземся да «феномену Аляксея Навальнага» з дапамогай вядучых расійскіх сацыялагічных службаў. Паводле «Лявада-цэнтра», у чэрвені электаральны рэйтынг Навальнага не дацягнуў і да 1%. Гэта ў Расіі. А ў сталіцы, дзе сканцэнтравана «прагрэсіўная інтэлігенцыя», сваю гатоўнасць галасаваць за вядомага блогера на прэзідэнцкіх выбарах выказаў 1% масквічоў.

У тым, што Навальны — не проста блогер, а блогер вядомы, сумнявацца не даводзіцца. З красавіка 2011 года па сакавік 2013-га (найноўшых дадзеных я не маю) яго рэйтынг пазнавальнасці павялічыўся з 6% да 37%. Але, як гэта ўжо неаднаразова фіксавалі і беларускія сацыёлагі, рост пазнавальнасці палітыка аўтаматычна не вядзе да росту колькасці яго прыхільнікаў.

Не заўважае Навальнага ў якасці кандыдата ў прэзідэнты і Фонд грамадскай думкі (ФОМ), які адсочвае дынаміку электаральных рэйтынгаў расійскіх палітыкаў у штотыднёвым рэжыме.

У якасці каментара прывяду фрагмент інтэрв'ю дырэктара «Лявада-цэнтра» Льва Гудкова: «Навальны, безумоўна, яркая постаць. Сапраўды, у яго вельмі вялікая вядомасць. Але ў якасці кіраўніка горада ён як значная фігура не разглядаецца. І за яго гатовыя прагаласаваць ад трох да крыху больш за працэнта. Адпаведна, ад колькасці тых, хто ўжо вызначыўся і гатовы да выбараў, — гэта прыкладна 8 працэнтаў. Усё адно гэта несупастаўныя лічбы. Усе астатнія кандыдаты набіраюць нават крыху менш. Таму сур'ёзнай канкурэнцыі Сабяніну няма».

Кампанія «Synovate Comcon» публікуе больш аптымістычныя для блогера дадзеныя. У прыватнасці, паводле апошняга апытання масквічоў (15–21 чэрвеня), рэйтынг пазнавальнасці Навальнага склаў 78%, і за яго гатовыя галасаваць 20% ад колькасці выбарцаў, што збіраюцца галасаваць (за Сабяніна — 63%).

А зараз параўнаем расійскую «сацыялогію» з беларускай (НІСЭПД). У чэрвені электаральны рэйтынг Някляева склаў 5%, Саннікава — 3%, Мілінкевіча — 2%. Звычайная для палітычнага міжсезоння карціна. Падчас жа прэзідэнцкіх выбараў ва ўмовах электаральнай мабілізацыі сумарны электаральны рэйтынг дэмакратычных кандыдатаў ніжэй за 25% у Беларусі яшчэ ні разу не апускаўся.

І тым не менш феномен Навальнага існуе, але яго не там шукаюць. Ён не ў папулярнасці, безумоўна, яркага палітыка, а ў яго надзвычай нізкім узроўні электаральнай падтрымкі.

## Такі палітык у нас ёсць!

Зацыкленасць на пошуку лідара, «здольнага сур'ёзна пазмагацца» з АП, азначае дамінаванне ў грамадскай свядомасці ўяўленняў пра палітычны працэс як пра своеасаблівы двубой, дакладней, пра паядынак гладыятараў (на карысць гладыятараў сведчыць наяўнасць шаноўнай публікі на трыбунах).

Тут самы час прыгадаць п'есу Яўгена Шварца «Дракон». Яе асноўная ідэя добра вядомая: герой, што перамагае Дракона, непазбежна ператвараецца ў новага Дракона, і так будзе да таго часу, пакуль кожны жыхар горада не заб'е Дракона ў сабе. На мове «Азбукі паліталогіі» гэта азначае, што пераход ад аўтарытарызму да дэмакратыі не можа быць ажыццёўлены сіламі партыйнай апазіцыі, нават калі на чале яе — самы што ні ёсць харызматычны лідар.

І гэта не тэорыя, гэта практыка. Мы жывём у краіне нявывучаных гістарычных урокаў. Нашу здольнасць ігнараваць досвед мінулага, нават не вельмі аддаленага, варта прызнаць фенаменальнай. Элементарны прыклад: пагібель камуністычнага Дракона надышла без удзелу героя, народ яе вітаў, як вітаў і пераможца першых прэзідэнцкіх выбараў. Далей падзеі пачалі разгортвацца паводле Шварца (гэтак жа, як, між іншым, і ў большасці постсавецкіх дзяржаў).

Але замест аналізу аб'ектыўных прычын драканізацыі беларускія інтэлектуалы (і не толькі беларускія) заняліся калекцыянаваннем суб'ектыўных фактараў, якія спрадзілі драканізацыю. Час, аднак, не стаіць на месцы, ён і сфармаваў новую задачу — вызначыцца з мінімальным наборам асобасных характарыстык, якімі павінны валодаць будучыя пераможцы Дракона. Паралельна напрацоўваецца і камплект пераможных тактык-стратэгій, а таксама іх ідэалагічнае абгрунтаванне.

Вернемся да артыкула Арцёма Шрайбмана. І тут варта цытаваць: «Палітык, які прыйшоў з народа і апелюе да праблем простых людзей з патрэбным у гэты гістарычны перыяд папулізмам, мае сур'ёзныя шанцы на поспех».

Брава! Я нават ведаю імя палітыка з такімі характарыстыкамі. Думаю, яно вядомае і ўсім чытачам НЧ.

Галоўнай праблемай простых людзей ва ўсе часы была, ёсць і будзе справядлівасць. Таму ўсе будучыя Драконы рабілі яе галоўнай тэмай сваіх выбарчых кампаній, а Драконы-пераможцы ставілі справядлівасць у цэнтр практычнай палітыкі. Пры гэтым неабходна памятаць, што існуюць два тыпы справядлівасці: ураўняльная, папулярная ў беларускай «большасці», і спаборніцкая. У расколатых грамадствах (наш выпадак) проціборства двух тыпаў справядлівасці выяўляецца, у прыватнасці, у спрэчцы: плаціць працаўнікам паводле выдаткаў энергіі і часу, ці за вынікі, прызнаныя рынкам.

Палітык-папуліст асуджаны апеляваць да «большасці», якая адпрэчвае спаборніцкі тып справядлівасці. Такі палітык у нас ёсць! Няўжо дзеля замены аднаго папуліста на іншага беларусам варта марнаваць час на пошукі «свайго Навальнага»?

## Мадэрнізацыйны паўфабрыкат

Адну з прычын «феномену Навальнага» варта шукаць у «поспехах» расійскіх лібералаў часоў Гайдара. Гэта яны заклалі асновы сацыяльна-эканамічнай мадэлі, якая дазваляе сёння 1% насельніцтва валодаць 71% актываў хатніх гаспадарак Расіі (рэкорд сярод буйных дзяржаў). Для параўнання: ЗША — 37%, Кітай і Еўропа — 32%, Японія — 17%. Таму электаральныя рэйтынгі, якія перавышаюць статыстычную памылку, сярод расійскіх палітыкаў маюць Жырыноўскі, Зюганаў, Міронаў і прыдворны бізнэсмэн Прохараў. Для прафесійнага ж крытыка «партыі жулікаў і злодзеяў» і яго калегаў па ліберальным лагеры доступ у клуб электаральных палітыкаў зачынены.

Таму любы беларускі апазіцыйны палітык, які перыядычна прамаўляе словы «дэмакратыя», «рынак», «Захад» і інш., здольны па ўзроўні падтрымкі выбарцаў абысці сваіх знакамітых расійскіх калегаў. Зразумела, за межы «электаральнага гета» сёння ён не вырвецца.

Што будзе заўтра — тэма для асобнай размовы, але сёння дзейнічаюць абмежавальнікі, пераадолець якія ні ў Беларусі, ні ў Расіі апазіцыянерам не пад сілу. Растлумачу цытатай: «Чаму я ўпэўнены, што Навальны не можа выйграць? Бо для таго, каб чалавек па-за сістэмай стаў мэрам, прычым чалавек, які дэманструе максімальна рэвалюцыйныя лозунгі, для гэтага ў горадзе павінна адчувацца атмасфера вялікага дому вар'ятаў — актыўны рэвалюцыйны працэс, актыўнае рэвалюцыйнае браджэнне. Толькі ў такіх умовах чалавек па-за сістэмай можа, як ракета, вертыкальна ўзляцець і адкінуць усіх» (Леанід Радзіхоўскі, публіцыст).

Вялікі дом вар'ятаў — гэта аналаг рэвалюцыйнай сітуацыі ў тэрміналогіі Маркса—Леніна, а ў тэрміналогіі Лявады — гэта аналаг грамадства, якое перайшло са стану палітычнай апатыі ў стан палітычнай узрушанасці. Аналіз прычын і заканамернасцяў падобных пераходаў — адна з асноўных задач гуманітарных навук, якія спецыялізуюцца на вывучэнні грамадстваў, што не завяршылі мадэрнізацыю.

Маркс глядзеў на рэвалюцыю як на лакаматыў гісторыі. Усё правільна, вось толькі не варта забываць, што сучасныя лакаматывы здольныя рухацца як наперад, так і назад. І калі на пачатковым этапе руху роля машыніста (суб'ектыўнага фактару) бывае прыкметнай, то станцыя прыбыцця адназначна вызначаецца базавымі характарыстыкамі грамадства.

Як тут ні прыгадаць Лютаўскую рэвалюцыю: цар адрокся ад трону, лібералы сфармавалі часовы ўрад, які адразу вызваліў усіх палітычных зняволеных, ліквідаваў камітэт па справах друку і жандарскае ўпраўленне.

Але хуткая рэалізацыя задач буржуазнай рэвалюцыі ў сялянскай краіне спарадзіла «жывую творчасць мас», прычым мас узброеных. Вынікам гэтай творчасці стаў провал у архаіку, з якой так і не атрымалася цалкам выбрацца за гады будаўніцтва сацыялізму-камунізму.

Перабудова — рымэйк падзей 70-гадовай даўніны, але адбылася яна ў іншы гістарычны час. Калектывізацыя і індустрыялізацыя, разбурыўшы традыцыйнае сялянскае грамадства, спарадзілі чалавека савецкага ў асобе калгасніка і гараджаніна ў першым і ў другім пакаленні. Гэты мадэрнізацыйны паўфабрыкат і вызначыў вектар развіцця незалежнай Беларусі падчас дэмакратычных выбараў у 1994 годзе.

***

Крытыкаваць лёгка, але што канкрэтна можа прапанаваць аўтар? У гэтай «Азбуцы паліталогіі» — НІ-ЧО-ГА. Але «Азбукі паліталогіі» выходзяць рэгулярна ўжо пяты год, і, нягледзячы на разнастайнасць сюжэтаў, усе яны — спроба аўтара зразумець спецыфіку беларускага грамадства. Пра важнасць разумення мне ўвесь час нагадваюць ужо неаднаразова цытаваныя мною словы філосафа Аляксандра Грыцанава: «Выратаваць Беларусь можа толькі саюз кампетэнтнасці супраць некампетэнтнасці, а не саюз «дэмакратаў» і «патрыётаў», «лібералаў» і «дзяржаўнікаў», «саўкоў» і «нацдэмаў» адзін супраць аднаго».

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 2 верасня, панядзелак

**1 Беларусь**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.00** Дэтэктыўная меладрама «Пад прыцэлам кахання» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.15** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Журналіцкае расследаванне.
**15.55** Дак. серыял «Усе грані ўтрапёнасці».
**16.30** Усё як мае быць!
**16.55** Лірычная камедыя «Сям'я» (Расія).
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 22.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Вялікая прэм'ера! Біяграфічная драма «Вангелія». 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Серыял «У кожнага свая вайна»).
**23.30** Дзень спорту.
**23.40** Камедыйны баявік «Містар і місіс Сміт» (ЗША).

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер.фільм.
**12.10** «Жаночы доктар 2». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Тэрарыстка Іванова».
**22.15** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**00.20** «Біл Гейтс. Гісторыя поспеху».
**02.15** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Жыць будзеце».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі ў сябе дома-2».
**13.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Зорны рынг». Дайджэст.
**15.30** «Ежа багоў».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ашуканыя навукай».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Іншы мужчына». ЗША - Вялікабрытанія, 2008 г.
**22.25** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.40** «Фірмовая гісторыя». Серыял.

**2 Беларусь**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў» (Расія).
**10.15** Навіны надвор'я.
**10.50** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**11.50** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**13.10** Меладрама «Нахабніца» (Украіна). 1-я - 4-я, заключная, серыі.
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Серыял «Сяброўка Восень» («Беларусьфільм»-Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка, 38. Каманда Пятроўскага» (Расія). 1-я серыя.
**22.40** Авертайм.
**23.10** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**00.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

**3 Беларусь**

**08.00, 12.00, 16.00, 23.45** «Мой горад». Буда-Кашалёва.
**08.15** «Вобраз героя. Тадэвуш Касцюшка».
**08.35** «Маем рэчы». Рушнікі.
**08.55** «Сінематыка». Рэжысёр і кампазітар Ігар Волчак.
**09.35** «Лабірынты». Край за небакраем. Гісторыя мястэчка Сапоцкін.
**10.00** «Месца сустрэчы. Школа». Канцэрт.
**11.15** «Гісторыя беларускага тэатра. Нараджэнне».
**11.45** «Палескі пачастунак». Тушаная капуста.
**12.15** «Меншы сярод братоў». Псіхалагічная драма.1-я і 2-я серыі.
**14.50** «Сібірскі казачнік». Пётр Яршоў і яго казка «Канёк-Гарбунок».
**15.35** «Карані».
**16.15, 22.55** «Эпоха ВІА».
**17.10** «Збянтэжаны Саўка». Кароткаметражны фільм.
**17.45** «Росчырк часу». Мастакі Ірына Данілава і Арсеній Дваронін.
**17.55** «Творцы». Дырыжор Юрый Яфімаў.
**18.35** «Самы лепшы домік».
**18.55** «Лабірынты». Маёнтак Талстых у Беларусі.
**19.20** «Скарбніца Гарадзейшчыны». Позірк праз вякі.
**19.50** «Ленінградка». Дак. фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Загад». Армейская драма. 1-2 серыі.

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Прэм'ера. «Справа лекараў».
**15.15** «І зноў добры дзень!».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем».
**18.15** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Бамбіла. Працяг».
**21.20** Прэм'ера. Серыял «Каўбоі».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** «Карпаў».

**МИР**

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**06.40** Серыял «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Фільм «Чэгемскі дэтэктыў».
**10.45** «Разам».
**11.45** «Агульны рынак».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Серыял «Клон».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Серыял «Апошні сакрэт Майстры».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** «Беларусь сёння».
**19.00** Серыял «Закон і парадак. Злачынны намер».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Фільм «Створаныя зоркі».
**22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.20** Серыял «Апошні сакрэт Майстры».
**01.00** Фільм «Мой лепшы сябар».
**02.30** Серыял «Клон».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**07.10** «Апантаныя», дак. цыкл.
**07.25** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял.
**07.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.15** Два на два (тэледыскусія).
**08.40** Дакументальная гадзіна: «Журналісты», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**09.35** Euromaxx.
**10.05** Форум (ток-шоу).
**10.50** «Час гонару», серыял: 49 серыя.
**11.40** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**11.50** «Апантаныя», дак. цыкл.
**12.05** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял.
**12.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**13.00** Два на два (тэледыскусія).
**13.25** Дакументальная гадзіна: «Журналісты», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**14.20** Фільматэка майстроў: «Далёка ад акна», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**16.15** «Палітыканы», серыял: 1 серыя.
**17.05** «Напад Гітлера на Польшчу. Як пачалася Другая сусветная вайна», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**18.00** Еўропа сёння.
**18.30** Назад у будучыню.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Фільматэка майстроў: «Далёка ад акна», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**23.20** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**01.00** Асабісты капітал.
**01.20** Аб'ектыў.
**01.45** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 3 верасня, аўторак

**1 Беларусь**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**10.05** Біяграфічная драма «Вангелія» (Расія-Беларусь-Балгарыя). 1-я серыя.
**11.05** Камедыйная меладрама «Страшная прыгажуня» (Расія). Заключная серыя.
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Дак. серыял «Усе грані ўтрапёнасці».
**13.55** Серыял «У кожнага свая вайна».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Адмысловы рэпартаж АТН.
**15.45** Серыял «Мужчына ўнутры мяне».
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.40** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Вангелія» (Расія-Беларусь-Балгарыя). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.55** Серыял «У кожнага свая вайна».
**23.40** Дзень спорту.
**23.55** Серыял «Мужчына ўнутры мяне».

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Жаночы доктар 2». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Белараша».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Тэрарыстка Іванова».
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Прэм'ера. «Pink Floyd». «Гісторыя «Wish you were here».
**01.10** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**09.05** «Сакрэты старажытных прыгажунь».
**09.50** «Чыстая праца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі ў сябе дома-2».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**13.55** Фільм «Таямніца рукапісу». Вялікабрытанія, 2007 г.
**16.05** «Глядзець усім!».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не сніласяся».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Даспехі бога 2: аперацыя «Кондар». Ганконг, 1991 г.
**22.25** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Фірмовая гісторыя». Серыял.

**2 Беларусь**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў» (Расія).
**10.25** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**11.20** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.30** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**13.35** Серыял «Сяброўка Восень» («Беларусьфільм»-Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.30** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка, 38. Каманда Пятроўскага» (Расія). 1-я серыя.
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Серыял «Сяброўка Восень» («Беларусьфільм»-Расія). 3-я і 4-я, закл., серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка, 38. Каманда Пятроўскага» (Расія). 2-я серыя.
**22.40** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**23.35** Серыял «Пад сонцам» (ЗША).

**3 Беларусь**

**08.00, 12.00, 16.00, 23.55** «Мой горад». Зэльва.
**08.15, 19.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці Барыса Райскага.
**08.45** «Усе грошы з кашальком». Кароткаметражны фільм.
**09.20** «Лабірынты». Крэпасць над Днястром.
**09.50** «Творцы». Рэжысёр Уладзімір Трацякоў.
**10.20** «Ленінградка». Дак. фільм.
**11.00** «Маэстра и аркестр». Дырыжор Міхаіл Фінберг.
**11.30** «Калючая гісторыя».
**11.50** «Напалеон Орда».
**12.15** «Загад». Армейская драма. 1-2 серыі.
**14.20** «Лабірынты». Сеча пад Нікадзімава.
**14.55** «Скарбніца Гомельшчыны». Добруш.
**15.25** «Маем рэчы». Маляваныя дываны.
**15.40** «Гісторыя беларускай страўні». Мясныя прысмакі.
**16.15, 23.05** «Эпоха ВІА».
**17.15** «Росчырк часу». Мастачка Тамара Паўлючук.
**17.30** «Тэатр. Выбранае». А.Душакін.
**18.00** «Экслібрыс».
**18.15** «Карані». Галіна Тарасевіч і Людміла Ісак.
**18.40** «Музеум». Унікальная жырандоль, выкаваная паэтам-кавалём Паўлюком Багрымам.
**19.30** «Прарок».
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Ідзі і глядзі». Ваенная драма.

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Прэм'ера. «Справа лекараў».
**15.15** «І зноў добры дзень!».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Бамбіла. Працяг».
**21.20** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Каўбоі».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Карпаў».

**МИР**

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**06.40** Серыял «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Фільм «Страх вышыні».
**11.00** «Навіны Садружнасці. Культура».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Серыял «Клон».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Серыял «Апошні сакрэт Майстры».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** «Саюзнікі».
**19.00** Серыял «Закон і парадак. Злачынны намер».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Фільм «Эпоха. Падзеі і людзі».
**22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.20** Серыял «Апошні сакрэт Майстры».
**01.00** Фільм «Чэгемскі дэтэктыў».
**02.30** Серыял «Клон».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00, 12.00, 22.55** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**08.35** Асабісты капітал.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Еўропа сёння.
**09.50** Назад у будучыню.
**10.05** «Два каханні», маст. фільм, 2002 г., Польшча–Германія.
**11.35** «Дэструктыўная арганізацыя», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**13.35** Асабісты капітал.
**13.55** Аб'ектыў.
**14.25** Еўропа сёння.
**14.55** «Шапэн. Прага кахання», біяграфічны фільм, 2002 г., Польшча.
**17.00** «Небяспечны архіў. Рэабілітацыя», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**17.45** Размовы эксперта.
**18.00** На колах.
**18.30** Без межаў.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.30** Чорным па белым.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Dekalog 89+», цыкл кароткаметражных фільмаў, 2009 г.,.
**21.45** Спазнай свет: «Бог у турме», рэпартаж, Канада.
**22.10** Форум (ток-шоу).
**00.25** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**00.55** Аб'ектыў.
**01.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 4 ВЕРАСНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**10.05** Біяграфічная драма «Вангелія» (Расія-Беларусь-Балгарыя). 2-я серыя.
**11.00** Серыял «Адзіны мой грэх».
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Дак. серыял «Усе грані ўтрапёнасці».
**13.55** Серыял «У кожнага свая вайна».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Серыял «Мужчына ўнутры мяне».
**16.45** Зямельнае пытанне.
**17.15** Медычныя таямніцы.
**17.40** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Вангелія» (Расія-Беларусь-Балгарыя). 3-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.55** Серыял «У кожнага свая вайна».
**23.45** Дзень спорту.
**23.55** Серыял «Мужчына ўнутры мяне».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Жаночы доктар 2». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Белараша».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Тэрарыстка Іванова».
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.00** «Як Стыў Джобс змяніў свет».
**00.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**09.05** «Нам і не сніласля».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі ў сябе дома-2».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**13.55** Фільм «Даспехі бога 2: аперацыя «Кондар». Ганконг, 1991г.
**15.55** «Уявіце сабе».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Тэатр». ЗША - Канада - Вялікабрытанія - Венгрыя, 2004г.
**22.25** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Фірмовая гісторыя». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў» (Расія).
**10.25** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**11.20** Цела чалавека.
**11.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.30** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**13.35** Серыял «Сяброўка Восень» («Беларусьфільм»-Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.30** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка, 38. Каманда Пятроўскага» (Расія). 2-я серыя.
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** «Спортлато 5 з 36».
**21.30** КЕНО.
**21.35** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка, 38. Каманда Пятроўскага» (Расія). 3-я серыя.
**22.45** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**23.40** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00, 12.00, 16.00, 23.00** «Мой горад». Слаўгарад.
**08.15** «Вытокі. Эпімах-Шыпіла».
**08.45** «Из зала в зал переходя...». Знаёмства з экспазіцыяй Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.
**09.20** «Новы касмічны адлік».
**09.45** «Росчырк часу». Мастак В.Матусевіч.
**10.00** «Прарок». Эпізоды з жыцця акадэміка У.І Вярнадскага. Часткі 1-я і 2-я.
**11.05** «Тэатральныя фантазіі Ірэны Мацкевіч».
**11.35** «Архідэі Беларусі».
**12.15** «Ідзі і глядзі». Ваенная драма паводле «Хатынскай аповесці» Алеся Адамовіча.
**14.30** «Лабірынты». Ваенная слава і бясслаўе Быхаўскага замка.
**15.00** «Халады ў пачатку вясны». Кароткаметражны фільм.
**15.35** «Старажытнае слова. Лёс Міхаіла Баброўскага».
**16.15, 22.15** «Быль і небыль пра маршала Ракасоўскага».
**17.00** «Карані». Аляксандр Карскі - праўнук філолага-славіста, этнографа Яфіма Карскага.
**17.25** «Скарбніца Міншчыны». Ракаў.
**18.00** «Маем рэчы». Бортніцтва.
**18.15** «Прага жыцця». Народны артыст СССР Мікалай Яроменка.
**18.35** «Глыбокае». Дак. фільм пра старажытны горад Беларусі.
**18.45** «Знакі лёсу. Віктар Казько».
**19.20** «Гісторыя беларускай страўні». Супы і сытныя стравы.
**19.40** «Барыс Пакроўскі. Адкрыцці». Аб жыцці і працы савецкага і расійскага тэатральнага рэжысёра Барыса Пакроўскага.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Чырвонае лісце». Гераічная драма.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Прэм'ера. «Справа лекараў».
**15.15** «І зноў добры дзень!».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Бамбіла. Працяг».
**21.20** Прэм'ера. Серыял «Каўбоі».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Карпаў».

### МИР

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**06.40** Серыял «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Фільм «Горад прыняў».
**10.45** «Агульны інтарэс».
**11.15** Фільм «Нефармат».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Серыял «Клон».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Серыял «Апошні сакрэт Майстры».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**19.00** Серыял «Закон і парадак. Злачынныя намер».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Фільм «Каханне з зоркай».
**22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.20** Серыял «Апошні сакрэт Майстры».
**01.00** Страх вышыні.
**02.30** Серыял «Клон».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 12.10, 19.00, 23.35** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**08.30** Чорным па белым.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** На колах.
**09.55** Без межаў.
**10.10** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял.
**10.40** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял.
**11.05** Размовы эксперта.
**11.20** Форум (ток-шоу).
**13.40** Чорным па белым.
**14.05** Аб'ектыў.
**14.30** На колах.
**14.55** Без межаў.
**15.10** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял.
**15.40** Размовы эксперта.
**15.55** Форум (ток-шоу).
**16.40** «Ранча», серыял: 1 серыя.
**17.30** Асабісты капітал.
**17.50** Назад у будучыню.
**18.05** Праект «Будучыня».
**18.30** Беларусы ў Польшчы.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Глыбокая вада», серыял: 13 серыя.
**22.10** Два на два (тэледыскусія).
**22.35** «Напад Гітлера на Польшчу. Як пачалася Другая сусветная вайна», дак. фільм.
**01.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.35** Аб'ектыў.
**02.00** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 5 ВЕРАСНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**10.05** Біяграфічная драма «Вангелія» (Расія-Беларусь-Балгарыя). 3-я серыя.
**11.00** Меладраматычны серыял «Адзіны мой грэх» (Расія-Украіна). Закл. серыя.
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Дакументальны серыял «Усе грані ўтрапёнасці» (Германія).
**13.55** Серыял «У кожнага свая вайна».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.45** Каробка перадач.
**17.15** Дыялогі пра цывілізацыю.
**17.45** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Вангелія» (Расія-Беларусь-Балгарыя). 4-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.55** Серыял «У кожнага свая вайна».
**23.45** Дзень спорту.
**23.55** Серыял «Мужчына ўнутры мяне».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Жаночы доктар 2». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Белараша».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Тэрарыстка Іванова».
**22.15** «Вячэрні Ургант».
**23.50** «Усё або нічога: Невядомая гісторыя Агента 007».
**01.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**09.05** «Нам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**13.55** Фільм «Тэатр». ЗША - Канада - Вялікабрытанія - Венгрыя, 2004г.
**15.50** «Якія людзі!».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Дом ветру». Расія, 2011г.
**22.25** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Фірмовая гісторыя». Серыял. Заключныя серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў» (Расія).
**10.20** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**11.15** Вышэй за дах.
**12.20** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**13.25** «Пакуль мы жывыя...» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**15.30** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка, 38. Каманда Пятроўскага» (Расія). 3-я серыя.
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.25** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.45** КЕНО.
**21.50** Тэлебарометр.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка, 38. Каманда Пятроўскага» (Расія). 4-я серыя.
**23.10** Час футболу.
**23.55** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**00.45** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00, 12.00, 16.00, 22.40** «Мой горад». Полацк.
**08.15, 19.35** «Росчырк часу». Мастак Пётр Явіч.
**08.30** «Твар пад грымам». Фільм-партрэт народнага артыста СССР Барыса Платонава.
**09.10, 18.20** «Князь Астрожскі і яго рацъ».
**09.30** «Нарадзіўся ў Віцебску. Музыказнаўца Іван Салярцінскі».
**10.00** «Барыс Пакроўскі. Адкрыцці». Аб жыцці і працы савецкага і расійскага тэатральнага рэжысёра Барыса Пакроўскага.
**10.55** «Гісторыя беларускай страўні». Бульбяныя прысмакі.
**11.20** «Сінематыка». Цуд кінематографа.
**12.15** «Чырвонае лісце». Гераічная драма.
**13.45** «Карані». Скіт у Адрынках. Дзейнасць архімандрыта Гаўрыіла.
**14.15** «Драўляны народ». Пра разьбяра, народнага майстра Беларусі Мікалая Тарасюка.
**14.45** «Адкрытае люстэрка». Дак. фільм пра сферы выкарыстання люстэрка.
**15.15** «Магія дрэва».
**15.30** «Зорка на спражцы». Кароткаметражны фільм.
**16.15, 22.00** «Белы бусел. Не размініся з мараю». Дак. фільм пра беларускую пілатажную групу «Белая Русь».
**17.00** «Лабірынты». Драўляныя храмы Прыкарпацця. Часткі 1-я і 2-я.
**17.55** «Таямніца душы». Манашаства і творчае самавыяўленне.
**18.45** «Адзіная, каханая мая». Паэтычныя навелы па вершах беларускіх паэтаў.
**19.05** «У рэху імені тваймо..» Бірутэ. Пра жыццё жонкі князя Кейстута.
**19.20** «Маем рэчы». Хлеб.
**19.50** «Раман Качанаў. Фільм-партрэт». Дак. фільм пра рэжысёра-мультыплікатара, стваральніка вядомых мультфільмаў «Варежка», «Крокодил Гена», «Тайна Третьей планеты» і інш.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Свежына з салютам». Камедыя.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Выратавальнікі.
**09.05** «Медыцынскія таямніцы».
**09.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Прэм'ера. «Справа лекараў».
**15.15** «І зноў добры дзень!».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Бамбіла. Працяг».
**21.20** Прэм'ера. Серыял «Каўбоі».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Карпаў».

### МИР

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**06.40** Серыял «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Фільм «Услед за марай».
**11.15** «Дыяспары».
**11.45** «Кыргызстан у асобах».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Серыял «Клон».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Серыял «Апошні сакрэт Майстры».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** «Злачынствы і пакаранне».
**19.00** Серыял «Закон і парадак. Злачынныя намер».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Фільм «Амерыка-разлучніца».
**22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.20** Серыял «Апошні сакрэт Майстры».
**01.00** Фільм «Горад прыняў».
**02.30** Серыял «Клон».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.25** Праект «Будучыня».
**09.55** Беларусы ў Польшчы.
**10.10** «Глыбокая вада», серыял: 13 серыя.
**10.55** «Напад Гітлера на Польшчу. Як пачалася Другая сусветная вайна», дак. фільм.
**11.55** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**13.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.55** Аб'ектыў.
**14.20** Праект «Будучыня».
**14.50** Беларусы ў Польшчы.
**15.05** «Глыбокая вада», серыял: 13 серыя.
**15.50** Два на два (тэледыскусія).
**16.20** Невядомая Беларусь: «Верасень 1939. Як нас вызвалялі», дак. фільм, 2011 г.
**16.50** «Ранча», серыял: 2 серыя.
**17.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.05** Euromaxx.
**18.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Бландзінка», серыял: 5 серыя.
**22.10** «Молатаў: цень Сталіна», дак. фільм, 2010 г., Германія.
**23.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**00.35** Рэпартэр.
**01.00** Аб'ектыў.
**01.30** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №8 (84) (жнівень)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


**Анонс**



**ПОГЛЯД**

# ЗАЛАТАЯ БЕЛАРУСЬ

*Алесь БЯЛЯЦКІ*

**Тады яму было столькі гадоў, колькі цяпер мне — 50, а мне, адпаведна, на 25 гадоў меней. Вось такая ў нас розніца ў часе, у чвэрць стагоддзя, у адно пакаленне.**



Прачытаў у «Нашай Ніве» віншаванне з 75-гадовым юбілеем Юрыя Хадыкі. Юрыя Хадыку я ведаю даўно, чвэрць стагоддзя, з 1988 года — па супольнай працы ў арганізацыйным камітэце Беларускага Народнага Фронта.

Я з сімпатыяй і павагаю стаўлюся да Юрыя Хадыкі. Ён — беларускі інтэлектуал, адзін з найбольш выбітных дзеячоў у беларускім грамадскім жыцці, навуковец, доктар фізіка-матэматычных навук.

Навукоўцы-фізікі ў СССР вылучаліся вальнадумствам. Даволі згадаць акадэміка, бацьку савецкай вадароднай бомбы Андрэя Сахарава, які неўзабаве стаў адным з самых паслядоўных і цвёрдых дэсідэнтаў у Савецкім Саюзе. Партыйныя бонзы пэўны час праз пальцы глядзелі на крытыку савецкай сістэмы навукоўцамі-фізікамі, бо важнейшай для іх была ядзерная дубіна, якую яны трымалі дзякуючы гэтым «летуценнікам».

Фізік Юрый Хадыка спрыяў стварэнню балістычных ракет, якія ўздымалі ў космас спадарожнікі і з гэткай жа лёгкасцю маглі пераносіць ядзерныя зарады ў любую кропку зямной кулі. Таму Юрыю Хадыку таксама дазвалялі маленькія, бо Мінск усё ж не Масква, вольнасці. Яму з групаю аднадумцаў ласкава дазволілі стварыць у Акадэміі Навук музей старажытнага беларускага мастацтва.

У вачах камуністычнага кіраўніцтва Беларусі гэта была не малая саступка. Афіцыйная трактоўка беларускай гісторыі сцвярджала, што толькі з усталяваннем у Беларусі савецкай улады пачыналася праўдзівая гісторыя беларускага народа. А ўсё, што існавала да гэтага часу: архітэктура, мастацтва — не мела ніякай каштоўнасці і нават было шкодным для працэсу выхавання новага савецкага чалавека.

Вось жа Юрыю Хадыку з ягонымі аднадумцамі дазволілі ездзіць па зачыненых і закінутых царквах і касцёлах, шляхецкіх сядзібах ды збіраць старажытныя абразы, кнігі, скульптурныя выявы. Наўзамен за ракетныя распрацоўкі яму дазволілі ратаваць сваіх сланоў — парэшткі старажытнай еўрапейскай культуры.

З 1988 года Юрый Хадыка актыўна займаўся грамадскай і палітычнай дзейнасцю. Падчас росквіту БНФ напачатку 90-х гадоў ён быў намеснікам старшыні найбуйнейшай на той час палітычнай арганізацыі, якая мела на мэце ўсталяванне незалежнасці і дэмакратыі ў Беларусі. Заставаўся ён намеснікам старшыні і ў наступныя, менш спрыяльныя для дэмакратыі ў Беларусі часы, калі палітычная актыўнасць БНФ была выціснутая са сцэнаў парламенту на мінскія вуліцы.

У 1996 годзе за арганізацыю Чарнобыльскага шляху, саракатысячнай акцыі пратэсту, ён быў арыштаваны і амаль месяц галадаваў. Ведаючы характар Хадыкі, я мяркую, што калі б яго тады не вызвалілі, ён бы пайшоў да канца.

Праз чвэрць стагоддзя грамадскай барацьбы свой юбілей Юры Хадыка сустрэў у ЗША, у сям'і сына, дзе ён на час дапамагае даглядаць сваіх унукаў. Ягоны сын мае добрую адукацыю спецыяліста-міжнародніка, але сёння ён не можа знайсці працу па спецыяльнасці на Радзіме, два гады таму як выехаў у Амерыку і працуе там кіроўцам.

Мне хацелася б асабіста павіншаваць Юрася Хадыку. Мне заўсёды падабаліся ягоная ўнутраная энэргія, свабода, філасофскі склад мыслення, упартасць і паслядоўнасць у адстойванні сваіх поглядаў. Ды я не магу гэта зрабіць. І я на зоне, і Юры Хадыка ў Амерыцы.

А быў жа час, 15 гадоў таму, калі мы разам з прафесарам Хадыкам адсядзелі дзесяць сутак адміністратыўнага арышту ў адной камеры. Нас судзілі за арганізацыю праваабарончай антыфашысцкай дэманстрацыі. У камеры было пяцёра. Трое дэманстрантаў і двое падсадных інфарматараў.

Мы ляжалі на агульных драўляных «палацях» упокат, без прасціняў, матрацаў і падушак, у адзенні. Дзе елі, там і спалі. Спаў у асноўным я, а Юрась Хадыка распавядаў правакатарам лекцыі з гісторыі біблістыкі. Прафесар Хадыка выдатна ведаў Біблію, нягледзячы на тое, што фізік, быў вернікам і адмыслоўцам у беларускай старажытнай сацыяльнай культуры. Ён умеў чытаць схаваную сімволіку беларускіх іконаў-абразоў.

Я слухаў спакойны, добразычлівы, крыху аднастайны голас Юрася Хадыкі. Ён распавядаў пра дабро і зло, пра першародны грэх і выкупленне Хрыстом. Я не мог утрымацца. Вейкі мае зліпаліся, і я засынаў лёгкім і светлым сном, праз які чуў голас барадатага Хадыкі. Ён, як біблейскі апостал, настаўляў стукачоў-грэшнікаў на шлях праўды. Такая сонная тэрапія для мяне і навучанне верае ды праўдаю для нашых сукамернікаў працягвалася ўсе дзесяць дзён.

Я запісваю гэтыя радкі 3 ліпеня. Беларуская гісторыя сёння сціснулася яшчэ болей, чым высушаная скура, і свой адлік змушана бярэ з дня вызвалення Мінску, якое адбылося 3 ліпеня 1944 года. А за год перад тым, 70 гадоў таму, 4 ліпеня 1943 года венгерска-нацысцкія вайскоўцы выпалілі палову вёсак у Нараўлянскім раёне. Згарэла і сядзіба, у якой жыла сям'я маёй маці. Яна, сямігадовая дзяўчынка, ляжала на ўзлеску ў разоры і глядзела, як палае іхняя хата. Гэта былі самыя яркія ўспаміны яе дзяцінства. Людзі, папярэджаныя кімсьці са сваіх паліцэйскіх, своечасова схаваліся ў лесе, і мадзяры забілі толькі двух старых, якія вырашылі пабірадзь дома.

За вакном на тэнісным стале цокае пластмасавы мячык, на калідоры чуюцца святочныя гукі маршу. Я выходжу ў калідор і іду на ПВР, у агульны атрадны пакой, дзе стаіць тэлевізар, акварыюм, моцныя лакіраваныя лавы ды ляжыць падшыўка газеты «Звязда». Па тэлевізары паказваюць святочны парад. Праўдзівым Днём Незалежнасці я лічу 25 сакавіка, калі ў 1918 годзе была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка. 3 ліпеня застанецца для мяне днём вызвалення Мінска ад фашыстаў.

Я яшчэ чамусьці думаю, што, калі пачалася вайна, у чэрвені 1941 года зняволеных у мінскіх турмах, і ўжо асуджаных, і яшчэ не асуджаных, каго не паспелі эвакуяваць, у прымежных Берасці, Гародні, Глыбокім, калоны вязняў, якія далёка не адышлі ад Менска, расстралялі. Лічбы і даты, даты і лічбы, нікуды ад іх не падзецца.

А потым я згадваю, што ўсё ж аднойчы хадзіў 3 ліпеня на парад. Гадоў з сем таму ў Мінск прыехаў мой сябра, старшыня Саюза беларусаў у Польшчы, гісторык і журналіст Яўген Вапа. Яму заманілася паглядзець парад. Мы пайшлі з ім з праспекту Перамогі на праспект Пераможцаў, былы Машэрава… Там ён убачыў калоны камбайнаў, трактароў і МАЗаў, парадныя шыхты спартовых чэмпіёнаў розных гадоў — і быў шакаваны. Ён атрымаў эмацыйны ўдар. Але найбольш уразіла яго вялізная шматпавярховая кветка, зробленая з дзяўчынак-пялёсткаў, якія зладжана выгіналіся, прысядалі, пацягваліся і ўздымалі рукі з насаджанымі на кісткі букетамі, ад чаго ўся дзявочая кветка бесперастанку варушылася і змянялася. Мабыць, дзяўчынкі былі гімнасткамі.

Працяг на стар. 11 (3) ▸

▸ «КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА»

## ПАРАСОНЕЧНАСЦЬ. АЛЕСЬ ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ

**У серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў пабачыла свет дэбютная кніга вершаў Алеся Емяльянава-Шыловіча «Парасонечнасць». Да выдання прыкладаецца дыск з песнямі Алеся.**




«Алесь Емяльянаў-Шыловіч — асоба ў літаратуры не выпадковая і не новая, адпаведна і яго ўласны зборнік вершаў варта разглядаць не як шчаслівы збег абставінаў, як часцяком здараецца з першымі кнігамі маладых творцаў, а як вынік плённае працы папярэдніх гадоў, — адзначыў у рэцэнзіі на кнігу Усевалад Сцебурака. — І дадамо яшчэ — шчырасць аўтара. Заўсёды прыемна чытаць радкі, якім верыш, нават калі заўважаеш недасканаласць... Гэта асаблівa важна, бо вершы, напісаныя ў розны час, на розных этапах сталення, часта дысануюць. І чытаюцца яны толькі пры той умове, калі малады творца шчыры нават у памылках і не саромеецца быць наіўным і смешным — такім, якім быў падчас напісання верша... Упэўнены, кніга Алеся Емяльянава-Шыловіча знойдзе свайго чытача, а аўтар — натхненне для новых вобразаў і рыфмаў».

**Прэс-служба ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

▸ «КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА»

## ЗБОРНІК ЗАМЕЖНАГА АПАВЯДАННЯ

**У бібліятэцы часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum» і ў бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» выйшаў зборнік дэтэктыўнага апавядання «Злачынства, сэр!» (выдавецтва «Кнігазбор»).**




Зборнік часткова дублюе творы, змешчаныя ў дэтэктыўным нумары часопіса «ПрайдзіСвет» «Art detected», аднак уключае і новыя. Кніга складаецца з дзвюх частак: першая, аднайменная, змяшчае класічныя і сучасныя дэтэктыўныя апавяданні, другая, пад назвай «Бясчынства, сэр!», — пародыі на дэтэктыўны жанр. У дадатку прадстаўленыя два рэцэпты напісання добрых дэтэктыўных твораў. Прадмову да кнігі пад назвай «Пра бездакорнасць метаду» напісала Кацярына Мацеўская. Укладальнік зборніка — Ганна Янкута.

Канцэпцыя зборніка «Злачынства, сэр!» грунтуецца на меркаванні, што дэтэктыўнае апавяданне — неабавязкова жанр масавай літаратуры. Для зборніка абіраліся творы, якія паказваюць дэтэктыў з розных бакоў, дэманструюць розныя эпохі і аўтарскія стылі ды аб'ядноўваюцца нетрывіяльнасцю падыходу да прахаднога, здавалася б, жанру. У кнізе можна знайсці і так званы протадэтэктыў — апавяданне Э. Т. А. Гофмана «Мадэмуазель дэ Скюдэры» (пераклад Аляксея Жбанава), у якім толькі-толькі з'яўляюцца першыя прыкметы жанру, які неўзабаве зробіцца ці не самым папулярным, і два апавяданні аднаго з бацькоў дэтэктыву Эдгара По, і класічныя творы прадстаўнікоў жанру Г. К. Чэстэртана і Э. Куіна, і апавяданне ведамага (праўда, зусім не гісторыямі пра крадзяжы і забойствы) чэшскага празаіка Карэла Чапэка (пераклад Надзеі Кахновіч), і твор амерыканца Ф. Стоктана «Панна ці тыгр?» (пераклад Юлі Цімафеевай), якое ўваходзіць у самыя знакамітыя анталогіі амерыканскага апавядання, і ўзоры сучасных мадыфікацыяў жанру: творы В. Такарчук, Д. Клугера, М. Бліні.

Раздзел «Бясчынства, сэр!» змяшчае вядомыя класічныя пародыі на гісторыі пра Шэрлака Холмса, напісаныя Б. Гартам, Р. Стаўтам, Ж. Жыраду і А. Аверчанкам, а таксама аповесць славацкай пісьменніцы Даніэлы Капітанавай «Забойства ў Жлуктаве» (пераклад Сяргея Сматрычэнкі), у якой аўтарка прымушае самых знакамітых дэтэктываў усіх часоў і народаў (сярод якіх — не толькі згаданы ўжо Шэрлак Холмс, Эркюль Пуаро, міс Марпл, Нэра Вулф, камісар Мегрэ, але і герой новага часу камісар Каломба і нават агенты ФБР Малдэр і Скалі) расследаваць загадкавае забойства ў маленькім славацкім мястэчку Жлуктаў.

Вокладку для зборніка, які ўжо можна набыць у шэрагу кнігарняў Мінска, распрацавала дызайнер Марыя Мухіна.

▸ САЮЗ

## ЕЎТУШЭНКАЎСКАЯ ВЕЧАРЫНА

**Магілёўская цэнтральная бібліятэка супольна з Магілёўскімі аддзяленнямі ГА «Рускае грамадства» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» правяла вечарыну «Дадзеныя нябёсамі радкі...», прысвечаную 80-годдзю з дня нараджэння паэта Яўгенія Еўтушэнкі.**

Быў змястоўны і цікавы аповед пра жыццёвыя шляхі паэта, і асобна адзначалася, што па матчынай радні Я. Еўтушэнка паходзіць з Гомельшчыны. Гучалі вершы юбіляра ў выкананні мясцовых паэтаў Марыны Сліўко, Наталлі Кажэўнікавай і Леаніда Іскрова. Старшыня Магілёўскай ветэранскай арганізацыі Фёдар Мацькоў расказаў пра свае асабістыя сустрэчы з Я. Еўтушэнкам.

У вечарыне прыняў удзел старшыня Магілёўскага аддзялення СБП Мікола Яцкоў, які прапанаваў слухачам свой цыкл песняў на вершы Еўтушэнкі. Песні былі спецыяльна напісаныя да юбілейнай даты і прагучалі ўпершыню.



## МАГІЛЁЎСКАЯ «БРАМА»

**4 жніўня 2013 г. на чарговым пасяджэнні Магілёўскага аддзялення СБП яго старшыня Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу аб зробленым за мінулы месяц.**

Было адзначана, што кола грамадскіх арганізацый, з якімі супрацоўнічае аддзяленне, пашыраецца, і гэта дазваляе праводзіць сумесныя культурна-асветніцкія мерапрыемствы на высокім узроўні. Праца аддзялення знаходзіць станоўчыя водгукі на старонках абласных газет.

Старшыня рэдакцыйнай камісіі запланаванага да выдання літаратурнага альманаха Яраслаў Клімуць падвёў вынікі працы камісіі і адзначыў, што свае асноўныя задачы яна выканала і падрыхтавала матэрыялы да друку.

Адбылося абмеркаванне назвы альманаха. Па выніках галасавання літаратурны альманах Магілёўскага аддзялення СБП атрымаў назву «Брама». Напрыканцы Я. Клімуць выказаў думку, што з цягам часу і пры пэўных магчымасцях аддзяленне павінна стварыць і сваё выдавецтва — з такой жа назвай.

**Ул. інф. Магілёўскага абласнога аддзялення СБП**




## ПЕРШАЯ КНІГА КІРЫЛЫ АНОХІНА

**У «Пункце адліку» бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» выйшла новая дэбютная кніга.**

Восьмым па ліку маладым аўтарам серыі стаў Кірыла Анохін са зборнікам вершаў «Асцярожна, дрэвы зачыняюцца». Кніга пабачыла свет у выдавецтве «Кнігазбор».

Кірыла Анохін нарадзіўся ў 1987 годзе ў Мінску. У 2009-м скончыў гістарычны факультэт БДУ. Пераможца фестывалю аднаго верша (Мінск, 2011).

Аўтар, як паведамляе анатацыя кнігі, нешматслоўны — ён піша не толькі вершы, але і маўчанне, у якім яны гучаць. Кірыла Анохін ведае, чым і як трэба пацерці старое, пакрытае іржой слова, каб яно ажыло і само здзівілася свайму новаму існаванню. «Асцярожна, дрэвы зачыняюцца» — гэта хутчэй заклік да ўваходу, чым перасцярога, бо нават сезонныя змены надвор'я тут робяцца цудам, які варта перажыць разам з аўтарам.

*заблукалым дзіцём*
*шукаючы выйсце*
*са свайго лядашчага*
*лесу*
*ўжо чую*
*як асцярожна*
*зачыняюцца*
*дрэвы*

## КРОПЛІ ДАЖДЖУ. МІКОЛА КАНДРАТАЎ

**Трэці паэтычны зборнік Міколы Кандратава пабачыў свет у серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў.**




Калі ў анатацыі да кнігі «Кроплі дажджу» пазначаецца, што аўтар працягвае «сумна-лірычнае перааэнсаванне свету», то з гэтай думкай не хочацца пагаджацца. Бо вершы Міколы Кандратава — аўтара, які напоўніцу раскрыў свой талент ужо ў досыць сталым узросце, наведваючы суполку «Літаратурнае прадмесце», — насамрэч пакідаюць уражанне станоўчае і сонечнае. Як і сам паэт, творчая манера якога сваёй далікатнасцю і чуйнасцю да навакольнага свету нагадвае пісьмо філалагічнага пакалення. Вершы сучасныя і адначасова класічныя. Яны — нібыта спадкаемцы твораў Максіма Багдановіча. Экспрэсіянізм у XXI стагоддзі? Магчыма. І гэта прываблівае.

*Над Валожынам воблакі белыя-*
*белыя,*
*і між іх, аглядаючы свет,*
*зрэдку храмы і замкаў руіны*
*ўтравелыя.*

*Страцім-лебедзем сонца плыве.*
*Паглядае сюды, дзе палацы люс*
*труюцца*
*праз умоўную рысу сцяны.*
*Залюстрэччам здаецца зямля*
*беларуская,*
*у якім заблудзіліся мы.*

Прываблівае чытача і тэматычная разнастайнасць — ад старажытных вераванняў і філасофіі да прысвячэнняў паплечнікам, калегам і сучаснікам. Паэтычныя формы таксама розныя — ад санэта да верлібра. Праўда, больш гарманічнае для аўтара — класічнае вершаванне. Новая кніга Міколы Кандратава «Кроплі дажджу» — прыклад паспяховага аднаўлення класічнай манеры ў нашым часе.

## ВЕРАСЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



01.09.1953 — Аляксандр Міхайлавіч Русанаў
09.09.1958 — Міра (Мірaслава) Янаўна Лукша
13.09.1958 — Аляксандр Канстанцінавіч Краўцэвіч
16.09.1953 — Рычард Станіслававіч Бялячыц
29.09.1958 — Уладзімір Вячаслававіч Адамчык (Адам Глобус)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

ПОГЛЯД

# ЗАЛАТАЯ БЕЛАРУСЬ

◂ Працяг.
Пачатак на стар. 9 (1).

«Такога не ўбачыш нідзе! — у захапленні казаў Яўген, — гэта падобна на гістарычную рэканструкцыю парадаў, якія праходзілі тут, у Мінску, 80 гадоў таму». «Гэта не гістарычная рэканструкцыя, — сумна запярэчыў я. — Гэта нашае рэальнае жыццё».

А яшчэ мне хацелася б пры сустрэчы з Юрасём Хадыкам запытацца ў яго, ці задаволены ён пражытым жыццём? Юры Хадыка — амбітны чалавек. І мяне цікавіць: на ягоную думку, ці спраўдзілася галоўная мара ў ягоным жыцці? Пэўна ж, у кожнага чалавека, не прыбітага ўшчэнт жыццём, ёсць такая мара.

Юрыю Хадыку — 75, мне — 50, маму сыну — 24. Я і сам не заўважыў, як прыйшоў час, калі мой сын таксама ўжо можа задаць мне такое самае пытанне…

Працягваю пісаць далей. Я не веру ў магію лічбаў. Сёння — 4 ліпеня 2013 года, 23 месяцы, як я ў зняволенні. І што я адчуваю, угладаючыся ў гэтыя лічбы? Ды нічога. Прабыты ў зняволенні час я лічу месяцамі. Усяго па выраку суда ў мяне іх 54. Некаторыя вязні, каму да свабоды, «да званка» застаецца менш за год, лічаць днямі. А вось нядаўна «заехаў» у атрад новы «пасажыр» і «прывёз» з сабой больш за 20 гадоў. Яму, мабыць, давядзецца лічыць адбыты час гадамі.

Лічбы маюць для мяне іншую прывабнасць. Ад іх можна адштурхнуцца, як ад рачнога берага падчас купання, як ад чагосьці пэўнага і трывалага, каб паплыць на хвалях сваёй памяці, каб паразважаць.

Мне было столькі ж гадоў, колькі цяпер маймў сыну, калі мы стварылі Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Пісьменнік і інтэлектуал Сяргей Дубавец у сваёй кнізе, прысвечанай беларускаму моладзеваму дэмакратычнаму руху 80-х гадоў XX стагоддзя, назваў з'яўленне гэтага руху «гісторыяй аднаго цуду». Я не веру ў цуды папраўдзе, але гэтым разам згодны з ім. Сапраўды, узнікненне непадкантрольных Саветам моладзевых суполак у 80-я гады мінулага стагоддзя можна лічыць за цуд. Бо перад намі, а я быў далучаны да нацыянальна-дэмакратычнай дзейнасці ў 1981 годзе, сапраўды не было амаль нічога. Камуністы ўпэўнена кантралявалі ўсе праявы грамадзянскага жыцця. Недабітыя сталіншчынай, зацкаваныя ў пасьлясталінскую эпоху, зацугляныя інтэлектуалы, мастакі, пісьменнікі былі пад пільным кантролем спецслужбаў, партыйных камітэтаў і сядзелі ў глыбокім падполлі.

Здавалася, што мы з'явіліся знянацку, ніадкуль, як россып пралесак, якія нечакана растапілі сваім калівам глыбокі снег, што надзейна пакрываў зямлю — і пацягнуліся да вольнага веснавога сонца.

Праўда, мабыць, можна казаць, што гэты цуд усё ж быў наканаваны. Бо існавала ценькая сувязь паміж рознымі пакаленнямі свядомых беларусаў, а ў 1980-м годзе ў суседняй Польшчы выбухнула «Салідарнасць». Дэманстрацыі, акты пратэсту, легендарныя лідары (якія не баяліся ахвяраваць сабой ды ішлі ў турму, глухі грукат за жалезнай сцяною), падпольны самвыдат з Польшчы, гэтак званыя «бібуны», якія траплялі ў нашыя рукі, — усё гэта бурапеніла нашую кроў.

Неўзабаве і ў Савецкім Саюзе загучала нязвыклае дасюль слова «перастройка». Камуністы збіраліся перабудоўваць тое, што пабудавалі за 70 гадоў панавання, тое, што безнадзейна састарэла, забуксавала, засклізгатала і не жадала каціцца далей. Але ж мы збіраліся адраджаць! Сэсэсэраўская гаргара перабудове не падлягала. З занядбалых руінаў і зарослых пустазеллем беларускіх падмуркаў мы жадалі адрадзіць незалежную і дэмакратычную, нашую «залатую Беларусь»…

Да пабачэння. Абдымаю — Алесь.

[3–4 ліпеня 2013 г.
Бабруйская калонія]



Фота «Радыё Свабода»

Юры Хадыка з унучкай Барбарай. 2009 год

БЫЛІЦА

# ПОГЛЯДЫ НА ЖЫЦЦЁ

Віктар САЗОНАЎ



— Эх, долечка мая гаротная, — так цяжка ўздыхнула цётка Лёнька, нібыта пахавала ўсіх сваякоў адначасова. Яна акурат закончыла расповед з уласнай унікальнай версіяй пра свой няўдалы шлюб. — Пайшла б замуж за Пецьку Шылоўскага — бяды б не ведала. — Працягвала яна. — Жыла б як каралева, прыпяваючы. Сядзела б і рукой паказвала б, што каму рабіць. А сама палец аб палец не стукнула б. А то пайшла за гэтага алкаголіка, каб яму гарэлка ў горле стала, і цяпер пакутую, як прыблуда ў чужой хаце. Ніхто не паспачувае, ніхто не пашкадуе, ніхто не прытуліць, нібыта я сіротка бяздомная. Хоць у вяроўку лезь. А ён, злыдзень, кожны дзянёк лыкае. Прыходзіць дахаты чорны, як зямелька, і аніякага жыцця за ім няма.

— Што праўда, то праўда, — пачалі падтакваць ёй іншыя жанчыны, якія сабраліся на вясковай лаўцы ў гэты цёпленькі летні вечарок, які розніўся сваёй ласкай і пяшчотай ад іх хмурых тварaў.

А скучыліся кабеты, каб патачыць лясы і паскардзіцца адна другой на свой няўдзячны лёс. Часамі, ды і не так ужо й рэдка, вясковыя, ды і не толькі вясковыя жанчыны мусяць скінуць негатыў з душы менавіта такім спосабам. І можна заўважыць, колькі эмоцый яны ўкладаюць у свае прамовы. І вераць кожнаму свайму слову, нават калі ведаюць, што нахабна лгуць.

Такая моцная адмоўная энергетыка ў іх аповедах, што нават каты, якія звычайна любяць пасядзець пры людзях, ніколі не падыходзяць да такіх кампаній бліжэй, чым бачаць іх вочы. І каровы, якія вяртаюцца з пашы, стараюцца прайсці неяк бокам, а то малако гарчыць пачне, калі не прападзе ўвогуле. І нават калі не прападзе, то нехта можа атруціцца ім. І калі кату першаму нальюць — то байкі. Той не дурны. Піць не стане. Панюхае ды кінецца, як апараны, у поле ці ў лес зляцць. Адсядзіцца дзянёк-другі. Пакуль жаночыя жарсці не ўлягуцца.

З мужчынамі таксама не так страшна. Яны малака шмат не п'юць. Глыток, другі, і то толькі тады, калі не разабраліся, што там у шклянку налітае. Такая малая доза не пашкодзіць. Яны і да горшай атруты прывычныя. А што, калі дзіцяці дадуць папіць такога напою. У дзетак тады пік агрэсіі пачынаецца, як у салдат пад час псіхічнай атакі. Гэта ў лепшым выпадку. А бывае і жывот схопіць. І не праходзіць некалькі дзён, аж пакуль кот не вернецца дахаты.

Найгорш у гэтай сітуацыі тым сабакам, якія на ланцугу. Бедныя, нікуды ўцячы ад гэтай адмоўнай энергетыкі не могуць. Ланцуг не пускае, халера яго бяры. А сабакі энергетыку вельмі востра адчуваюць, амаль як каты. Толькі з той розніцай, што сабакі больш дабрадушныя, і таму намнога вастрэй успрымаюць боль ад гэтага негатыву. Яны тады выць пачынаюць, і не як ваўкі на месяц, а проста выць. У зямлю. І брэшуць не на тых, на каго трэба. А так, на ўсіх брэшуць. На ўсякі выпадак. Зусім, няшчасныя, дэзарыентоўваюцца.



— Ды што там гаварыць, — пусціла слязу і цётка Ганна. — Мяне, некалі, па маладосці, кавалер у сталіцу забіраў. Але ж я, дурная, не пайшла. Шчасця свайго не ўгледзела. Тут засталася. Так і пражыла жыццё ў хляве. То свіней кармлю, то за каровай прыбіраю. Ужо і ручак не чую. За што ж мне лёс такі! Хто ж так награшыў, што ўсё жыццё маё ў клопатах прападае. А жыла б у сталіцы, бяды не ведала б. Ні табе соткаў, ні табе агароду. І ванна ёсць, і дзень працоўны. Адпрацавала — і ў рэстаран схадзіла. Ці ў тэатр. У кіно можна. Або ляжы сабе ў хаце, ногі задзёршы, і глядзі тое кіно па тэлевізары.

— А мне, думаеце, лягчэй, — паківала галавой кабета з суседняй вёскі. Яна сюды да сваякоў прыходзіла, ды і прызямлілася на лаўку да мясцовых жанчын. Вельмі ж ёй тэматыка размовы спадабалася. Можна было выплакацца, як у дзяцінстве з-за неатрыманай ад бацькоў цукеркі. — Тая праца ў мяне ўсе жылы павыцягвала, усе сокі павыпівала. А ўсё працаваць трэба і трэба. І канца і краю не відаць.

І так жаласна жанчыны свой лёс вымалёўвалі, што маленькі хлопчык, які гуляў побач і ўсё чуў, зарумзаўся слязьмі — як вылуплены бацькоўскай дзяжкай. Так яму тых кабет шкода стала, што маленькая грудзі ледзьве не разарваліся ад такой несправядлівасці лёсу. Бо ведаў многіх гэтых жанчын як вельмі мілых і добразычлівых. Неаднойчы яны яго частавалі цукеркамі і тартамі свайго вырабу. Цацкі давалі. А тут такая бяда ў кожнай, што хоць завый, як тыя сабакі. У зямлю.

Узяў ён сваю машынку за вяровачку і паплёўся да дзеда за супакоем.

Дзед толькі ўсміхнуўся і нават работы не спыніў. Касу кляпаў.

— Ты думаеш, унучак, што жонка Пецькі Шылоўскага, пра якога тут цётка Лёнька шкадавала, на мужа не наракае? — сказаў ён неяк проста, але вельмі даходліва. Так, што кожнае слова хацелася слухаць і запамінаць. Зусім не так, як жанчыны гаварылі. — Наракае яшчэ больш, чым Лёнька на свайго. Кляне на чым свет стаіць. Сам чуў неаднойчы, — сцвердзіў ён. — Ці, можа, думаеш, што ў сталіцы бабы толькі па тэатрах ходзяць і іншага занятку не маюць? Ды некаторыя з іх і не ведаюць, дзе тыя тэатры і рэстараны знаходзяцца. А каторыя і ведаюць, дык шчасця ім гэта не прыбавіла. Яны так, як і нашы, на лёс наракаюць. Не ўсе, канечне. Як і ў нас не ўсе. А толькі тыя, што мазгоў не нажылі за жыццё.

Ты яшчэ маленькі, і цяпер не зразумееш, — гаварыў далей дзед. — Але як не забудзешся, што табе кажу, і пасля ўспомніш, то шмат табе гэта дасць. Запомні раз і назаўсёды. Жыццё не павінна быць лёгкім, а лёс добрым. Як убачыш лёгкі лёс і добрае жыццё — уцякай адтуль як ад чорта. Бо як усё лёгка і проста, то сэнс чалавечага існавання губляецца. Ніхто не стварыў бы чалавека, каб ён толькі цешыўся з жыцця. Так толькі псіхі робяць. Чалавек не для таго створаны, каб адбаляваць жыццё, як на вяселлі алкаголік. У цяжкасці лёсу і ёсць яго вартасць. І трэба мець вялікую смеласць, каб прачынацца раніцай, бо кожны дзень насычаны хцівасцю і зайздрасцю, подласцю, спакусамі ды іншымі цяжкасцямі, якія чалавек мусіць пераадолець, бо менавіта для гэтага і створаны. Лёс мусіць быць такім, і толькі такім, які ёсць. Таму не маркоцься з нічога, бо нічога не зменіш. Лёс змяніць немагчыма, але можна змяніць свае погляды на жыццё. А падарункаў у жыцця не менш, чым праблем. І як яно табе іх даваць будзе, не адмаўляйся. Каб потым, як гэтыя кабеты, не наракаць на лёс.

АПАВЯДАННЕ

# ЦЫДУЛКА БОГУ

Мікола ІЛЬЮЧЫК





Сцяпан сядзеў у кабінеце ўрача анкалагічнага дыспансэра. Прайшло два тыдні, як ён пакінуў вёску і не па ўласнай волі апынуўся ў горадзе. Лета. Столькі працы, а ён ляжыць тут лежма! Ды каб балела сапраўды што. Патэлефанавалі з амбулаторыі і паведамілі, што нейкую пляму на лёгкіх заўважылі. Трэба ж таму здарыцца. І не хварэў амаль ніколі, але ж рэнтген гэты мусова ўсім праходзіць. Прайшоў вось. Не было клопату…

Доктар корпаўся ў нейкіх паперках, разглядаў здымкі, на якіх Сцяпан бачыў толькі хрыбетнік і рэбры, пэўна ж, ягоныя. Доктар напэўна бачыў нешта яшчэ, але пакуль не прамовіў ані слова. У доктара быў дрэнны настрой, ды і пахла ад яго ў гэтую раніцу першага на тыдні працоўнага дня не толькі парфумай. Спрактыкаваным вокам Сцяпан заўважаў тыя цяжкасці, з якімі змагаўся доктар, і ведаў дакладна — яму патрэбна тэрмінова пахмяліцца. Але хто ён такі, каб прапаноўваць такое паважанаму чалавеку. Хлопцы з палаты бегалі ў краму і ціхенька папівалі віно і нават гарэлку, але Сцяпан вырашыў для сябе, што не будзе ўжываць. Лячыцца — дык лячыцца.

— Як там Ганна адна? — падумаў ён.

Учора званіла, але Сцяпан так расхваляваўся, што нават не спытаў, ці дала што дзецям з пенсіі. Не захацелі жыць у вёсцы. Кватэры пабудавалі, а колькі гадоў той крэдыт вяртаць прыйдзецца? Тэлефон вісеў у фае. Там заўсёды шматлюдна, і Сцяпан саромеўся размаўляць, толькі коратка адказаў на пытанні жонкі.

Доктар пракашляўся ў кулак, нібыта адводзячы Сцяпана ад сумных думак, і нарэшце ціха прамовіў:

— Так, Гаўрылевіч, буду казаць шчыра, чалавек вы дарослы, век пражылі на свеце…

«Які ж то век, шэсцьдзясят два гады толькі, — падумаў Сцяпан, — у палаце мужыкі газету чыталі, дык нейкая бабенцыя недзе з Японіі сто трыццаць другі дзень нараджэння адзначыла. Вось гэта век».

— Дык вось, — працягваў доктар, — хвароба ваша невылечная, і засталося вам… нават не ведаю дакладна… можа, месяц, а можа — два. Я магу прызначыць вам хіміятэрапію, але гэта ўсё дарэмна. Хіба што яшчэ нейкі месяц… Але ці варта? Бо ад хіміі вас будзе ўвесь час ванітаваць, застанецеся без валасоў. А колькі праблем і нязручнасцей будзе для сям'і! Жонка, пэўна ж, карову апошнюю прадасць, каб падтрымліваць вас. А што потым? Як яна будзе?

— І што, ужо нічога нельга зрабіць? — Сцяпан не пазнаў свайго голасу.

— Нічога, вы неаперабельны.

Незнаёмае слова балюча шкрабанула недзе ўнутры.

— І што мне рабіць? — з несхаваным хваляваннем спытаўся Сцёпа, мацаючы па кішэнях. Цыгарэт не было. Ён кінуў курыць у першы ж дзень, як трапіў сюды. Здаровы сэнс падказваў яму: лячыць лёгкія і курыць — гэта несумяшчальна.

— Мне шкада, але апошняя стадыя… Я магу даць вам накіраванне да псіхолага, але, мая вам парада, едзьце дадому і жывіце так, як жылі да гэтага. Як кажуць, колькі Бог прызначыў…

Гарачы камяк падступіў да горла, а там, у грудзях зрабілася пуста і халадна.

— Гаўрылевіч, вам што, дрэнна? — спытаў доктар.

Сцяпан аж скалануўся ад ягоных слоў.

— Не, усё нармалёва, усё добра, — ледзь чутна адказаў ён.

Якое ўжо тут дабро? Мне толькі 62. Як яны будуць без мяне? Ганна, дзеці? Неяк жа будуць…

— Дзякуй вам, бывайце, — прамовіў хворы і выйшаў у калідор.

Так, менавіта «бывайце», а не «да пабачэння». Сцяпан сам не заўважыў розніцы. Стала цяжка дыхаць. Прысеў на чорную дэрмантынавую лаву. Неяк змрочна ў гэтым калідоры, трэба на вуліцу, там паветра, там сонца, там святло...

У бальнічным двары ярка цвілі кветкі. Сцяпан не ведаў іх назваў, кветкі — ды і ўсё. Над рознакаляровай клумбай завіхаліся матылькі і некалькі пчолак шчыравалі ў сваёй штодзённай руплівай працы. Сцяпан пастаяў ля кветніка. Думкамі поўнілася галава. Як жа яны без мяне? Як будзе з тымі крэдытамі? Хто ім дапаможа? І маленькаму Стасіку абяцаў, што на канікулах, у касавіцу возьме ўнука з сабой. Збіраліся ўюноў налавіць. Мабыць, тая канава, што ля ягонай сенажаці, ужо зусім перасохла. А ў гразі ўюноў здабыць зусім проста. Не трэба і кашы ладзіць. Капай рыдлёўкай, ды і толькі. Але трэба вяртацца дадому, будзе ўжо што будзе, як казаў доктар — што Бог дасць.

Сцяпан вярнуўся ў палату і стаў збіраць свае пажыткі. У палаце быў толькі Васіль Пялюк з суседняй вёскі. Астатнія, мабыць, на нейкіх працэдурах ці так сабе бадзяюцца па бальнічнай тэрыторыі.

— Бывай, Васіль! Дамоў еду, — Сцёпа працягнуў руку на развітанне.

— Што, вылечылі ўжо?

— Вылечылі. Паеду.

— Ну едзь, дома ўсё роўна лепш.

— Дык я пайду? — з сумам вымавіў Сцёпа.

— Ідзі, ідзі з Богам!

Сцяпан шпарка выйшаў з бальнічнага двара і пакрочыў да вакзала. Апошнія словы Васіля як свярдзёлкі круціліся ў галаве. Ужо можа з паўкіламетра прадыбаў, а яны так хутка паўтараюцца: «Ідзі з Богам, ідзі з Богам…». А дзе ж той Бог? Ды і ці патрэбна ведаць Яму пра нейкага Сцёпку Гаўрылевіча?

Сцяпан прыгадаў, што ў царкве быў толькі аднойчы. Нічога не зразумеў, што там гаварылася. А яшчэ пах. Ці то ад ладану, ці ад згарэлых свечак стала моташна. Як адурманены, выйшаў тады на царкоўны ганак. А на вуснах яшчэ доўга заставаўся той непрыемны смак, а пах трымаўся на вопратцы некалькі дзён.

Ці патрэбен я таму Богу? Я ж нават нейкага хлапчука, зусім падлетка, выгнаў з хаты, калі той прыйшоў з пакункам нейкіх кніжак і лапатаў падвыпіламу Сцяпану нешта пра Бога, пра Ягоную любоў да ўсіх людзей. Юнак тады ўжо з парога зноў паўтарыў: «А ўсё ж Ён любіць вас!», і палажыў на стол невялікую кніжку. На сіняй вокладцы залатымі літарамі было напісана «Новы запавет». Якая любоў, які запавет?! Хацеў шпурнуць тую кніжку ў печ, ды Ганна выхапіла з рук. Потым бачыў, што ляжыць тая кніжка ў шуфлядзе стала. Але ў рукі так і не ўзяў ніколі.

Сцяпан прайшоў два кварталы ад бальнічных карпусоў і прысеў на вулічную лаўку, што стаяла ў ценьку пад вялізнай бярозай. Гнуткае голле старога дрэва амаль дакраналася да ягонай галавы. Пад струменямі лёгкага ветру калыхалася голле, і Сцёпу падалося, што бяроза гладзіць яго. Нібыта ён малы, пакрыўджаны хлопчык, а побач матуля. І гэта яе цёплая рука гладзіць яго па бялявых валасах...

Колькі часу прайшло — Сцёпа не ведаў. Трэба ісці далей. Дадому… Падняў пакет. У ім некалькі сістэм для крапельніц ды з дзясятак шпрыцоў, што засталіся ад ягоных бальнічных прызначэнняў. А яшчэ пухнатая медычная картка. У ёй рознымі, але аднолькава неразборлівымі почыркамі былі запісаны ўсе Сцяпанавы балячкі, аб якіх і сам не ўсё ведаў. Вось, узгадаў пра іх — і зноў стала сумна. Дадому! Толькі туды. Паскорыў крок. Павярнуў на скрыжаванні за нейкім каменным гмахам. Нечаканае сонца, што паліла ва ўсю моц, балюча разанула па вачах. Аж зажмурыўся. Зноў павяла галава. Гэта пасля бальніцы, — супакойваў сябе Сцяпан. — Звыкнуся неяк.

Калі зрок прыстасаваўся да яркага святла, заўважыў вялізны будынак з чырвонай апаленай цэглы, што нейкім вострым трохкутнікам уразаўся, як падалося Сцяпану, у самае неба. Над жалезнай брамай было напісана: «Бог любіць цябе». Што гэта? Мабыць, царква нейкая.

Ён стаяў нерухома і разглядаў, здавалася, кожную цаглінку, кожны круцёнік на металічнай агароджы. Нечакана ён заўважыў невялікую скрынку, вельмі падобную на паштовую. На ёй маленькімі літарамі было напісана: «Вашыя патрэбы».

Сцёпа задумаўся. Бог любіць мяне. Чаму менавіта мяне і за што? Калі я нават у бальніцы не ўзгадваў Яго, не звяртаўся да Яго. Хутчэй да д'ябла. Нават з ужываных крапельніц навучыўся рабіць такіх пластыкавых чорцікаў. Раздаваў усім гэтыя саматужныя бальнічныя цацкі. А сябе цешыў, што ачуняю, што паеду дадому здаровым… За што мяне любіць? Звычайны чалавек, які пражыў усё жыццё ў вёсцы, пракорпаўся ў калгасе і на ўласнай гаспадарцы. Так большасць жыве…

Думкамі поўнілася галава. Здавалася, што ўнутры там ажно закіпае. Сцяпан шэрай насоўкай абцёр пот з ілба.

А яшчэ скрынка гэтая. Тут тысячы людзей праходзяць, і ў кожнага столькі патрэб, што яна павінна была ўзарвацца ад цыдулак. Але ж не трэснула. Хтосьці ж іх вымае, нехта ж чытае…

Сцяпан рашуча дастаў з унутранай кішэні пінжака аўтаручку, а з пакета медыцынскую кніжку. У самым канцы гэтага пухнатага медычнага самвыдату было некалькі чыстых лістоў. Вырваў адзін і хуценька напісаў: «Я хочу жыць. Сцяпан». Перагарнуў паперчыну напапалам і, азірнуўшыся па баках, хуценька апусціў у скрынку. Яшчэ раз узняў вочы туды, дзе яркі надпіс зноў нагадаў, што Бог яго любіць, і шпаркай хадою пакрочыў далей.

Вось і вакзал. З раскладу даведаўся, што наступны аўтобус амаль праз гадзіну. Непрыемна засмактала ў жываце. Звычайна ў гэты час чырвонашчокая Света з харчблоку прывозіла ў палату свой вазок і карміла хворых абедам…

У вакзальным буфеце невялікая чарга. Сцяпан расшпіліў кішэню на грудзях. Ганна прадугледжана прыкалола да кашулі вялікую шпільку і параіла:

— Заўсёды зашпільвай грошы, бо як не ўкрадуць — то згубіш.

Браў з сабою амаль усю пенсію за мінулы месяц. Крыху патраціўся: шпрыцы, сістэмы, шакаладка медсястры…

— Эх, было-ні было, — амаль услых прагаварыў Сцёпа, — усё ім ды ім. Хоць напаследак пашыкую, куплю чаго смачнага, хоць і дарагога.

Замаўляў усё, што вочы бачылі. Нават дзве бляшаначкі ікры: чырвонай і чорнай. Грошай акурат хапіла. Сцёпа нават падумаў, што і не хопіць на ўсе прысмакі. Хацелася пакаштаваць усяго таго, што не дазваляў сабе ніколі. Еў з такой асалодаю і апетытам, быццам у апошні раз. Ікра не спадабалася. Ну і што ў ёй такога, — думаў Сцёпа, — селядзец селядзцом, дарма што дарагая, не дакупіцца. Напаследак з'еў шакаладку і некалькі маленькіх піроЖных. Ледзьве падняўся з-за стала.

У аўтобусе прабіла на сон. Ці то ад доўгай хады, ці то ад ежы — адчуваў стому ва ўсім целе і нейкую млявасць у галаве. Прачнуўся тады, калі забразгалі дзверы аўтобуса на першым вясковым прыпынку. Ягоны другі, апошні…

Жыць як жыў. Жыць — і ўсё. Так казаў доктар, з тым цалкам пагадзіўся і Сцяпан…

Мінула касавіца, выкапалі бульбу, прыбраліся на палетках. Хутка пакровы, а потым і зіма. Вясною зноў сеяць, саджаць бульбу. Звычайнае вясковае жыццё…

Сцяпан зноў у анкалагічным дыспансэры. Запрасілі на абследаванне. Прайшоў год, як выпісалі дадому жыць, проста жыць, колькі прызначана. Ужо не было трывогі, страху, роспачы і адчаю. Усё засталося недзе там, ля чырвонай будыніны ў той сонечны летні дзень.

— Гэта неймаверна, — доктар прыцмокваў языком, разглядаючы новыя рэнтгенаўскія здымкі, — неаперабельная пухліна ў апошняй стадыі знікла! Скажыце, калі ласка, што вы прымалі?

— Ды нічога не прымаў, проста жыў, — стрымана адказаў Сцяпан.

— Я напішу пра вас, Гаўрылевіч, пра гэты выпадак у медычны часопіс. З вамі ніхто не размаўляў аб вашай хваробе? Ці нікуды больш не звярталіся? Ніхто пра вас нічога нідзе не пісаў? — доктар забегаў па кабінеце, і Сцяпану падалося, што пытанні не скончацца ніколі.

Загадчык аддзялення зноў і зноў сыпаў пытаннямі, а здымкі перыядычна разглядаў то ў святле лямпы, то ў прасвеце аконнай шыбы. Сонейка ззяла ва ўсю моц, здымкі трымцелі глянцам, і сонечны зайчык радасна забегаў па сценах кабінета.

— Неймаверна! Ну дык што, нічога не прымалі, ніякіх лекаў і ніхто пра гэта не ведае, ніхто нічога не пісаў?..

— Я пісаў… цыдулку Богу пісаў…

— Што, што вы сказалі? — доктар не пачуў Сцяпанавых слоў і толькі зноў тараторыў, — я абавязкова напішу, вы цалкам здаровы, няма пухліны… Гэта неверагодна…

ВЕРШЫ

# ШЫБЕЛЬНАЯ ГАРА

Уладзімір МАРОЗ

## Трываласць

*Заглушыць яго хочуць — маленне аб родным аб краі,*
*Папіхаюць туды, дзе жаданага шляху няма.*
*На адхоне ўтрымацца, бо Ён не даруе адчаю,*
*Калі ўсё ж паддамося на цемры падступнай падман.*

*Не бясхатнікі мы, не вандроўнікі — проста паэты,*
*Нас не трэба шукаць на знямненні расстайных дарог.*
*Не бяззбройныя мы перад жорсткім бязлітасным светам,*
*Наша сіла — любоў, аб якой запаветаваў Бог.*

*Мы нагамі ўраслі ў жыццядайную ніву Айчыны,*
*Аніхто з чужаніцаў не зможа парваць карані.*
*Хваласпеў аб радзіме нябесную браму адчыніць,*
*Насланнё ад ліхога згарыць у пякельным агні.*

*Цераз словы літання аб любай святой Беларусі*
*Запавет зберажом, не парвецца гісторыі ніць.*
*Устаім на адхоне ў шалёным вякоўператрусе,*
*Нашу хату давершым і будзем шчасліва там жыць.*

## Каля краю

*Здаецца, ёсць інакшае жыццё,*
*Дзе людства свет трымаецца на праўдзе,*
*Дзе годнасці трывае пачуццё,*
*І па любові ўсё, а не па звадзе.*

*Дзе рай зямны, змястоўе добрых спраў,*
*Праз дзён смугу што бачны ледзьве-ледзьве.*
*Такіх дзівосных незямных праяў*
*Карціць вачыма хоць аднойчы згледзець…*

*Ахамяніся, брат, самападман,*
*Не лепшыя для сэрца тыя лекі.*
*Яны душу не вылечаць ад ран,*
*Бо людзі ўсюды сутнасць чалавекі.*

*Бо ўсюды тло, нязбыўнасць і адчай,*
*Быццё зямное нахіляе долу.*
*І не суцішыш сум — перачакай,*
*Даберажы ў душы агеньчык кволы.*

*Агеньчык той, узвышанай любві,*
*Якой імкнеш засмяглаю душою.*
*Яе надзеяй, верай наталі,*
*Тады і будзе іншасвет з табою.*

## Воля і няволя

*Няволя й воля — стан душы.*
*І ўсё, і болей анічога.*
*Яны ніяк не спарышы*
*Спаміж дарункаў пана Бога.*

*Яны — два берагі ракі,*
*Калі з жыццёвае праявы.*
*І выбар ёсць якраз такі:*
*Твой бераг левы а ці правы?*

*Куды нарэшце даплывеш,*
*Такой і выспеліцца доля.*
*Усё ў душы тваёй найперш —*
*Ці будзе воля, ці няволя.*

## Шляхетны вобраз

*Уладзіміру Караткевічу*

*Праз тлум стагоддзяў адчуваю роднасць*
*З вольналюбівым племенем сваім.*
*Шляхетны вобраз — вочы ў вочы годнасць,*
*Астатняе развеецца, як дым.*



*Спрабуюць люта кожны раз нязводнасць*
*Да скону звесці — чуйся нежывым.*
*Але мы зноў адшукваем зыходнасць,*
*Нагамі цвёрда на зямлі стаім.*

*Бо калі хочаш звацца чалавекам,*
*А не рабом, атрэп'ем, недарэкам —*
*Трымай высока свой шляхетны гарт.*

*Даўмееш сэнсу словаў «маю гонар»,*
*Жыцця й любові запалае горан —*
*Такія справы, мой шаноўны брат.*

## Шыбельная гара

***Шыбельная гара — мясціна па дарозе з Івацэвічаў у Косава. Знікла недзе ў 50-х гадах мінулага стагоддзя — цяпер тут калгасныя палеткі. Засталася толькі ў народных паданнях.***

*Патрапляеш гары, дый угору*
*Узбіраешся сцежкай лясной.*
*Неспазнанасць сасновага бору*
*Таямніцаю перад табой.*

*Спрэс нястромкія горнія сосны,*
*Пакручастасць разлеглых галін.*
*Часу повязь нябачныя кросны*
*Рупна ткуць праз імгненнасць хвілін.*

*Да мінулых часоў у адведкі*
*Гэта повязь цябе прывядзе*
*І запіша ў маўклівыя сведкі*
*Скутку злога ў святой барацьбе.*

*Каліноўскага воі-паўстанцы*
*Тут караныя горлам былі.*
*З соснаў шыбельні — рады старацца!*
*Вось вам воля на вашай зямлі!..*

*Памяць светла ўзышла абразамі —*
*Храмам смутку паўстала гара.*
*Не забудзем вас, мы разам з вамі,*
*Беларусі надыдзе пара.*

*Абразкі потым з дрэвам зрасліся,*
*Ледзь відаць у шурпатай кары.*
*Дух свабоды гартуецца ў высях,*
*Стануць зноў у шыхты змагары.*

*Для таго ад мінуўшчыны позвы,*
*Толькі чуйна настройвай свой слых.*
*Зацьвярдзелыя смолы як слёзы —*
*Плача маці па дзецях сваіх.*

## Чырвоны радок

*Радок чырвоны новага жыцця*
*Даверыш рупна аркушу паперы.*
*Усёй душою прагнеш адкрыцця*
*Любові вечнай, шчырасці і веры.*

*Але наўсцяж самота небыцця,*
*У новы свет зачыненыя дзверы.*
*Знік першародны водар пачуцця,*
*Час ненадзейны, прыцемкавы, шэры.*

*Праз кола дзён на згубу не зважай,*
*Ары і сей, твая такая доля,*
*І дачакаеш — вырасце ўраджай.*

*Дзе светлы край, на ростанях дарог,*
*Наўзбоч згрызот, сумненняў і трывог*
*Цябе спатольна перастрэне воля.*

# СІМФОНІЯ І ЛЁС

Фелікс БАТОРЫН

## * * *

*Асфальт нагрэты мноствам ступакоў,*
*Прагнуты пад цяжарам мнагалюддзя.*
*Экраны і мембраны словаблуддзе*
*Струменяць на галовы працякоў.*

*На свяце пераліўстых вітрын*
*Нахабна разгулялася машэнства,*
*Бязвер'е ў храмах правіць набажэнства,*
*Памыямі змывае хамства грым.*

*Гляджу вакол сябе: а дзе ж народ?*
*Яго даўно змяніў аморфны соцый…*
*І як яшчэ штодня ўзыходзіць сонца*
*І поры года захавалі ход?!*

**2013**

## Я той, каго няма

*Я той, каго няма —*
*Прысутны ўсюдысна.*
*Калі ваш дом — турма,*
*Я ў ім надзеяй блісну.*
*Як Рым паўстане новы,*
*Не кіну вас ільвам.*
*Не клятву, але Слова*
*Хачу прынесці вам.*

*А вы сярод драбніц*
*Загрузлі ў шэрым друзе.*
*А ваш шаман бубніць,*
*Танцуючы па крузе.*



*Вішчыць і заклінае*
*І грозіць ваш шаман,*
*Паходняй асвятляе*
*Смуродны ваш шалман.*

*Пакутуючы, ўсе*
*Зжыліся вы з пакутай,*
*Памалу, пакрысе*
*Прапахлі скрозь цыкутай.*
*Ланцуг вам як не цісне,*
*І пэўна нездарма*
*Прысутны ўсюдысна*
*Я той, каго няма!*

**2013**

## Калыханка

*Бог начной цішы пару*
*Ўсталяваў на свеце.*
*Шэпча дожджык шыферу*
*Казку па сакрэце.*

*У вільготнай цемрадзі*
*Пахне мокрым бэзам.*
*З вечара ў куце прадзе*
*Павучок-гарэза.*

*Нітачку чароўную*
*Дбайна выпрадае,*
*Дзеўку чарнабровую*
*Ў вэлюм апранае.*

*Пара заручаецца.*
*Госці дораць краскі.*
*Казка тут канчаецца,*
*А далей — не казка.*

*Спі, дзіця!*

**2013**

## Парвалася струна

*Парвалася струна —*
*І музыка памерла.*
*А хтосьці не стрываў:*
*Здалі, напэўна, нервы.*

*Крык цішыню працяў*
*Смяротны (як здалося),*
*А потым быў працяг*
*Сімфоніі і лёсу.*

*У скрыпача запас*
*Быў невычэрпны струнаў.*
*Жыццё адно ж у нас*
*З канечнай прорвай труннай.*

*Мы струнаў залатых*
*Сваіх не ашчаджаем.*
*А хто нас жывіць, тых*
*Мы проста ў сэрца джалім.*

*І ядам мы сваім*
*Атручаным ўрэшце,*
*Збіраем жменяй дым*
*І маем змрок у рэшце.*

**2013**

## Танга

*Старога танга наплывае*
*Матыў шчымлліва-агнявы.*
*Шукальна залу аглядаю.*
*І раптам… Божа! Гэта ж Вы!*
*Усхваляваны, запрашаю,*
*Вяду няўпэўнена я Вас —*
*І шэры попел узмятаю*
*Кастра, які даўно пагас.*

*Танга!*
*О, наша танга залатое!*
*Танна*
*Вярнуць не зможам танга тое,*
*Бо нота кожная*
*Цэлым лёсам аплачана*
*І шматночна аплакана*
*Душой наўзрыд.*

*Навошта гэтая сустрэча,*
*Галавакружнасць гэтых па,*
*Калі гады прыгнулі плечы*
*І астудзілі сэрцаў пал?*
*У абаіх даўно збылося,*
*Што збыцца мела і змагло.*
*Аддаўшы зерне ўсё, калоссе*
*Перабуцвела ўжо на тло.*

*Танга!*
*О, наша танга залатое!*
*Танна*
*Вярнуць не зможам танга тое,*
*Бо нота кожная*
*Цэлым лёсам аплачана*
*І шматночна аплакана*
*Душой наўзрыд.*

**2013**

АПАВЯДАННІ

# БЕЗ ЧЫТАЧОЎ

Таццяна БАРЫСІК



## Кропелькі

*Маладым змагарам за ўраджай прысвячаецца.*

— Ну, унучка, адпачыла з дарогі, то падымайся, трэба жукоў пырскаць, — нечакана пабудзіў мяне бабулін голас.

Утаропіўшыся, гляджу на сонечны праменьчык, што прабіваецца праз шчыліну аканіцы, і прыгадваю: маці сёння, выпраўляючы мяне ў вёску, казала аб тым жа.

Упершыню ў сваім шаснаццацігадовым жыцці жукоў труціць — справа адказная! Падхопліваюся, нацягваю спартовыя нагавіцы, латаную дзедаву кашулю, павязваю хустку жоўтую з сінявятымі плямамі ад чарніцаў. Узуваю ногі ў бацькавы гумовікі сорак другога памеру. Цяжка ногі валачыць. Але нічога не зробіш, іншага нямашака. Так, пальчаткі, атрута... Хаця б нічога не забыцца.

На сотках мяне чакае знаёмая цынкавая выварка з вадою. Аб край разбіваю ампулы. Цяпер яны плывуць па вадзе, нібы самалёцікі ў небе, пакідаючы за сабой бялюткія сляды. Перамешваю ваду трэскаю, і ў выварцы ўтвараецца маленечкі атрутны вір.

Іржавая даёнка налітая да паловы, на тры баразны павінна хапіць. Адшукваю леташнюю, аблітаную павуццём бярозавую мяцёлку і, куляючыся качанём, крочу па роднай зямельцы. Клятая даёнка рэжа руку, часам вадкасць булькае і пляскае мне на боты. Рухамі старажытнага сейбіта з падручніка гісторыі я раскідваю па наваколлі пырскі казюрчынай смерці. Усё макрэйшымі робяцца картаплянік ды калашыны нагавіцы. Вясёлкавым ззянем пераліваюцца на зялёных лісціках атрутныя кроплі. Мае ворагі — чырвоныя, паласатыя — спелымі ягадкамі падаюць долу. От, бляха! У вока трапіла гадасць гэтая! Пячэ няможна! Хуценька лячу дахаты. Ратуюся халоднай вадзіцай. На стале ляжаць сонечныя акуляры. Ну ўсё, у акулярах мне нічога не страшна. Зараз я вам, паганцы, пакажу! Ізноў да змагання! Не можа таго быць, каб я не перамагла…

На дзясятай баразне ўжо не куляюся, а цягнуся. Ледзьве падымаю ногі й даёнку. Боты ўдвая цяжэйшымі зрабіліся, спіну ломіць, рука сама сабой калоціцца дробненька. Два камары адначасова за шыю і лоб укусілі. Не пачуваешся аніяк, на пальчатках атруты ўсё болей.

Астатнія барозны амаль прапаўзаю. На двары звечарэла. Хмара невядома адкуль насунулася. Хаця б не дождж, а то ўся работа кату пад хвост…

Рэшткі вадкасці выліваю на калгаснае жыта. Так дарослыя заўсёды рабілі, каб нашыя куры не патруціліся. Гонарам поўніцца душа. Няхай сабе ногі, рукі мокрыя, брудныя, але затое зрабіла, не горай як у людзей. Не з'ядуць жукі бабінай картоплі.

Тэпаю на вуліцу, сядаю на лаўку.

— Ты што, малая, ідзі мыцца! Скідай адзёжу етую к такой матары. І сто грамаў выпей. А то назаўтра не падымешся. Мы вунака праз етае пырсканне два дні качаліся і рыгалі! — вучыць жыццю суседка.

Мыюся на двары вадою з ночваў. Гаючыя струменьчыкі бягуць па стомленых нагах, плячах. Укруціўшыся ў вялізны мультановы халат, увальваюся ў хату. На гадзінніку палова на адзінаццатую.

— А маё ты дзіця, намучылася, — гэта ўжо бабуля спачувае.

Сядаю да стала. Наліваю чарку, каб уранні здаровенькай прачнуцца. Заядаю разлезлымі макаронамі. Над вухам спуджаная муха бзыкае. Шчокі расчырваненіся. Па тэлевізары кіно пра гішпанскую прынцэсу паказваюць. Знадворку, вось паскудства, дождж пачынаецца. Па даху, па слівах ужо лупіць.

Марныя пакуты мае. Навошта рвалася, дурніца! Каб яны павыдахлі ўсе — і жукі і прынцэсы! Заплакаць не маю моцы, млявасць і сон апаноўваюць мяне.

Шэры начны матылёк упарта б'ецца аб шыбу. На дне чаркі высыхаюць рэшткі самагону, апошнія кроплі майго дзяцінства.

## Без чытачоў

— Люблю я Амара Хайяма, яго рубаі! «Уж лучше голодать, чем что попало есть…», — натхнёна прамаўляў хрыпаты голас пасярод вясковай вуліцы.

На хвіліну мне падалося, нібы я знаходжуся на пасяджэнні літаб'яднання ці на лекцыі па замежнай літаратуры. Але п'янкі пах бэзу ды павалены плот насупраць імгненна вярнулі да рэчаіснасці. Не, гэта не ўніверсітэт і не карпаратыў у рэдакцыі. Мы сёння на нашых сотках талакой бульбу садзілі. Потым, як належыць, пілі магарыч. Папаліць і адпачыць ад мінібанкету выйшлі на свежае паветра. І прыхільнік Амара Хайяма не спіты выкладчык-філолаг, не пазаштатны аўтар раёнкі, а адзін з нашых дабраахвотных памочнікаў Міша — ці-то бульдазерыст, ці-то трактарыст па спецыяльнасці, майстар з залатымі рукамі і гэткай жа душой — апошняя надзея пенсіянераў.

У маладосці пад час вайсковай службы або мо на цаліну з'ехаўшы, ён апынуўся ў Казахстане. Пасля вярнуўся на бацькаўшчыну. Сям'і сваёй не мае, жыве на цётчыным лецішчы без сталай працы, з казахскім грамадзянствам і дыягназам сухоты. П'е, паліць і чыфірыць. З горада да яго шчэ дзядзька прыязджае — чырванатвары здаравец з наборам гэткіх жа шкодных звычак, але зусім адрозным характарам. Міша працавіты і чулы, дзядзька — гультаяваты і нахабны аматар дармаўшчыны. Цётка звычайна перадае сала ці масла. Але ўвесь харч імгненна прадаецца і прапіваецца. Да таго ж хітры дзядзька мае звычку цягаць за пляменнікам па заробках як бясплатны дадатак.

Крыху глынуўшы для настрою, Міша ідзе працаваць. Дзядзька ж часцяком спасылаецца на кепскае самаадчуванне, імкнецца прылегчы — і праз якую хвіліну храпе як пшанічку прадаўшы!

Не, вы ж хаця не падумайце! Нашыя мясціны славутыя не толькі Мішам і ягоным сваяком. У вёскі багатая падзеямі мінуўшчына, спрадвечныя традыцыі, вось толькі людзей амаль няма. Усяго восем-шаснаццаць чалавек у залежнасці ад сезону. Сярод іх ёсць, канечне, і былыя настаўнікі, заатэхнікі, ударнікі працы, але ўсім ім пад восемдзесят ці за восемдзесят. Міша ж тут не толькі самы малады (няма й пяцідзесяці), але й самы адметны.

Ну, скажыце, хто ж яшчэ здатны дзябнуць конаўку брагі, з запаленай папяроскай у зубах залезці на тэлеграфны слуп, адрамантаваць ліхтар і спусціцца долу, не выкінуўшы з зубоў папяроскі? У чыстым полі восенню разам з суседам усю ноч вартаваць выкапаную ў кааператыве бульбу, якую сусед не патрапіў завезці дахаты. Сваю ж уласную карову аднойчы забыць на вуліцы, не загнаўшы ў хлеў. На шчасце, бедную жывёлу не ўкралі. Не было каму.

Але мяне захапілялі найперш не гэтыя неардынарныя ў разуменні сярэднестатыстычнай асобы ўчынкі. А Мішава прыхільнасць да Амара Хайяма, ягоны падарунак сябру, былому настаўніку — «Выбранае» Уладзіміра Высоцкага, пільная ўвага да ўніверсітэцкага паэтычнага зборніка. Што ўжо казаць пра Міхасёвы размовы на бяседах!

Людская гамана даўно ўжоператварылася ў перадачу малацікавай інфармацыі пра асаблівасці ўласнага побыту.

— Буракоў дробных наварыла, пад'ела. От, смачна!..

— Мой унук паступіў на завочнае, на платнае, другі курс ужо, на сесію паехаў. Дык я ўжо сяджу, думаю, хаця ж бы ён здаў экзамены тыя…

— Я такая чысцёха! Люблю парадак у хаце. Як маладзейшая была, то ўсё паўмываю, паўчышчаю, фіранкі накрухмалю, мост пашкрабу, пыл з фікуса анучкай выцеру…

Вось так, бывае, сядзіш, слухаеш і маўчыш, лянота язык аб зубы біць. Бо смак буракоў не змяняецца год ад году, бабулін унук абавязкова вывучыцца, уладзіцца і шчэ папап'е людскае крыві. Бо калі, пражыўшы жыццё, табе няма чаго распавесці нашчадкам, апроч прыбірання ў хаце, дык, пэўна, не хваліцца, а галасіць варта.

Міхась жа ў гутарках не кранаў тэлесэрыялаў, не ўзвялічваў сябе, пахваляючыся штодзённымі клопатамі. І тут справа, бадай, не ў адсутнасці тэлевізара ды наладжанага побыту, проста для гутарак знаходзілася нешта цікавейшае, больш важнае. Так, аднаго разу ён прызнаўся, што не толькі чытае чужыя вершы, але й мае свае ўласныя:

— У мяне іх багата. Я іх пішу і пад койку кідаю! Лебедзь, рак і шчупак — у падражанне Крылову, — абвесціў Міша назву ўласнага твора і пачаў чытаць. Твар ягоны адразу пасвятлеў, бы на імшы, але голас… Голас хрыпеў і зрываўся. Каб разабраць праз хрып і сіпенне тэкст, змоўклі ўсе, хто сядзеў побач. Тое, што ўдалося пачуць, мо і не з'яўлялася скарбам сусветнай літаратуры, але было куды самабытнейшым за скляпаныя наспех шэдэўры зорак раёнкі. Ды й заканчэнне байкі атрымалася цалкам сучасным. Героі Крылова цягнулі воз у розныя бакі, персанажы Міхася ўвогуле адмовіліся брацца за працу.

На жаль, голас паэта я тады чула ў апошні раз. Нейкі час сустрэцца не выпадала. Казалі, нібы Міша быў бы не супраць надрукавацца хаця б на старонках мясцовай прэсы. Але ў хуткім часе яму стала не да вершаў. Дактары выявілі апроч сухотаў яшчэ й анкалогію. Некаторыя ў вёсцы імкнуліся не стыкацца з Мішам, каб хвароба на іх не перайшла.

Ён завітаў да нас напярэдадні дзявятага траўня. Знакам папрасіў у мяне асадку з папераю. Павіншаваў старых са святам. Я ў адказ пажадала яму здароўя.

— Мне засталося год ці паўтара, — прачытала я на старонцы сшытка. Вось так і скончылася наша гутарка-ліставанне.

Чакаеце трагічнага фіналу? А трасцу ў бок! Стары, які напярэдадні дня Перамогі збаяўся паціснуць Мішу руку, нечакана перакуліўся праз тыдзень з невядомай прычыны. Мішавага дзядзькі-здараўца не стала праз год. А Міхасю зрабілі аперацыю. Ён акрыяў, нават звычкі выпівацц не кінуў. Праўда, свой голас паэт страціў назаўсёды. Далі інваліднасць. У вёсцы ён не з'яўляўся. Цётка прадала лецішча.

Болей з Міхасём я не бачылася, у друку ягоныя вершы так і не з'явіліся, ды і наўрад ці ён працягвае іх пісаць. Навошта? Уголас іх чытаць няма як, а напісанае ад рукі хто ж цяперашнім светам разбіраць будзе. Некаторыя толькі друкаванымі літарамі чытаць умеюць.

Ну й такое бяды! Адным графаманам меней, — прабурчыць нехта. І будзе мець рацыю. Нашай квітнеючай краіне патрэбны графаманы іншага кшталту: маладыя, здаровыя, без шкодных звычак, каб скапцаліся не хутка, амбітныя, усюдыісныя, адукаваныя настолькі, што аж жах бярэ. І галоўнае — з абсалютнай няздатнасцю шпурнуць чарговы твор пад ложак, цытаваць усходніх паэтаў без узгаднення і пільнай на тое патрэбы. Толькі ці ўслухоўваецца хто-небудзь кольвечы ў іхняе гучнае, бы мацюгальнік да вуха прыклалі, дэкламаванне, як услухоўваліся мы тады ў знікаючы голас вясковага паэта Міхася, хворага на сухоты і анкалогію грамадзяніна Казахстана? І хоць ён ніколі не меў сваіх чытачоў, але ўсе ягоныя нешматлікія слухачы, што пакуль яшчэ не адышлі ў лепшы свет, дасюль памятаюць і самога паэта, і назву яго самага вядомага твора: «Лебедзь, рак і шчупак». У падражанне Крылову.

Час бяжыць хутка. Дзесяць гадоў мінула, а можа й болей.

> Нашай квітнеючай краіне патрэбны графаманы іншага кшталту: маладыя, здаровыя, без шкодных звычак, амбітныя, усюдыісныя, адукаваныя настолькі, што аж жах бярэ



ВЕРШЫ



# ЧАТЫРЫ СОНЦЫ

Валеры ДУБОЎСКІ



* * *

*Над вязам,*
*нібы над касцёлам фарным, —*
*вяртаю пачутае*
*птушцы-мінчанцы:*
*— Не ўсе, сапраўды, спалучаюцца*
*фарбы*
*і людзі не ўсе спалучаюцца.*

*Мы рознага лёту.*
*Мы з рознага лета.*
*І зімы розныя нас халадзілі.*
*Ды цешымся словам*
*прыўкрасным*
*шляхетна*
*яшчэ незабытае*
*мовы адзінай.*

* * *

*Акно адчыніў. Не ставала*
*Духу зямлі.*
*Мой настрой —*
*Няспраўджанае ліставанне*
*Душэўнай стомы старой.*

*Супярэчліва — неадпрэчнае…*
*Не лістапад — лістабой…*
*За вакном —*
*Прадчуванне вечара.*
*Некага не хапае і нечага.*
*Не з табой.*

## Плешчаніцы

*Быў мястэчковы ранак.*
*Пад дымам дом прысеў.*
*Быў цаліковы снег*
*І свет нетурбаваны.*

*Званоў цымбальных зовы,*
*І з імі галаснеў*
*Бясколерны сусвет,*
*Прасцяг шматкаляровы.*

* * *

*Не так ляцеў…*
*А як — наадварот?*
*Сур'ёзнасць я цвяліў*
*З усмешкаю дзіцячай.*
*Падглядзеўшы*
*Вятроў непаслухмяны лёт,*
*Нязнікілівасць яго, нябачнага,*
*Убачыў.*

*Дзіўлюся простаму,*
*Вясёлы й грэшны.*
*Мудрэю, як смяюся,*
*Бо з чаго б*
*Сваю далонь*
*Жыццё кладзе з усмешкай*
*Мне на задумнае,*
*Смяшлівае чало?*

* * *

*У закуце, у цішыні*
*Абняможанае кола*
*Ужо не коціцца:*
*Па дні*
*Стала паслядоўем*
*Кволым.*

*Брукі,*
*Наледзь,*
*Каляіны*
*Ўспамінае кожнай спіцай,*
*І не шлях крывы, змяіны —*
*Небакрай — як вобад —*
*Сніцца.*

* * *

*Як рытуалы з «Кнігі Перамен»,*
*Як рух да выхаду*
*Ад самага ўваходу,*
*Хоць ты і не з біблейскага народу,*
*Каханне ўзвысіць*
*І каханне перамне.*

*Малое сыйдзе, каб вялікаму прыйсці.*
*Душа паніклая з нічога*
*ўваскрэсне*
*Ад снегавых*
*Схалодненых прасцін*
*Да слоў неразгаданых*
*«Песні Песняў».*

* * *

*Ці рок цябе,*
*Ці ты рок паспытаў,*
*Лявіцу не паблытаўшы*
*З правіцай?*
*З дарожнага не піў ты*
*З капыта?*

*А з д'яблавага*
*Хтосьці змог*
*Напіцца…*

## На Дзяды

*Не восень,*
*час абтрасе*
*лістоўе —*
*у ім воля якая!*
*З паміраннем*
*не зводзіцца свет,*
*з нараджэннем*
*не ўзнікае.*

*Зноўку*
*вітаеш снягі,*
*усім пакаленням*
*адкрыты.*
*Кладзеш,*
*як цяжкія даўгі,*
*гваздзікі*
*да дзедавых плітаў.*

* * *

*Бяссонніцу тваю*
*Не скраду.*
*Немагчыма*
*Бяссонніцу скрасці.*
*Як долю. Як шчасце. Бяду.*
*Вечнасць і пазачассе.*

*Бяссонніцу тваю*
*Не звяду.*
*Каханне немагчыма звесці —*
*Сподзеўны край прыдум,*
*Вёснаў*
*І няпройдзеных вёсніц.*

*Па бясконцасці йдзе*
*Паломніцай*
*Твая і мая*
*Бяссонніца.*

* * *

*Шчасце ёсць,*
*калі ты ёсць.*
*Гора ёсць,*
*калі ты ёсць.*

*Калі цябе няма,*
*няма анічога —*
*ні шчасця,*
*ні гора,*
*ні іншых*
*ёсць.*

*Ты ёсць*
*прысутнасць.*
*Ты ёсць*
*адсутнасць.*

* * *

*Завіхаўся*
*ў жыццёвай сяўбе.*
*Ды ўраджай*
*не заўсёды багаты.*
*А было —*
*спазнаванне як свята.*
*А было —*
*спасціжэнне сябе.*

* * *

*У нішто каб увайсці,*
*З нічога выйшлі —*
*Праз светлавод любові*
*Аж да цемні жарсці.*
*Для нечага ж*
*Спадобіўся Найвышні*
*Нам неба лусту*
*На далонь пакласці.*

* * *

*Птушкі як людзі,*
*Трымаюцца дарог.*

*Людзі як птушкі,*
*Трымаюцца неба.*

* * *

*На пуцявіне стромкай*
*Узрос, жыву і згасну.*
*Мы толькі абалонка.*
*Мы толькі выдых часу.*

* * *

*Не сумую, а падсумоўваю:*
*Нас мечам любілі, агнём,*
*Нас любілі чужынскаю моваю.*

* * *

*Самы лепшы твой*
*суразмоўца —*
*ты сам.*

*І самы страшны —*
*таксама.*

* * *

*Не светам,*
*А табою засляпіўся.*
*Не светам,*
*Больш табою быў сагрэты.*
*У свеце выпадковым*
*Я наўмысля*
*Перад табою*
*Грэбую сусветам.*

* * *

*Небасхіл.*
*Небадол.*
*Далягляд.*
*Дай мне сілы,*
*Іду наўздагад.*
*Звечарэлую вечнасць*
*Я гушкаю:*
*— Спі хутчэй,*
*Бо патрэбна падушка.*

* * *

*Схітрыцца хоча*
*не памерці.*

*Да смерці.*

* * *

*Мае два сонцы*
*на небе —*
*як чатыры.*

*Усё сталае жыццё*
*думаю,*
*якое з іх галоўнае.*

*Жыла мама,*
*і гэтае сонца*
*грэла днём,*
*а калі планета нябёсная*
*чэзла ноччу,*
*мама ўсё роўна*
*была.*

*Адышла матуля,*
*патухлі два яе сонцы.*
*А гэтае, нябёснае,*
*засталося.*
*І калі знікае ў начы,*
*я грэюся цеплынёй*
*поўні.*

*У яе позірк мамы.*

* * *

*Скончыцца,*
*Ды не перастане.*
*Паўтараецца дзэжавю:*
*Я танцую вясёлы танец.*
*Я жыву.*

ФРАГМЕНТЫ

# з новага рамана «ПАСЛЯ ПАТОПУ»

Эрнэст ЯЛУГІН



…Жыгімонт-Аўгуст памалу абуджаўся і спрабаваў узнімаць бы свінцом набрынялыя павекі, а стары смяхач Станьчык, падкурчыўшы пад сябе станчэлыя ногі, сядзеў каля дзвярэй і адтуль падслепавата ўглядаўся ў яго вялікасць, ламаючы галаву — як бы гэта ўмудрыцца нешта сказаць каралю, калі прачнецца канчаткова, каб той усё ж і ў цяперашнім стане ацаніў жарт і засмяяўся. Бо следам давядзецца паведаміць і такое, што гаспадару будзе ўжо не да смеху. А хто яму яшчэ ў Вільні гэта скажа?

Адразу па прыездзе з Кракава, пасля цяжкай дарогі, адчуваючы, як стомлена тахкае старое сэрца і ломіць косці, Станьчык ужо і шкадаваў, што не застаўся дома, няхай бы тут, у Літве, караля забаўляў пляменнік, таму-сяму навучыўся каля дзядзькі, і пільным розумам, які гэтак патрэбны ў скамарошай справе, Усявышні не абдзяліў. Але хутка пераканаўся, што сама Маці Боская натхніла яго ў дарогу…

Лукаш, ложнічы, хоць і даўні сябра і адначарачнік, тым не меней на гэты раз ледзьве дазволіў Станьчыку ўтачыцца ў каралеўскую апачывальню, баяўся Радзівілаў. Ну вядома, не ложнічаму, няхай і каралеўскаму, станавіцца насуперак іх волі ў Літве. Усё ж Станьчык яго ўлашчыў…

У спальні стаяла халадэча, хоць учора ўвечары і палілі ў печах, але палілі паспешліва, са спазненнем, бо дварэцкі з раніцы меркаваў, што яго вялікасць застанецца начаваць у Радзівілаў, ажно не. А цяпер паліць не пачыналі, каб не патрывожыць усё яшчэ спачываўшага караля. Але яго вялікасці, відаць, холад не назаляў — балдахін над вялізным ложкам быў рассунуты. Добра, значыць, грэла яго вялікасць дзябёлая русінка, у замшэлага Станьчыка і то нешта слодычна напружылася ў чэрслах, калі яе ўгледзеў, і можна ўявіць, як ноччу каля яе завіхаўся ўвогуле прагны да жаноцкага цела найяснейшы гаспадар. Можна меркаваць, ніблага пагрэўся, таму і балдахін у такім выглядзе, і стары смяхач можа назіраць, як кароль спрабуе разляпіць набрынялыя павекі…

Кароль з цікавасцю назіраў за старым смехачом: не паленаваўся ж прыцягнуцца з Кракава, хоць яго ўжо ніхто не клікаў. Зусім замшэлы пянёк, падумаў Жыгімонт-Аўгуст са шкадаваннем, бо памятаў Станьчыка ого якім увішным і з'едлівым пралазаю. Ды сядзеў бы ўжо дома ля печы і жартаваў са слугамі і суседзямі, калі за доўгае жыццё не надакучыла скамарошнічаць. Падумаў пра пяшчоту агню ў добрым каміне, бо адчуў, як патыхае ад акна нейкім чужым сырым холадам. Панесла ж яго нялёгкая зноў у Вільню. У Польшчы, здаецца, зімні холад не такі пранізлівы. Адно добра — ласкавая цеплыня струменілася ад наложніцы. Ды што ж, кабылку трэба адпускаць, хоць яна яму спадабалася. Русінкі ўвогуле вельмі прывабныя. Дарэмна яму ўводзіць у вушы Мнішак, што лепей палячкі. Але найпекнейшай звабы, чымся была мілая горліца Барбара, Усявышні, відаць, і стварыць болей не здолеў ці не захацеў і паспяшаўся ўзяць яе да сябе ў сад райскі. Яго воля, што тут пярэчыць, толькі ж навошта было галубку так мучыць перад сконам? Нават гасударам не спасцігнуць ісціннага сэнсу ўчынкаў гасподніх, і не верылася, што такое даступна царкоўным служкам, ці яны чыне ні былі…

Жыгімонт-Аўгуст пагладзіў наложніцу, і яму прыемна было адчуць, як тая чулліва напружылася пад яго далонямі, імкнула бліжэй-бліжэй, наліваючыся вабнай пяшчотай, саладзейшай за якую нічога на свеце няма, і гаспадарскае ўладарства перад гэтым друганае (хацеў жа ён калісьці нават скласці з сябе вялікакняскае званне, калі яно перашкода, каб узяць шлюб з Барбарай). І няхай нават гэта было чыёсьці чараванне, як яму нашэптвалі, дзяржаўная ўлада і бліска ніколі не давала яму такога задавальнення-асалоды, як уцехі з Барбарай…

Толькі каралеўскі блазен мог гэтак аглядаць наложніцу яго вялікасці ды яшчэ й запытацца:

— Прызнайся, бы на споведзі, яго міласць здолеў табе дагадзіць, бо не заўсёды ж дагаджаць толькі яму?

Панна зіркнула на насцярожанага і занепакоенага караля і сказала тое, што ён так хацеў пачуць:

— О, яшчэ як!

Жыгімонт-Аўгуст запляскаў у далоні, засмяяўся, пацалаваў наложніцы тугія грудзі, зняў са свайго пальца важкі пярсцёнак і паклаў ёй у далонь.

— А цяпер ідзі, — прамовіў ціха, як мага ласкавей, але з прыхаванай журботнасцю.

— Я не дагадзіла? — у позірку наложніцы шырыўся адчай.

— Ты сама слодыч, мёд з малаком, — Жыгімонт-Аўгуст зноў пацалаваў наложніцу — у лоб.

Жанчына похапкам апранулася і ценем мільганула міма скурчанага старога скамароха.

— Скажы там, каб неслі гарачае віно, — нягучна сказаў ёй услед Жыгімонт-Аўгуст, і быў пачуты.

Кароль па-дзіцячаму працёр далонямі вочы і з лёгкім посміхам зірнуў на Станьчыка.

— Сядзіш скурчыўшыся і калоцішся. Нехта ў Вільні асмеліўся напалохаць нашага найсмялейшага блазна?

— Холад напалохаў, — Станьчык пацёр пасінелыя пальцы. — Дзіўлюся: няўжо ў Вільні так кепска з дрывамі, што не змаглі нагрэць як мае быць хаця б каралеўскую апачывальню?

— О, я толькі зараз адчуў, што сапраўды холадна, — кароль перасмыкнуў плячыма і слізгануў пад коўдру. — Дзе там віно?

— Яго вялікасць, відаць, і без каміна няблага грэлі, калі так, — Станьчык пацёр рукі. — Але ж цана! Хапіла б двух — ад сілы трох залатовак, пярсцёнак вартавы дзе за баявыя заслугі не заўсёды ўхопяць.

— Скамарох, ведай, каму гаворыш! — заззлаваў кароль. — Ваяводам даюцца вёскі і староствы, і ўвогуле, я ж не маскоўскі жывадзёр, які нават уласных жонак знішчаць загадвае, калі надакучаць, не кажучы пра наложніц.

— Залатоўка з рук самога караля — ого якая міласць, — не здаўся Станьчык. — Ці многа іх яшчэ звініць у сундуках на Вавелі.

— Вось гэта ўжо зусім не клопат нашага блазна, — Жыгімонт-Аўгуст гэтак жа адтапырыў ніжнюю губу, як некалі рабіў ягоны бацька-нябожчык, калі быў нечым незадаволены.

— Ага, ну дык адгадай, твая міласць, загадку, якую я пачуў учора. Якраз тады, калі стралялі гэтыя новыя гарматы канцлера, а панства ў каторы раз піло за здароўе тваёй каралеўскай міласці, — Станьчык з гжэчным вывертам пакланіўся, правай рукой прытрымліваючы сваю пярэстую двурогую шапку з бубянцамі.

— Пачакаў бы са сваёй блазенскай загадкай, пакуль не прынясуць віна, — адмахнуўся кароль. — А лепей да вечара.

Станьчык развёў рукамі, смешна-пакорліва пакланіўся, дзынкнуўшы бубянцамі:

— Гэтак заўсёды, калі самы дурны дурань абодвух народаў асмельваецца нешта сказаць іх каралеўскім і вялікакняскім вялікасцям. У лепшым выпадку загадаюць чакаць да вечара.

— Я не загадваю дурням, — кароль шчыльней загарнуўся ў коўдру і сеў, ужо зусім пазбавіўшыся санлівасці.

Цяпер самы раз, вырашыў Станьчык і зноў з грымасай смяшлівасці пакланіўся.

— Усё ж адгадай, твая міласць, пакуль тое віно, — Станьчык прымружыў спачатку адно вока, потым другое, — каторы з князёўрымлянаў, памяняўшы веру, не сёння-заўтра абвесціць сябе каралём Літвы-Русі з Жамойцю ў дадатак, а цябе па-сяброўску ласкава запросіць на каранацыю?

Жыгімонт-Аўгуст ад нечаканасці ўтаропіўся ўважлівым позіркам на старога пляткара, потым страсянуў галавой, бы ўгледзеўшы нейкі прывід, і не надта каб весела засмяяўся.

— Вось, твая каралеўская міласць смяецца, — зажурыўся Станьчык.

— Як жа не смяяцца, калі мне гэткае кажа наш галоўны блазен ды ажно з раніцы, нашча? — кароль зноў засмяяўся.

— Але ж, твая каралеўская міласць, я зусім не жартам, — Станьчык быў амаль у роспачы.

— А калі не жартам, — нахмурыўся Жыгімонт-Аўгуст, — то я загадаю табе неадкладна вярнуцца ў Польшчу.

Звонку ў дзверы стукнулі тройчы. Следам на парозе з'явіўся заклапочаны Лукаш Ленцкі, ложнічы, а за ім пан Дарагастайскі, стольнік, які і абвесціў:

— Віно яго міласці вялікаму князю і каралю!

…Станьчык далікатна выслізнуў прэч, ледзьве пазбегшы сутыкнення з каралеўскім цырульнікам Лукашом Вольфам, той несумненна прыслухоўваўся да галасоў у апачывальні.

Каля каміна, з пашчы якога весела шугала полымя, стаяў пан Масальскі, побач двое дваранаў аховы, за імі кухар і яшчэ нехта з пакаёвай абслугі, во колькі спатрэбілася народу, каб кароль змог раніцай сагрэцца чаркай-другой мальвазіі, звычна-з'едліва адзначыў пра сябе Станьчык, прыкідваючы, дзе б самому пажывіцца кубачкам калі ўжо не мальвазіі, дык медавухі. Ды каб кавалак смажаніны.

Доўгі нос скамароха даволі хутка вызначыў напрамак да кухні, з таго боку цягнула пахам смажанай рыбы. Станьчык аднаго не разабраў — карп гэта, сцерлядзь ці што іншае, а лепей бы лешч, засмажаны на свежай вяпрыне, учора ж кароль быў з Радзівіламі на паляванні, а здабычу прывезлі на трох санях.

Тут Станьчык зноў успомніў пра сваю загадку каралю і пра тое, як іншым разам менавіта ў часе паляванняў вырашаліся найважнейшыя дзяржаўныя справы, у тым ліку каму сядзець на прастоле бліжэйшым часам і ў будучыні. Эх, такі Усявышні даў яму нямалы век, даўно ўжо ён і стаміўся высочваць не заўсёды забаўныя хітрыкі вышэйшага панства, агучваючы ўсё так, каб выглядала смешна. <…>

Жыгімонт-Аўгуст зірнуў на пальцы сваіх рук: усяго адзін пярсцёнак! Той, які дарыць ужо нельга, калі не расставацца з дзяржаўнай уладай, — яго асабістая каралеўская пячатка, сыгнет. Але ён не шкадаваў, што шчодра адарыў гэтую ліцвінку (ці русінку?), яна ўсё ж натхніла яго.

Водар выдатнага гарачага віна нарэшце пераключыў каралеўскія думкі на дзяржаўныя клопаты: ці запрашаць на паляванне французскага пасла?.. Аднак іх перапыніла паведамленне ложнічага:

— Ваша каралеўская міласць, ванна гатова!

— Цудоўна! — кароль пляснуў у далоні. — Дзе мой цёплы халат?..

У прыёмнай зале віленскага каралеўскага палаца абуджэння і волі Жыгімонта-Аўгуста чакала нямала вяльможнага люду. Гарабурда асабліва адзначыў пасла французскага караля, затым — малодшага брата лівонскага магістра Фюрстэнберга, а яшчэ — бадзёрага прэлата папы Рымскага, да якога праваслаўны Гарабурда адчуваў асаблівую насцярожанасць. Да француза ён ставіўся абыякава, а вось Фюрстэнбергу спачуваў, ведаючы, якая ліхая нагода прымусіла таго цягнуцца ўзімку з утульнага Мальбарка.

Ад паніста Вялікаму Княству нічога добрага чакаць не даводзілася: хутчэй усяго спроба ўцягнуць у вайну супраць турак, у той час як хаця б з поўдня цяпер так патрэбна мець бяспеку, няхай і хісткую, бо ад звестак, здабытых панам Філонам Кмітою з Масковіі (а вось жа амаль тыдзень ужо рыцар маркоціцца ў Вільні, чакаючы, пакуль запросяць на даклад паны-рада, ці на рымскі манер — сенатары), працінаюць дрыжыкі. Чаго прыпёрся ў Вільню папскі прэлат? Сядзеў бы, чакаў свайго ў Кракаве. Нешта ж паганае, значыць, рыхтуецца для Вялікага Княства. Тое, што пачалося з часу, калі Рымскі папа дабраславіў на святы подзвіг новы ордэн — Езуса, езуітаў, як іх называюць па-простаму, які ўзначаліў, па чутках, нядаўні салдат-грабежнік Лаёла. Мала нарабілі (і робяць!) інквізітары, святыя суддзі-дазнавальнікі, цяпер яшчэ езуіты. Кажуць, у Іспаніі сябе ўжо ого як паказалі.

…У каралеўскай прыёмнай набралася народу, сярод якога рэдка хто ведаў хоць крыху мову старажытнага Рыма, да таго ж сурамоўцы абменьваліся думкамі амаль шэптам, аднак Станьчык, сноўдаючы ад адной купкі панства да другой, нейкім чынам умудраўся чуць усіх, старасць з'ядала яго зрок і жвавасць, але не слых і вострыы розум.

— Ходзяць чуткі, што дукаты, якія пазычыла нябожчыца каралева Бона свайму родзічу неапалітанскаму каралю, — француз памацаў на сцяне сякеру Міндоўга, — недзе каля паўмільёна дукатаў, з боскай дапамогай апынуліся ў банку святога прастола.

— Нам гэта невядома, — прэлат уважліва сачыў за рукамі француза.

— Ці мог бы святы прастол дапамагчы неапалітанцам сабраць дастатковы флот для крыжовага пахода супраць Асманаў?

— Жалобы варта…

Паслу Рымскага папы не ўдалося паведаміць французу, з якой нагоды гэтая жалоба: ці таму, што святлейшая Бона неабачліва пазычыла гэтулькі золата сваім прагным родзічам не толькі ў Неапалітаніі, але і Іспаніі, а цяпер Жыгімонт-Аўгуст каторы раз просіць святы прастол дапамагчы хоць частку пазычанага вярнуць у казну Рэчы Паспалітай, ці па прычыне дурасці суседзяў Турцыі, якія замест рашучага аб'яднанага адпору Асманам паасобку плоцяць ім вялікую даніну. Не ўдалося таму, што да яго прычыкіляў Станьчык і, апырскваючы слінай, залапатаў на такой мярзотнай лаціне, што ад яе вучонага прэлата перакрывіла не горш за каралеўскага скамароха:

— Вось вы цяпер смуткуеце і плачаце, але вы яшчэ атрымаеце магчымасць пасмяяцца.

Што, вядома ж, трэба было разумець зусім наадварот, у гэтых блазнаў засёды ўсё, можна сказаць, дагары нагамі. <…>

Наведвальнікаў паменела. Сышло некалькі вядомых паноў, знік войт віленскі, не было і папскага прэлата, затое каля француза аказаўся пан Валовіч. Хоць і бачыліся раніцай, Гарабурда зноў пачціва павітаўся са сваім патронам і асобна пакланіўся французскаму паслу. Намерыўся ісці далей, да пана Васіля Цяпінскага, знаёмства з якім адбылося ў мінулы аўторак, у карчме, але Валовіч падаў знак наблізіцца. Гарабурда падышоў, зноў пачціва пакланіўся.

— Заставайся паблізу. Перш чым пойдзем да яго міласці караля, трэба перагаварыць, — Валовіч неяк асабліва ўважліва зірнуў у вочы Гарабурдзе, нібы ў нечым хацеў канчаткова пераканацца. Француз жа далікатна стаў вывучаць сякеру Міндоўга, робячы выгляд, што не разумее па-русінску.

— Як пану заўгодна.

Валовіч нецярпліва павярнуўся зноў да француза. Гарабурда з паклонам адступіў, адшукаў позіркам Цяпінскага. Той не надта каб ветліва размаўляў з рослым шыракаплечым незнаёмым Гарабурдзе шляхціцам з цвёрдым, пасечаным глыбокімі маршчынамі тварам.

У камін падкінулі свежае бярэмя сасновых дроў, і ў залу павалілі клубы шызага дыму.

Да акна. Тут зімна, затое свежае паветра, ад якога святлее ў галаве. Нягледзячы на дым, панства працягвала гуртавацца ля каміна. Той-сёй з асалодай цягне рукі да агню. Іншым разам не так і многа патрэбна для радасці, вось гэтая цеплыня марознай раніцай.

…Ці ўдасца Жыгімонту-Аўгусту ўсё ж атрымаць дазвол Рымскага папы на развод? Запярэчаць Габсбургі, а Рым лічыцца з імі куды болей, чымся з Рэччу Паспалітай. Ды ўрэшце Кацярына можа і сама ў хуткім часе, кажуць, аддаць Богу душу. Вось толькі каб кароль зноў не апёкся з жаніцьбай: нехта ж яму няйначай увёў у вушы, што наступную нявесту трэба здабываць у Францыі. Той жа Радзівіл? Ён не аднойчы наведваў гэтую краіну. Але ж тамтэйшы каралеўскі двор таксама вымарачны.

…Гарабурда так задумаўся, што толькі тады заўважыў Валовіча, калі той апынуўся зусім побач. Коратка пакланіўся яму, спытаўся:

— Да яго вялікасці?

Валовіч таргануў сябе за вус, паназіраў, як слугі запальваюць насценныя шандалы, бо ў зале было даволі змрочна, ледзьве разляпіў губы:

— Заўтра.

Гарабурда пастараўся прыхаваць у вусах усмешку шкадавання-разумення.

— Чым магу пану паслугаваць сёння?

Валовіч паназіраў, як бліскаюць агеньчыкі свечак, дакрануўся да вусоў, павольна прыгладзіў указальным і вялікім пальцамі, звёўшы іх пад ніжняй таўставатай губой.

— Не мне паслужыш, Айчыне.

— Чым толькі змагу.

— Веру, пане. Таму і скажу табе тое, што скажу. — Валовіч уважліва зірнуў па баках. Ахвотнікаў халадаць ля шчыльна пакрытых ледзянымі ўзорамі рознаколерных аконных шыб, акрамя іх дваіх, не аказалася.

— Тое, што я зараз скажу, вядома толькі двум асобам. Ты будзеш трэцім, і каб нікому.

— Як пану пажадана.

Валовіч надзьмуў губы, бы пакрыўджана, выдыхнуў з сябе паветра.

— У асяродку вышэйшага панства, магчыма, завёўся здраднік. Магчыма, паўтару.

Гарабурда насцярожана напружыўся. Павагаўшыся і паразважаўшы пра сябе, сказаў:

— Халера! З нейкага часу ў мяне таксама складваецца такое ўражанне.

— Ты нешта прыкмеціў? — ажывіўся Валовіч.



— Проста такое адчуванне. І ў чыю карысць, пан мяркуе, здрада: Габсбургаў? Свеяў? Асманаў?

— Куды горш: маскоўцаў.

— Халера! — паўтарыў Гарабурда. — Маскоўцаў?

— Іначай адкуль бы на Маскве стала вядома, пра што дамаўляўся кароль з паслом Вялікага Ноўгарада.

— Пра пасла было вядома многім, — заўважыў Гарабурда. — І ў самім Ноўгарадзе ёсць каму даносіць, можна не сумнявацца.

— Яно так, — Валовіч павёў шыяй, быццам яму стала цесна ў каўняры. — Але пра што іменна дамовіліся — ведалі толькі вышэйшыя паны-радцы, і то не ўсе.

— Баюся, бяда будзе наўгародцам. — Гарабурда ўхіліўся казаць пра сенатараў.

Валовіч, ужо загадна гледзячы прама ў вочы Гарабурдзе, сказаў:

— Так ці гэтак, наўгародцам ад Івана Маскоўскага добрага не дачакацца. Тыя ўсё разумеюць, таму многія жадалі б далучыць свой край да нашага Вялікага Княства. Але асобна ад Кароны, бо не давяраюць палякам. Дык пакуль што якое, паслу прапанавана было сем'і знаных асоб наўгародскіх, хто пажадае, пераправіць да нас. У Віцебск ці ў Полацак, а то і глыбей. Кепска, што малавата звестак пра маскоўскія дзеі, асабліва ж вайсковыя намеры.

— Мяркую, масковец сапраўды, перш чым развязаць пашчу на Лівонію, канчаткова зруйнуе Вялікі Ноўгарад. Точыць іклы і на Вялікае Княства, гэта, хутчэй, наступным скокам, пасля паглынання Лівоніі, — сказаў Гарабурда. — Я размаўляў з панам Філонам Кмітою з Оршы. Кажуць, ваяр, якіх мала.

— Ваяр добры, — кіўнуў Валовіч. — У нас з табой усё ж галоўнае іншае — ціхая выведка. Яго міласць пан канцлер лічыць, і я з ім цалкам згодны, што адшукаць здрадніка сярод сенатараў мусіш ты, пане Міхал, твой гэта клопат, дадам хіба — і не разавы.

Гарабурда ўздыхнуў:

— У маім распараджэнні хіба што пісарчукі, з паўтузіна, а для такой справы, адразу і сказаць не здолею, якія людзі патрэбны і колькі. Мяркую ўсё ж — болей за тых, хто мне даступны.

— Прыглядайся, падбірай, — не адступаў Валовіч. — Ведай таксама: ніхто не будзе цікавіцца, як, што і з кім ты робіш, галоўнае — вынік, за гэта спытаем, і я, і пан канцлер.

— Дакладаць абодвум? Ці і яго міласці каралю таксама?

— Толькі мне, — твар Валовіча набыў нечаканую жорсткасць. — Дадам, пан канцлер дае табе таксама права карыстацца людзьмі ягонай ахоўнай харугвы, ваўкі на падбор.

— У справе выведкі лісіцы лепей, — Гарабурда памарудзіў, прыкідваючы, як дамовіцца пра яшчэ адно вельмі важнае. Вырашыў выказаць прама: — Мяркую, з панам канцлерам дамоўлена пра грошы. Відаць, спатрэбіцца немалыя. І каб ніводзін сенатар не здагадваўся, што яны мне.

— Тут будуць складанасці, сам ведаеш... Калі ўжо яго вялікасць пазычае ў свайго цырульніка...

Бакавым зрокам Гарабурда ўгледзеў, як да французскага пасла падыходзіць дварэцкі. Заўважыў гэта і Валовіч.

— Во, — сказаў ён, усмешліва жмурачы вока, — яго вялікасць усё-ткі вырашыў прыняць француза сёння.

Гарабурда назіраў, як годна і з нейкай гжэчнасцю крочыў француз праз бліскучую залу следам за каралеўскім распарадчыкам.

— Лепей бы спярша яго міласць паслухаў лівонца, — буркнуў, не стрымаўшыся ад расчаравання, і азірнуўся на панылага Фюрстэнберга. <…>

Жыгімонт-Аўгуст назіраў, як яго асабісты лекар правярае ваду ў ванне, слугі паміж сабой называюць яе карытам, няхай, гэта нечым збліжае яго з народам. Цікавае слова: КАРЫТА. Мармур загадала прывезці з Італіі яго маці, у Кракаў, пасля ўжо ён сам распарадзіўся зрабіць гэткую ванну тут, у Вільні, для любай Барбары, да таго яна мылася ў дубовай бочцы, што таксама някепска: у бочцы адчуваеш сябе болей абароненым, чымся лежачы распластаным у ванне голым брухам дагары. Некаторы час ён нават пазбягаў так мыцца, пасля таго, як у ёй разглядала яго няўрымслівая маці.

Бедная венцаносная Бона Сфорца! Ты так марыла хоць на старасці зноў купацца ў паўднёвым моры, а не ў польскім карыце, хоць і залачоным, зробленым для цябе з італійскага мармура. А ён, яе сын, яе мара пра будучыню? Ён увогуле так і не ўбачыў мора, нават бліжняга, халоднага, Варажскага. Любы вольны жыхар яго дзяржавы, нават не шляхціц, можа такое ажыццявіць, — праз тыдзень адбудзецца сейм, прыме адпаведны закон, а ён, гасудар, падпіша яго. Толькі не для сябе. А так яшчэ змалку хацелася пабачыць Італію! Неапаль, Бары, дзе цяпер і спачывае яго гаротніца-маці, у зямлі. Учора ён адзначыў гадавіну яе жахлівага скону, ніхто не ўспомніў яе ў Вільні, пілі за яго вялікакняска-каралеўскае здароўе, а варта было памаліцца за яе. Вялікаму Княству яна зрабіла добрага, магчыма, нават болей, чымся Кароне.

Што? Французскі пасол упарта чакае аўдыенцыі? Ажно просіць прыняць яго неадкладна? Адчуваецца гальскі нораў. Ну, пасля ванны няхай правядуць у бібліятэку. Пасланца папы Рымскага? Трэба падумаць... Век бы яго не бачыць. Заўтра! Можна ўявіць яго балбатанне. Што святейшы не можа скасаваць шлюб з аўстрыячкай, бо шлюбы заключаюцца на нябёсах, і гэтак далей. О, колькі чаго чамусьці церпяць нябёсы ад рымскіх першаіерархаў! Не адных рымскіх.

Яго лекар, надзейны і дасведчаны ў сваёй справе дойч Руперт Фінк усё яшчэ прынюхваецца да вады. Фарфоравым бялюткім кубачкам зачэрпнуў з карыта, нюхае. Пахне французскай парфумай, Жыгімонт-Аўгуст і сам мае тонкі нюх, але не пярэчыў завядзёнцы, хоць і не верыў, што яго могуць атруціць праз ваду ў ванне, для гэтага ёсць нямала іншых правераных сродкаў. Самы просценькі, адпрацаваны яшчэ ў старажытнасці, персамі, іудзеямі, рымлянамі, візантыйцамі, непрыкметна капнуць атруту ў чару з віном, не абавязкова ў першую. Русінскія князі мелі свае атрутныя сродкі, пераняўшы ад візантыйцаў, ад ардынцаў. Жанчыны з роду Медычы, апынуўшыся бліз каралеўскага стала ў Францыі, карысталіся багатым наборам атрут ад лекараў-іудзеяў. Яго маці... Не, ён так і не дазнаўся, хто ж сапраўды знішчыў Барбару.

Уважліва прыгледзеўшыся, лекар сербануў з кубачка, смакуючы, трымаў ваду ў роце, як заўзятары добрае віно. Нарэшце праглынуў і прыслухаўся да свайго страўніка, ажно вочы прыкрыў. Сербануў яшчэ. Пасмакаваў, праглынуў, прыслухаўся да сябе. Нарэшце задаволена кіўнуў паслужліваму дзецюку-двараніну і аддаў кубачак. Пакланіўся каралю:

— Ванна гатова, ваша вялікасць.

Каб не паслізнуўся, караля прытрымлівалі двое дваранаўслуг.

Яго вялікасць з уздыхам апусціў нагу ў мармуровае карыта: прыемна. Апусціў другую, слугі спрытна дапамаглі легчы, паклалі пад галаву падушку з мяккай саломы. <…>

Вада астыла, і Жыгімонт-Аўгуст зрабіў знак дваранам, каб дапамаглі вылезці. Лекар адразу ж агледзеў караля і даў знак абгарнуць посцілкай. Тканіна была мяккая і папярэдне сагрэтая. Слугі працавалі зладжана і ўвішна. Заслуга каморніка і лекара.

Люстэрка на процілеглай сцяне запацела, і Жыгімонт-Аўгуст быў вымушаны прыглядацца, як нібы з тумана пакрысе выяўляецца яго цела. Служэбнік здагадаўся хуценька працерці шкло.

Цяпер кароль бачыў сябе выразна. Але гэта не палепшыла яго настрой. Пульхныя перакормленыя шчокі, пара адрошчваць бараду, каб прыхаваць. Рукі... Не, не ваяр. Жыгімонт-Аўгуст шырэй расхінуў спераду накрыўку, разглядаючы жоўты тлушч на жываце... Абвіслы, бы ў замшэлага дзеда, ніз... Сёняшняя яго начная краля ці хлусіла, ці была ўсцешана ўжо тым, што дагаджала самому каралю. Але ж праўда ў тым, што ён толкам так і не даказаў сваю мужчынскую годнасць, як, бедная, ні дапамагала. Такое здаралася з ім і раней, асабліва з перапою, аднак апошнім часам надта ўжо часта. І навошта тады дамагацца развода з жонкай, улашчваць багатымі дарамі рымскага пантыфіка?

— Ваша каралеўская міласць, зараз цырульнік вас паголіць, зробім масаж, потым вып'еце ўзвар з рогу аленя і к вечару адчуеце сябе шаснаццацігадовым юнаком, — лекар бы падслухаў яго сумненні. А вочы надта рухавыя, прыхавана-насмешлівыя, бы ў Станьчыка. Ці так падалося?

— Мне непрыемна гэтае паляпванне і пагладжванне мужчынскімі рукамі.

— Калі пажадана, масаж будзе рабіць паненка. А там загадайце сядлаць коней, яго міласць пан Мікалай Радзівіл будзе шчаслівы суправаджаць вас у пагоні за аленем.

— Заўтра. — Кароль кідае апошні позірк у люстэрка і ўжо загадна глядзіць на дворнага маршалка: — Французскага пасла ў бібліятэку, прыму яго там. — І пасцельнічаму: — Надзень мне фалюндышавыя нагавіцы, тыя, з кутасамі. Дык дзе цырульнік?..

ВЕРШЫ

# ДРЭВА ЖЫЦЦЯ

Мікола КАНДРАТАЎ



***

*Наталлі Кучмель*

*Калі б душа мая магла*
*быць працавітай, як пчала,*
*дарэмна час не марнавала,*
*у пошуку жыла.*

*Нястомна, як палёт стралы,*
*лёс чуйнай доўжыцца пчалы —*
*ёй для зямнога шчыравання,*
*здаецца, свет малы.*

*Хто атрымаў высокі дар*
*збіраць душою слоў нектар —*
*павек у радасці і ў горы*
*сабе не гаспадар.*

*Бо дзень ягоны корміць год.*
*І блаславёны ім народ*
*ад старасці ў жыццёвым моры*
*сабраны лечыць мёд.*

***

*Алесю Квяткоўскаму*

*Пануе золата над светам,*
*сцякае з неба ўніз.*
*Дзесь паміж восенню і летам,*
*здаецца, свет завіс.*

*Лунае залатое рэха,*
*бурліць, бы ў сэрцы кроў —*
*планету, як галіну дрэва,*
*абвіў пчаліны рой.*

*Дзень для вачэй дае прытулак*
*і залацістых кос.*
*І адгукаюцца мінулым*
*пан Лес, пан Лён, пан Лёс…*

*Свет сёння зноўку заначуе*
*у залатым вуллі…*
*І толькі ўважлівы адчуе*
*смак нашае зямлі.*

***

*Памяць жывая*
*толькі адна*
*не астывае*
*ў шэрані дня.*

*Восені ўмовам*
*знае мяжу,*
*ранкам зімовым*
*грэе душу:*

*што парываннем*
*спраўджвала род,*
*што даспявае*
*ў целе, як плод.*

*Памяці поўня*
*воляй нябёс*
*рана ці позна*
*высветліць лёс.*

*Быццам прызнае:*
*«Будзе працяг!..» —*
*памяць зямная —*
*дрэва жыцця.*

## Палац Рэспублікі

*Засціць маленькія вулачкі*
*масай вялізна-пачварнай —*
*вылез Палац Рэспублікі,*
*нібы скула на твары.*

*Збоку Кастрычніцкай плошчы*
*спрытна кляшчом прысмактаўся,*
*пучыць шкляныя вочы,*
*моцна за глебу трымаецца.*

*Быццам зладзеі ў законе,*
*пыхай аброс, нібы мохам,*
*шчэрыць, як зубы, калоны,*
*пэўна, імкнецца спалохаць.*

*Пырскаюць сліны фантанамі,*
*месца яму замала:*
*з марай ніяк не расстанецца —*
*знішчыць старыя кварталы,*

*каб узвышацца над долам,*
*вочы мазолячы Менску…*
*Вось бы з'явіўся зноў Волат —*
*знёс яго ў іншае места.*

***

*За яго спіною чорнай*
*б'юць чырвоныя фантаны —*
*змрочны, быццам прывід чорта,*
*што амаль чацвертаваны*
*рэхам дзён рэпрэсаваных.*

*Ён крычыць, нямы ў граніце,*
*і ўначы яму не спіцца:*
*«Рукі-ногі вам аддам!*
*Галаву хаця б пакіньце*
*на глумленне галубам!..».*

*Бедны Фелікс…*

## Рэверсі

***праўда — тое, чым лупяць па твары,***
***нібыта анучай.***
***праўда — рэкламны тавар,***
***які надакучвае.***
***Віталь Рыжкоў***

*Меч, скіраваны ў сэрца,*
*важна паспець адбіць*
*хоць адзіны раз, ці хаця б*
*памкнуцца гэта зрабіць,*
*але сэрцам шанучы*
*кодэкс гонару, як Статут.*
*А інакш — ну навошта*
*мы сёння знаходзімся тут?*

*Шмат каму падаецца,*
*што праўда й мана — з аднаго сасуда,*
*як Хрыстос і Юда (адсюль*
*і Евангелле тое ад Юды).*
*А лягчэй патлумачыць свой лёс,*
*зазіраючы пад спадніцу,*
*каб не ўпасці ў вачах, як даўнейшы юдэй,*
*калі камень шпурляў у блудніцу.*

*Ну, а што, калі свет геніяльна прасцей,*
*чым галоўцы «прасунутай» можа падацца, —*
*раз мана карыстаецца праўдай, якой*
*немажліва маной скарыстацца?*
*Для нябёсаў у гэтым пытанні*
*непрымальныя іншыя версіі,*
*а інакш пачынаецца тая ж*
*зямная гульня ў рэверсі,*

*якую прыдумалі значна пазней шатранджа,*
*але й не мы.*
*Для гэтага досыць Мані*
*пастараўся ў свой час,*
*бо не быў нямы.*
*Праўда ў твар — не тавар — ратаванне,*
*сатканае з болю і мук.*
*І яе не адмыць ад смуроду лайна,*
*калі выслізне з рук.*

*У зямным марафоне маны і праўды,*
*якія адбіткамі ў кожным,*
*яшчэ не фініш, дасць Бог — пабачым,*
*хто смяецца апошнім…*

***

***мы з табою яшчэ паваюем***
***за кожную вуліцу***
***гаморы й садому***
***Антон Рудак***

*Яны Цябе не пачуюць, бо маюць чым*
*больш прыемным заняць свае вушы,*
*як і да перамогі*
*не выберуць шляху прамога.*
*Іх талент, забыўшы пра страх,*
*пачуваецца смелым і дужым,*
*а сонца на небе для іх*
*перастала быць богам.*

*У іх вершаваннях гукаецца рэха*
*нязводнага маніхейства,*
*дзе брыдкае слова — кінжал*
*для дабівання параненай музы ў даспехах.*
*Яны спадзяюцца (а, можа, і верацъ),*
*што праўда нам толькі здаецца,*
*што свет састарэлы аднойчы сканае*
*ад іх іранічнага смеху.*

*Яны здольныя паспрабаваць*
*нават танец іголкі на вене,*
*імкнуцца адкрыць закон вымярэння болю*
*па метаду Архімеда.*
*Сумленне іх мае пры ўсім*
*сэксуальна-рэвалюцыйнае адценне*
*і не падазрае,*
*што дээарыентацыя полу*
*ёсць крок... у бездань.*

## Геніяльнасць

*Быць геніяльным відавочна*
*і ў вузкім спектры мець праявы.*
*Здаецца, Фішар сумна скончыў,*
*бо быў для іншых нецікавы.*

*Хто мае моц, імкне наперад,*
*але ці пераможа хвалі —*
*кагосьці выкіне на бераг,*
*кагосьці разаб'е аб скалы,*

*бо не прызнаў таго парадку,*
*што не змяняецца з гадамі.*
*І геніяльнасці загадку*
*жыццё ніяк не разгадае.*

*Яна мне бачыцца хімерай,*
*што здольная зрабіцца праўдай —*
*старым мастом на правы бераг*
*над маладой ракой пагарды.*

*Ці мае геніяльнасць вектар?*
*І да чаго ён скіраваны:*
*да промняў неба? змроку нетраў?*
*да варварства ці да нірваны?*

*Сваю выконваючы ролю,*
*калоссю служыць ці калосам?*
*Ці паглыбляе мора болю,*
*ці асушае сонцам слёзы?*

*Заслугай ёсць ці падарункам?*
*Узнагародай? Пакараннем?*
*Ці проста — Боскім пацалункам?..*
*Пытанні. Вечныя пытанні…*

АПАВЯДАННЕ

# ТЫ, ТВАЁ ПІВА І ТВАЯ КРУТАСЦЬ

Пабачыў свет новы — дванаццаты — нумар інтэрнэт-часопіса «ПрайдзіСвет» — «Deutsche Vita». Выданне прысвечана нямецкамоўным аўтарам.

«Мы <…> паспрабавалі паказаць чытачам, што нямецкая мова — гэта не толькі Гаўф, Гайнэ і Рэмарк, што на ёй з не меншым поспехам можна напісаць трансільванскую элегію, расійскую песню ці гераічны эпас, — тлумачыць канцэпцыю нумара рэдакцыя інтэрнэт-выдання. — Мы не прэтэндавалі на ахоп усяго нямецкамоўнага рэгіёна. Больш за тое, на пэўным этапе рэдакцыя прасякнулася нямецкай дакладнасцю і духам мінімалізму <…>. Бо Deutsche Vita салодкая тады, калі ўсё на месцы і нічога лішняга».

З ласкавай згоды рэдакцыі, аўтараў і перакладчыкаў «Літаратурная Беларусь» і надалей будзе знаёміць чытачоў з публікацыямі «ПрайдзіСвета».



**Чарлз БУКОЎСКІ**
**(1920–1994)**

Зайшоўшы, Джэк заўважыў пачак цыгарэт на камінный паліцы. Эн ляжала на канапе і чытала «Касмапаліта́н». Джэк закурыў і сеў на крэсла. Было без дзесяці поўнач.

— Чарлі загадаў табе не курыць, — сказала Эн, адарваўшыся ад часопіса.

— Я гэта заслужыў. Сёння быў цяжкі бой.

— Ты перамог?

— Падзеленым рашэннем, але на маю карысць. Бэнсан — круты мужык з жалезнай воляй. Чарлі кажа, Парвінэлі наступны. Пройдзем Парвінэлі, а тады — бой з чэмпам.

Джэк устаў, пайшоў на кухню, вярнуўся з бутэлькай піва.

— Чарлі загадаў не даваць табе піва, — Эн адклала часопіс.

— «Чарлі загадаў, Чарлі загадаў…» Абрыдла. Я перамог у бai. Я перамог у шаснаццаці баях запар, я заслужыў права на піва і цыгарэту.

— Табе трэба заставацца ў форме.

— Няважна. Я магу любога размазаць.

— Ты такі круты, калі нап'ешся... я толькі і чую, які ты круты. Ужо ванітуе ад гэтага.

— Я круты. Шаснаццаць баёў запар, пятнаццаць накаўтаў. Хто лепшы?

Эн не адказала. Джэк забраў піва і цыгарэты ў прыбіральню.

— Ты нават не пацалаваў мяне, калі прыйшоў. Адразу папёр па сваё піва. Ты такі круты, ага. Круты піўны алкаш.

Джэк не адказаў. Праз пяць хвілін ён стаяў у дзвярах прыбіральні, нагавіцы і майткі спушчаныя да чаравікаў.

— Чорт, Эн, ты што, нават не можаш пакласці тут скрутак туалетнай паперы?

— Прабач.

Яна дастала з шафы скрутак і прынесла яму. Джэк скончыў справу і выйшаў. Потым прыкончыў піва і ўзяў яшчэ бутэльку.

— Вось ты жывеш з найлепшым паўцяжам у свеце, але толькі і робіш, што стогнеш. Колькі дзяўчат марылі б займець мяне, а ты толькі сядзіш і парыш мазгі.

— Я ведаю, што ты добры, Джэк. Мабыць, найлепшы, але ты не ўяўляеш, як мне абрыдла сядзець і слухаць зноў і зноў, які ты круты.

— Ах, абрыдла?

— Так, халера на цябе, — ты, тваё піва і твая крутасць!

— Назаві лепшага паўцяжа. Ты нават не ходзіш на мае баі.

— Ёсць і штосьці акрамя баёў, Джэк.

— Напрыклад? Разваліцца на срацы і чытаць «Касмаполітан»?

— Мне падабаецца развіваць розум.

— Табе не зашкодзіць. Тут ёсць над чым папрацаваць.

— Я ж кажу, ёсць штосьці акрамя баёў.

— Напрыклад? Назаві.

— Ну, мастацтва, музыка, маляванне, усё такое.

— Ты хоць крыху ў іх разбіраешся?

— Не, але яны мне падабаюцца.

— Халера ясная, я лепш буду найлепшым у тым, што раблю сам.

— Добры, лепшы, найлепшы… Божухна, ты што, не можаш цаніць людзей такімі, якімі яны ёсць?

— Такімі, як ёсць? Ды хто такія большасць з іх? Цельпукі, крывапіўцы, франты, стукачы, сутэнёры, падлізы…

— Ты заўжды на ўсіх глядзіш з пагардай. Кожнаму з тваіх сяброў чагосьці бракуе. А ты афігець які круты!

— Менавіта так, дзетка.

Джэк пайшоў на кухню і прынёс чарговую бутэльку.

— Ты і тваё праклятае піва!

— Маё права. Яно прадаецца. Я купляю.

— Чарлі сказаў…

— Ды пайшоў той Чарлі!

— Ты афігець які круты!

— Менавіта так. Прынамсі, Пэці гэта ведала. Яна гэта прызнавала. Яна гэтым ганарылася. Яна ведала, што гэта чагосьці вартае. А ты толькі парыш мне мазгі.

— Тады чаму б табе не вярнуцца да Пэці? Што ты робіш са мной?

— Гэта акурат тое, пра што я думаю.

— Што ж, мы не жанатыя. Я магу сысці ў любы момант.

— Толькі гэта і цешыць. Вось халера, я прыходжу дахаты стомлены ў сраку пасля дзесяці жорсткіх раўндаў, а ты нават не радая маёй перамозе. Толькі і ведаеш, што скардзіцца.

— Паслухай, Джэк, ёсць штосьці апроч баёў. Калі я сустрэла цябе, я захаплялася табой за тое, кім ты быў.

— Я быў байцом. Няма нічога, апроч баёў. Вось хто я — баец. Яны — маё жыццё і добра ў мяне атрымліваюцца. Найлепш. Я заўважыў, ты западаеш на гэтых другарадных… Як Тобі Ёргенсан.

— Тобі дасціпны. У яго ёсць пачуццё гумару, сапраўднае пачуццё гумару. Тобі мне падабаецца.

— Яго рэкорд — дзевяць, пяць і адзін. Я яго вынесу нават у дупель п'яным.

— І Бог сведка, у дупель п'яны ты часцяком. Як, ты думаеш, я сябе адчуваю на вечарынках, калі ты непрытомны валяешся на падлозе альбо кідаешся на кожнага і раве́ш: «Я КРУТЫ, Я КРУТЫ, Я КРУТЫ!» Ты не думаеш, што гэта прымушае мяне адчуваць сябе дурніцай?

— Можа, ты і ёсць дурніца. Калі табе падабаецца Тобі, чаму ты не з ім?

— О, я проста сказала, што ён мне падабаецца, я падумала, ён дасціпны, гэта не значыць, што я хачу з ім спаць.

— Добра, ты спіш са мной і кажаш, што я зануда. Я не ведаю, якога чорта табе трэба.

Эн не адказала. Джэк устаў, падышоў да канапы, прыўзняў галаву Эн і пацалаваў яе, вярнуўся і зноў сеў.

— Слухай, давай я раскажу табе пра гэты бой з Бэнсанам. Нават ты мной ганарылася б. Ён кідае мяне ў першым раўндзе, прыхаваны правай. Я ўстаю і трымаю яго на адлегласці рэшту раўнду. Ён зноў садзіць мяне ў другім. Я ледзьве ўстаю на 8. Зноў трымаю яго на адлегласці. Наступныя некалькі раўндаў праводжу, вяртаючы свае ногі. Я бяру шосты, сёмы, восьмы, кідаю яго аднойчы ў дзявятым і двойчы ў дзясятым. Я гэта не называю падзеленым. Яны гэта назвалі падзеленым. Гэта 45 штук, сячэш, дзетка? 45 штук. Я круты, ты не можаш з гэтым спрачацца. Ну?

Эн не адказала.

— Давай, скажы мне, што я круты.

— Ладна, ты круты.

— Ну вось, іншая справа, — Джэк падышоў і зноў яе пацалаваў. — Мне так добра. Бокс — гэта мастацтва, сапраўднае. Трэба воля, каб быць вялікім мастаком, і трэба воля, каб быць вялікім байцом.

— Добра, Джэк.

— «Добра, Джэк» — гэта ўсё, што ты можаш сказаць? Пэці была шчаслівая, калі я перамагаў. Мы абодва былі шчаслівыя ўсю ноч. Няўжо табе складана падзяліць са мною радасць? Халера, ты закаханая ў мяне ці ў гэтых няўдакаў, шчаўлікаў? Думаю, ты б узрадавалася больш, калі б я вярнуўся няўдакам.

— Я хачу, каб ты перамагаў. Джэк, толькі ты надаеш зашмат значэння таму, чым займаешся.

— Чорт, гэта тое, чым я жыву, гэта маё жыццё. Я ганаруся, што я найлепшы. Гэта як палёт, як узнішца ў неба і размазаць сонца.

— Што ты збіраешся рабіць, калі не зможаш біцца?

— Халера, у нас будзе столькі грошай, што мы зможам рабіць што захочам.

— Магчыма, толькі ці будзем мы ладзіць?

— Ну, можа, я навучуся чытаць «Касмаполітан», развіваць розум.

— Табе не зашкодзіла б.

— Ідзі нахер.

— Што?

— Ідзі нахер.

— Акурат туды я даўно не хадзіла.

— Некаторыя мужыкі любяць трахаць баб, што параць мазгі, а я — не.

— Пэці не парыла?

— Усе жанчыны параць, але ты чэмп.

— Дык чаму б табе не вярнуцца да Пэці?

— Тут цяпер ты. У мяне хапае месца толькі для адной курвы.

— Курвы?

— Курвы.

Эн устала, дастала з шафы валізку і пачала складаць рэчы. Джэк пайшоў на кухню і ўзяў яшчэ бутэльку піва. Эн плакала ад злосці. Джэк сеў з півам і прыкла́ўся як мае быць. Яму патрэбнае было віскі, яму патрэбная была бутэлька віскі. І добрая цыгара.

— Я магу прыйсці забраць астатнія рэчы, калі цябе не будзе.

— Не хвалюйся. Я табе іх адашлю.

Яна спынілася ў дзвярах.

— Ну, мабыць, усё, — сказала яна.

— Мабыць, так, — адказаў Джэк.

Яна зачыніла дзверы і сыйшла. Стандартная працэдура. Джэк дапіў піва і падышоў да тэлефона. Набраў нумар Пэці. Яна адказала.

— Пэці?

— О, Джэк, як маешся?

— Сёння я выйграў вялікі бой. Падзеленым. Усё, што мне застаецца, — прайсці Парвінэлі і чэмпа.

— Ты іх абодвух размажаш, Джэк. Я ведаю, ты зможаш.

— Што ты робіш сёння, Пэці?

— Цяпер гадзіна ночы, Джэк. Ты піў?

— Крыху. Я святкую.

— А Эн?

— Мы разышліся. У мяне можа быць толькі адна жанчына, ты гэта ведаеш, Пэці.

— Джэк…

— Што?

— Я з мужчынам.

— З кім?

— Тобі Ёргенсанам. Ён у спальні…

— Вельмі шкада.

— І мне шкада. Джэк... я кахала цябе… можа, і дагэтуль кахаю.

— Халера, вы, жанчыны, сапраўды раскідваецеся гэтым словам…

— Мне шкада, Джэк.

— Усё нармальна.

Ён паклаў слухаўку. Пасля пайшоў да шафы па паліто. Надзеў, дапіў піва і спусціўся на ліфце да машыны. Паехаў наўпрост па Нармандзі з хуткасцю 65 міляў у гадзіну, спыніўся каля віннай крамы на бульвары Галівуд. Выйшаў з машыны і зайшоў у краму. Узяў пакунак па шэсць бутэлек «Мішалоба» і пачак алказельцара. Пасля, на касе, папрасіў у прадаўца пляшку «Джэка Дэніэлса». Пакуль прадавец усё падлічваў, падышоў нейкі п'янчуга з двума пакункамі па шэсць бутэлек «Корза».

— Гэй, дружа, — сказаў ён Джэку, — ты не Джэк Бакенуэлд, баксёр?

— Ну, я, — адказаў Джэк.

— Мужык, бачыў твой бой сёння. Джэк, ты — сіла. Ты насамрэч круты!

— Дзякуй, мужык, — сказаў ён п'янчугу, узяў пакет з пакупкамі і пайшоў да машыны. Сеў, адкруціў накрыўку з «Дэніэлса» і зрабіў добры глыток. Затым даў назад, паехаў на захад па Галівудзе, павярнуў на Нармандыю і заўважыў фігурыстую дзяўчыну-падлетка, што, хістаючыся, ішла вуліцай. Ён спыніў машыну, padняў бутэльку з пакета і паказаў ёй.

— Хочаш пакатацца?

Джэк здзівіўся, калі яна села ў машыну.

— Я дапамагу вам гэта выпіць, містэр, але больш ніякіх выгодаў.

— Канечне, халера ясная, — сказаў Джэк.

Ён паехаў па Нармандзі з хуткасцю 35 міляў у гадзіну, трэці ў свеце паўцяж і грамадзянін, які сам сябе паважае. На імгненне яму захацелася патлумачыць ёй, з кім яна едзе, але ён перадумаў, выцягнуў руку і сціснуў ёй калена.

— У вас цыгарэткі не будзе, містэр? — спытала яна.

Ён шчаўчком выбіў адну з пачка, уцісну́ў прыпальвальнік. Той выскачыў, і Джэк даў ёй прыкурыць.

**Пераклаў з ангельскай**
**Адам Явар**

АРХІВЫ

# МАКСІМ ТАНК У 1934 ГОДЗЕ

## З КНІГІ «У ВІЛЬНІ І БОЛЬШ НІДЗЕ»

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

**15 верасня 1934 года віцэ-пракурор Д. Пятроўскі далучыў да справы №XIII.DS.279/34 (справа Максіма Танка, а дакладней — Яўгена Скурко) грыпсы «Мы пажару сусветнага полымя…», «Слязамі заліты свет бязмежны…», «Як бог гуляў на вечарыне», «З газеты. Дварчанін…», спіс турэмнай ежы.**



Максім Танк. 1932 г. Вільня

Тады ж, 15 верасня, Д. Пятроўскі пастанавіў далучыць да гэтай справы і тэкст «Дзень 1-га мая», бо ён, на думку абвінаваўцы, меў доказнае значэнне.

І зноў жа 15 верасня Д. Пятроўскі загадаў спыніць следства ў адносінах Браніслава Лагуна, Яна Гарэлічонка, Іцка Фейгельмана і Давыда Фейгенберга з прычыны адсутнасці іхняй віны (доказана ж — улёткі пісалі не яны); вінoўнік жа (аўтар грыпсаў!) быў выяўлены — Яўген Скурко…

15 верасня (які ўсё ж такі багаты дзень!) нястомны пракурор працаваў і над іншымі дакументамі, пра якія абавязкова яшчэ згадаю…

Аднак жа і нястомным трэба адпачываць, таму (відаць, на месяц) Д. Пятроўскага падмянілі, на сцэну выйшаў эпізадычны персанаж — падпракурор А. Рашкоўскі.

27 ліпеня 1934 года А. Рашкоўскі даручыў кіраўніку Віленскага следчага аддзела ў залежнасці ад вынікаў вобыску даставіць Яўгена Скурко як падазраванага ў бліжэйшы суд, дапытаць і ўжыць меру стрымання — ці часовы арышт, ці нагляд паліцыі.

У гэты ж дзень А. Рашкоўскі накіраваў паперу і ў III-ці крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда — прасіў даслаць яму копію выраку ў справе паэта ад 6–7 лістапада 1933 года, а таксама ж копію выраку па той жа справе апеляцыйнага суда.

І вось 31 ліпеня на свой надрукаваны на машынцы зварот А. Рашкоўскі атрымаў рукапісны адказ: копію выраку акруговага суда даслаць немагчыма, бо акты той справы з прычыны апеляцыі засуджаных накіраваны былі 12 снежня 1933 года ў Віленскі апеляцыйны суд і да гэтага часу не вернуты (пра копію ж выраку апеляцыйнага суда ў рукапісным адказе нічога не сказана).

Ніякіх іншых дакументаў за подпісам А. Рашкоўскага ў мяне няма, але логіка падказвае: пасля гэтага ён павінен быў звярнуцца ў апеляцыйны суд.

А можа і не звяртаўся, бо да сваіх абавязкаў зноў прыступіў Д. Пятроўскі; ва ўсякім разе 18 верасня 1934 года неабходныя дакументы леглі на яго стол з прыпіскай: «У адказ на Ваша пісьмо ад 15 (!). 09. 1934 г. №XIII.DS.279/34…»

Бачыце, яшчэ адзін прыклад актыўнай дзейнасці Д. Пятроўскага менавіта ў гэты, назаву яго, звышэпісталярны дзень!

Пісьма Д. Пятроўскага, якое тут згадалася, я не знайшоў, але ж менавіта яно прымусіла віцэ-старшыню Віленскага акруговага суда ў сваёй прыпісцы засведчыць, што ён «… дасылае ў дадатку копію выраку акруговага суда і копію выраку апеляцыйнага суда ў справе Яўгена Скурко, засуджанага паводле артыкула 97, параграф 1 крымінальнага кодэкса…».

Аднак з верасня вярнуся ў жнівень.

8 жніўня 1934 года кіраўнік Віленскага следчага аддзела падкамісар Пухальскі, выконваючы даручэнне А. Рашкоўскага ад 27 ліпеня, аддаў загад у павятовы камісарыят дзяржаўнай паліцыі ў Паставах — зрабіць вобыск і ўзяць пад варту Яўгена Скурко.

Заўважу: у даручэнні А. Рашкоўскага гаварылася не толькі пра арышт, але і пра больш мяккую меру — нагляд паліцыі, бо форма пакарання залежала, падкрэсліваў падпракурор, ад вынікаў вобыску.

**Падазраванага Яўгена Скурко затрымаць, даставіць у Паставы да акругавага судовага следчага, а пасля допыту замкнуць у арыштанцкай…**

Аднак за гэты час, як бачна, з'явілася больш акрэсленае, мусіць, вуснае распараджэнне (ці не самога Д. Пятроўскага?!) — арыштаваць!

І вось яно за подпісам Пухальскага і прыйшло ў Паставы 9 жніўня.

Праўда, павятовы камендант паліцыі падкамісар Манькевіч адразу не кінуўся выконваць яго; пэўна ж, чакаў яшчэ нейкага адмысловага загаду.

Ён дачакаўся таго, што 13 жніўня ў Паставы, а тады ўжо і ў Мядзел прыбыў сам Д. Пятроўскі і — што цікава — на адваротным баку распараджэння, якое падпісаў Пухальскі, алоўкам накрэсліў дзевяць хуткіх радкоў, сэнс якіх наступны: падазраванага Яўгена Скурко затрымаць, даставіць у Паставы да акругавага судовага следчага, а пасля допыту замкнуць у арыштанцкай…



Telefonogram N S 3 b/433
Komendant Policji Panstwowej w Postawach
Posterunek P.P.w Swatkach
19.VIII.34 roku 9.10.35.

Na podstawie polecenia Pana Prokuratora XIII r. S.O.w Wilnie z dnia 27 lipca 34 roku N XIII.DS 279/34 -polecam niezwłocznie dokonać rewizji domowej i osobistej u mieszkanca wsi Pilkowszczyzna,gm.Miadziolskiej SKURKO Eugenjusza syna Jana i Dominiki,ur.1912 roku,podejrzanego z art.97 KK.
Niezależnie do wyników rewizji wymienionego należy zatrzymać

Komendant Powiatowy P. P.
Mańkiewicz — podkomisarz

Магчыма, тады, 13 жніўня, Манькевіч і падрыхтаваў машынапісную тэлефанаграму № S 3 b/433, каб спусціць яе ўніз, але не спусціў.

Мінуў яшчэ тыдзень, пакуль рэпрэсіўнае кола закруцілася як след.

У ваяводстве (а значыць і ў павеце) відавочна не спяшаліся — пэўна ж, да апошняга сачылі за хатай Скуркоў у Пількаўшчыне, спадзяваліся на большую здабычу: «А раптам да паэта з'явіцца які-небудзь падазроны фацэт? Пажадана з БССР! А то і не адзін! Тады і плён будзе большы!»

Ды ніхто, дзякаваць Богу, не з'явіўся, і толькі 19 жніўня Манькевіч даў у Сваткі, у тутэйшы пастарунак, вышэйзгаданую тэлефанаграму:

«На падставе даручэння Пана Пракурора XIII раёна Віленскага акруговага суда ад 27 ліпеня 1934 года (даручэнне А. Рашкоўскага. — Л. Д.-М.) №XIII.DS.279/34 — загадваю неадкладна зрабіць хатні і асабісты вобыск у жыхара вёскі Пількаўшчына, Мядзельскай гміны Яўгена Скурко, сына Яна і Дамінікі, народжанага ў 1912 годзе, падазраванага па артыкул 97 крымінальнага кодэкса. Незалежна ад вынікаў рэвізіі названага неабходна затрымаць…»

У Сваткі тэлефанаграму прыняў пастарункоўы Ян Жалезны — той самы, пра якога ў «Лістках календара» (запіс 3 верасня 1939 года) сказана: «…Сваткаўскі паліцыянт Жалезны двойчы нечага праязджаў на веласіпедзе міма нас. Нешта вынюхвае…»

Ранейшая дата на бланку (13 жніўня, ці 14-га — ужо немагчыма расчытаць!) атрамантам ад рукі густа выпраўлена на «19», побач зноў жа ад рукі крапліста накрэслены лічбы «10. 35» (час перадачы паведамлення ў Сваткі), а пасля апошняга слова «затрымаць» разгоніста дапісана:

«… і даставіць яго (Яўгена Скурко. — Л. Д.-М.) пад канвоем у камісарыят…»

Нярвовасць почырку навідавоку, і яна сведчыць, што пастаўскаму падкамісару Манькевічу, які атрымаў нарэшце канчатковы загад, не было часу афармляць яго машынапісна.

Аднак жа сваткаўскія паліцыянты ўзяліся за сваю работу не 19, а 20 жніўня; акрамя тэлефоннага наказу Манькевіча, яны мелі яшчэ і пастанову акруговага судовага следчага Сэвінскага, сядзіба якога знаходзілася ў Глыбокім.

Цікава: Сэвінскі ў сваёй пастанове ўдакладняў — так, Яўген Скурко падлягае і хатняму, і асабістаму вобыску, а вось яго бацька Ян і дзед Хведар (гаспадары сядзібы ў Пількаўшчыне) асабістаму вобыску не падлягаюць, а толькі хатняму!

Якая-ніякая, але праява павагі: польскія службоўцы незаўсёды былі салдафонамі, незаўсёды бралі горлам, валодалі й чалавечай мовай.

Згадаю два выпадкі…

У лютым 1927 года грамадоўцаў чыгункай везлі ў турму «Ўронкі», і начальнік канвоя раптам убачыў, што адзін з арыштантаў (святар Аляксандр Коўш) апрануты ў расу, паверх якой надзеты крыж!

Паліцыянты ж у форме не мелі права пільнаваць духоўных асоб!

Хоць начальнік і не ведаў пра сан арыштаванага, аднак жа папрасіў прабачэння і нават паўшчуваў святара: чаму бацюшка не патрабаваў, каб яго эскартавалі паліцыянты, пераапранутыя ў цывільнае?

Каб за гэты промах на афіцэра не налажылі спагнанне, святар А. Коўш паабяцаў не скардзіцца…

Мінуў год, і пачаўся працэс над «Грамадой».

Падсудных пад аховай пешай і коннай паліцыі перавозілі (па 16 душ у кожнай турэмнай карэце!) з Лукішак у Віленскі акруговы суд.

І тут ужо святар А. Коўш выказаў пратэст:

— Я — духоўная асоба! Я не магу ехаць пад канвоем людзей у мундзірах!

Камандаваў эскортам аспірант М. Антановіч; ён не накінуўся на падсуднага з крыкам, а проста пачаў угаворваць (!) яго не пратэставаць.

Словам, польская паліцыя ўмела быць і шляхетнай…

На чале са старшым пастарунковым Хенрыкам Малюсам сваткаўскія паліцыянты больш за тры гадзіны (з 6 раніцы і да 09 г. 10 хв.) шукалі па ўсёй сядзібе Скуркоў забароненую літаратуру.

Яны ведалі моц слова; зналі, як яно ўплывае на людзей, — пэўна ж, такі вопыт здабылі, развозячы па вёсках успаміны Францішка Аляхновіча пра Салаўкі.

Дык ці выпаралі што?

Здабыча была — напрыклад, узялі сшыткі з нататкамі, змест якіх тут жа вызначылі як выўратовы (падрыўны, шкодніцкі!).

Надзіва хутка вызначылі!

Ці дасканала ведалі беларускую мову?

Ці проста ўсё напісанае па-беларуску лічылі шкодніцкім?

Пытанні, які не патрабуюць адказу…

Я. Жалезны склаў пратакол:

«… У пакоі Яўгена Скурко сярод кніжак знойдзена 8 (восем) сшыткаў з рознымі нататкамі, змест якіх выўратовы, а таксама ж выяўлены адзін кішэнны блакнот зноў жа з рознымі запісамі. Падазроныя сшыткі ў прысутнасці ўладальніка апячатаны сургучнай пячаткай з літарамі Н. М. (Пэўна, ініцыялы старшага пастарунковага Хенрыка Малюса? — Л. Д.-М.)…»

Дакумент завершаны высновай: «… гаспадары сядзібы ніякіх прэтэнзій у пратакол не ўнеслі…» і пяццю подпісамі — Х. Малюса, Я. Жалезнага, Яўгена Скурко і двойчы Яна Скурко (Ян падпісаўся і за свайго непісьменнага бацьку Хведара).

Дарэчы, і Яўген, і Ян свае подпісы паставілі па-польску…

Аднак жа не ўсе крамольныя паперы назваў Я. Жалезны; іх пашыранае апісанне ёсць у пратаколе агляду ад 15 верасня 1934 года, які склала ў Вільні супрацоўніца пракуратуры пратакалістка-машыністка Тэкля Янкоўская.

Д. Пятроўскі даследаваў пералічаныя дакументы, далучыў іх да справы ў якасці рэчавых доказаў, а таксама ў якасці дапаможных матэрыялаў для графолагаў, і тады ж, 15 верасня (памятаем: гэта яго самы творчы дзень!) падпісаў згаданы пратакол (восем пунктаў на двух поўных старонках):

«1. Сшытак, абгорнуты ў газету «Вядомосьці», з надпісам ад рукі «жнівень 1934 г., Яўген Скурко. Апавяданні і вершы». На адной са старонак гэтага сшытка знаходзіцца надпіс: «Максім Танк». На наступных лістах змешчана апавяданне на беларускай мове, змест якога для справы не мае значэння.

2. Дваццаць дзевяць старонак паперы з рознымі нататкамі, змест якіх для справы не мае значэння.

3. Пяць чарнавікоў (агульных сшыткаў?), а таксама адзін блак-

нот з усялякімі рукапіснымі творамі на беларускай мове.

4. Адзін чарнавы сшытак, на першай старонцы якога намаляваны два кавалі, што працуюць ля кавадла, і накрэслены верш з надпісам (прысвячэннем): «Вільня, 13. 12. 1931 г., Я. Гарох». А яшчэ ў сшытку змешчаны разнастайныя запісы, сярод іншых ёсць і такі: «21. 1 (студзеня. — *Л. Д.-М.*). Бацька Лавора даслаў ліст, а я яго аддаў Серафіму. Напісаў «трактар» (назва з маленькай літары. — *Л. Д.-М.*), не ведаю, ці несці яго ў рэдакцыю» і г.д. На наступных старонках занатаваны вершы.

5. Пяць газетных выразак, адна з якіх пад загалоўкам «Арыгінальны ліст з Саветаў…», а другая — «Баронячы карову, трыста сялян напалі на секвестратара».

6. Сшытак у чырвонай вокладцы з рознымі нататкамі.

7. Канверт ад пісьма, дасланага поштай СССР.

8. Паштоўка з Лукішак, дасланая Яўгену Скурко на адрас: Вільня, вуліца Букавая, 14, кв. 1; напісаў паштоўку 1 красавіка 1934 года вязень Серафім Лавор…»



Фота Белсат

Восьмы пункт цікавы ў тым сэнсе, што 1 красавіка 1934 года Яўген Скурко павінен быў знаходзіцца таксама на Лукішках!

Няўжо Серафім Лавор не ведаў пра гэта?

Дзіўна!

Не ведаць жа не мог — турэмная «сувязь» працавала выдатна!

А можа якраз і ведаў, што сябар на волі, таму і адрасаваў сваю паштоўку на вядомую вуліцу.

Ды ўсё ж такі, дзе ў той час знаходзіўся паэт?

Пра адну «невялікую недакладнасць» у жыццяпісе аўтара «Нарачы» гаворыць Мікола Арочка ў кнізе «Максім Танк. Жыццё ў паэзіі»:

«… В. Таўлая і Я. Міско затрымала маладзечанская паліцыя падчас іх спробы перайсці мяжу. У пачатку (!) 1934 г. іх, скатаваных, прывезлі на Лукішкі. Але ні Таўлай, ні Міско нідзе не пішуць, што ў той жа час тут, за кратамі, знаходзіўся і Максім Танк, а, паводле яго ж біяграфіі, ён сядзеў на Лукішках ад мая 1933 г. па май 1934 г. …»

Паэт, вядома ж, чытаў кнігу М. Арочкі, але, здаецца, на гэту «невялікую недакладнасць» у сваёй біяграфіі ўвагі не звярнуў.

А можа, і звярнуў і ў прыватнай гутарцы з аўтарам кнігі абгаварыў нейкім чынам прыкрую «недакладнасць»?

Ці вядома каму пра гэта?

Але цытую М. Арочку далей:

«У дакументальный аповесці («Было яно калісьці…» — *Л. Д.-М.*) Я. Міско піша, што на Лукішкі яго прывезлі ў сярэдзіне лютага (1934 г. — *Л. Д.-М.*), а Таўлая трохі раней. Таўлай адразу ж з другога паверха, дзе сядзеў, пераслаў сябру, земляку-сланімчаніну, «грыпс з кучай навін»: «…нядаўна толькі выпусцілі Максіма Танка. Ці надоўга?..»

М. Арочка робіць выснову:

«…Слова «нядаўна», сказанае ў дачыненні да выхаду Танка з Лукішак, хоць і няпэўнае па часе, але сведчыць яно, што яго ўжо не было за кратамі…»

Аднак жа начальнік Лукішак Ян Чакала сцвярджае: быў; 25 верасня 1934 года ён пісаў: «…Яўген Скурко знаходзіўся ў даверанай мне турме з траўня 1933 г. і да траўня 1934 г. …»

Гучыць як сапраўднае пацвярджэнне таго, што паэт у пачатку 1934 года ўсё ж такі сядзеў!

Праўда, ёсць больш пэўныя архіўныя сведчанні, і яны ўмацоўваюць далікатную здагадку М. Арочкі.

27 студзеня 1934 года на Яўгена Скурко быў разасланы гончы ліст (цыркуляр пра пошук злачынца).

10 лістапада 1934 года акруговы судовы следчы II-й Віленскай акругі пастанавіў: з улікам таго, што 20 жніўня 1934 года Яўген Скурко арыштаваны і пасаджаны ў Лукішкі, гончы ліст на яго ад 27 студзеня 1934 года — скасаваць!

Дык вось, раз 27 студзеня 1934 года на Яўгена Скурко выпісалі гончы ліст (то-бок, паэта пачалі шукаць!) — значыць, у студзені згаданага года, прынамсі, пасля 27-га дня, яго ўжо за кратамі не было.

Выходзіць, да разгляду справы ў апеляцыйным судзе 1 траўня 1934 года паэта адпусцілі, а пасля спахапіліся.

Праўда, ніякіх дакументаў адносна звальнення з турмы ў вышэйадзначаны час я не знайшоў; ёсць толькі адваротнае сведчанне Яна Чакалы.

Але няўжо пан Чакала, рашучы санацыйны служка (як згадвае Я. Міско), меў такую ж дрэнную памяць, як і дазорац Трухан?!

Ды якой бы ні была памяць начальніка Лукішак, Серафім Лавор не ў пустату пасылаў паштоўку, змест якой, на жаль, у пратаколе не раскрыты...

У блакнотных нататках Браніслава Тарашкевіча (старонка 7, пункт 18) сказана: «Лавор Серафім, былы вучань Віленскай гімназіі, ходзіць на матуральныя курсы, адзін раз ездзіў у Стаўпецкі павет, працуе ў левай фракцыі польскай сацыялістычнай партыі…»

Як бачна, быў таксама кур’ерам!

А на 14-й старонцы нататак Б. Тарашкевіча ёсць і такі недвухсэнсоўны сказ: «…Лавор (пераправіць за мяжу)…»

Пэўна, пераправіць не паспелі, і юнак (аднагодак Максіма Танка) апынуўся на Лукішках…

Аднак вярнуся да сваткаўскіх паліцыянтаў: а 10-й гадзіне 20 жніўня 1934 года яны затрымалі Яўгена Скурко.

У кнізе Уладзіміра Калесніка «Зорны спеў» чытаю:



Акт па карнай справе

«…Яфрэйтар Малюс арыштаваў маладога паэта, закаваў у кайданы і пагнаў у Паставы. Там 21 жніўня арыштаванага дапытаў следчы суддзя пан Салавей…»

Згаданы «суддзя» — кіраўнік следчага аддзела пшадоўнік Сяргей Салавей.

Па выніках допыту ён склаў дзве запіскі.

Адрасат першай не пазначаны, але трэба думаць — дакумент складзены для Сэвінскага; С. Салавей адзначаў: паэт не ведае, у які дзень нарадзіўся, ведае толькі месяц і год (верасень 1912 г.); далей пшадоўнік паведамляў: паэт заявіў, што не пісаў грыпс «Дзень 1-га Мая».

У другой запісцы, накіраванай непасрэдна Сэвінскаму, сказана: паэт перадаецца ў яго, Сэвінскага, распараджэнне, як актыўны дзеяч КПЗБ і заўзяты стваральнік грыпсаў; яго нельга пакідаць на волі, бо ўнікне правасуддзя і, магчыма, уцячэ ў СССР.

У апошнім радку С. Салавей прасіў зацвердзіць пратакол вобыску.

У той жа дзень, 21 жніўня, Сэвінскі зацвердзіў згаданы пратакол, дапытаў паэта і склаў пратакол допыту, а таксама ж падпісаў пастанову аб часовым (на два месяцы — да 20 кастрычніка) арышце.

У. Калеснік аднак пісаў: «… арыштаванага выпусцілі. Але ненадоўга. 19 верасня ў Паставы выехаў віленскі следчы, дапытаў паўторна і распарадзіўся арыштаваць паэта і пераслаць па этапу ў Вільню…»

Максім Танк у лісце (студзень 1978 года) аспрэчвае У. Калесніка: «Паўторнага арышту ў верасні 1934 года не магло быць, бо я ўжо са жніўня месяца сядзеў на Лукішках…»

Не, паэта не выпусцілі і ўжо 22 жніўня даставілі ў вязніцу.

У пастанове аб часовым арышце Сэвінскі натаваў: сёлета паэт ужо быў караны паводле артыкула 97, параграф 1, і ў сувязі з сабранымі супраць яго новымі доказамі ёсць небяспека, што ён можа схавацца…

Сэвінскі нагадваў: паэт пакараны апеляцыйным судом на два гады турмы з адтэрміноўкай выканання выраку на пяць гадоў!

На адвароце пастановы следчы зафіксаваў: паводле слоў Яўгена Скурко, ён з 30 красавіка і па 20 жніўня 1934 года ў Вільні і ў Паставах не браў удзел у змове пад назвай «Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі» і не ведае, што ў гэту партыю ўваходзяць людзі, мэта якіх пазбавіць польскую дзяржаву незалежнасці і адарваць частку яе тэрыторыі; паказаны ж яму грыпс («Дзень 1-га Мая». — *Л. Д.-М.*) не пісаў, зместу яго не ведае; да кампартыі не належаў і не належыць, як і да іншых арганізацый, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Мядзельскай гміны; асуджаны ж толькі за змест артыкулаў і рэпартажаў…

Дзмітры Бугаёў у кнізе «Паэзія Максіма Танка» адзначаў: згаданыя артыкулы і рэпартажы малады пясняр друкаваў у легальным камуністычным друку — напрыклад, у «Часопісе для ўсіх».

Вядома ж, камуністы не абвяшчалі, што яны стаяць за тым ці іншым выданнем. А што да заявы: «…не належаў і не належу да кампартыі…» — то Анатоль Сідарэвіч даў такую ацэнку:

— У міжваеннай Польшчы прыналежнасць да камуністычнай партыі лічылася злачынствам!

Словам, на допыце юнак паводзіў сябе разумна…

З пастаўскага пратакола допыту можна даведацца: маці паэта Дамініка паходзіць з дому Хвалькоў; паэт мае польскае грамадзянства, па нацыянальнасці — беларус, а па сямейным стане — кавалер.

У графе «Вайсковая служба» Сэвінскі накрэсліў — прызыўнік катэгорыі «А» (Алена Глагоўская паясніла: гэта вышэйшая ступень здатнасці да армейскай службы!).

Цікавая й такая драбніца — у адпаведнай графе Сэвінскі прочыркам паказаў: мянушкі ў Яўгена Скурко няма!

Калі казаць пра адукацыю — адзначана сем класаў гімназіі; адносна ж прафесіі сказана — рабочы (у іншых пратаколах напісана — вучань), а вера вызначана як праваслаўная.

На судзе ж, які адбыўся ў канцы года 5 снежня, паэт заявіў, што ён — «бэзвызнанёвец» (ніякай веры не належу)!

На схіле жыцця ў 1990 годзе зноў жа вяртаўся да гэтай тэмы:

*Калі, праклінаючы лёс*
*Недарэмна,*
*Яго мы стараліся*
*Пераадолець,*
*Я, згодна рашэнню*
*Камуны турэмнай,*
*Суду заяўляў цвёрда:*
*Бэзвызнанёвец…*

**Цалкам кнігу можна будзе прачытаць у часопісе «Дзеяслоў».**


Фота «Б»
Хата, у якой нарадзіўся і ў якой быў арыштаваны Максім Танк

▸ АСОБА

# РАНДЭВУ З ГІСТОРЫЯЙ І СУЧАСНАСЦЮ

## УЛАДЗІМІРУ АРЛОВУ — 60

Ала СЯМЁНАВА

**...Стос кніг Уладзіміра Арлова. Проза сучасная, проза гістарычная, вершы ў прозе, вершы, эсэ, гістарыяграфічныя і гістарычныя нарысы, сцэнарыі, артыкулы...**




За гады творчай працы У. Арлоў зазнаў і водар рамантыкі, і выпрабаванне эзатэрычнымі варыяцыямі на розныя тэмы, і кшталт «празаізаванай рэальнасці», і прастору гістарычнага часу. Зазнаў і аўру містычных уплываў, і смак змены шырот і мерыдыянаў, і асаблівы настрой вяртання да звычнага і знаёмага — пасля прыгодаў на Пятай авеню ці ў берберскай вёсцы…

Празаік гістарычнай сучаснай тэматыкі, творца, што працягвае, не эпігонствуючы, працярэбліваючы свой шлях, традыцыі Уладзіміра Караткевіча і Міхася Стральцова. Ад яго ўжо чакалі... новых твораў. Працягу? Нечаканых паваротаў? Вось гэта і было пытаннем для самога пісьменніка. На тую пару — аўтара гістарычных апавяданняў «Пяць мужчын у леснічоўцы», «Пакуль не згасла свечка», «Міласць князя Гераніма», «Каля дзікага поля», «Рандэву на манёўрах» і г.д. Аўтара гістарычных аповесцяў «Сны імператара», «Дзень, калі ўпала страла», «Час чумы»... Аўтара эсэ, шматлікіх апавяданняў на сучасную тэматыку...

Ужо вызначыліся асноўныя дамінанты творчасці У. Арлова: нацыянальная ідэя, Беларусь у самавызначанасці сваёй і ў сувязі з іншымі народамі, гістарычныя шляхі нашай Айчыны і суайчыннікаў, гістарычныя моманты вызначальнага, гераічнага кшталту, нацыянальная свядомасць і самасвядомасць.

Ужо чытачы цвёрда ведалі, што калі піша У. Арлоў, дык ён не толькі цвёрда і ўпэўнена ведае гістарычныя факты, рэаліі рэчаіснасці і побыту, але яшчэ і мае той мастацкі зрок, што дазваляе яму вызначыць духоўныя каштоўнасці, унутраны, псіхалагічны грунт быцця ў гістарычнай прасторы, неадменную маральную тэму, дзе праглядваецца і яшчэ гэты пункт адліку — «вечны сэнс».

У Арлова — трывалы фактаграфічны грунт, выдатнае веданне гістарычных рэалій. Пісьменнік адчувае і стыль, стылістыку эпохі, яе мову, лад, спосаб мыслення.

Ужо сталі ледзь не хрэстаматыйныя вядомыя героі твораў У. Арлова. Вольналюбівы пісьменнік Незабытоўскі, той самы, што паведамляе свайму пляменніку: «Адзін разумны чалавек сказаў, што ёсць у Расіі два праваднікі: язык — да Кіева, а пяро — да Шлісельбурга»: «...Не кожны сачыніцель атрымлівае ў якасці ганарару дваццаць гадоў катаргі». Нарадаволец Ігнат Грынявіцкі, што ахвяруе ўласным жыццём, каб, як яму здаецца, пазначыць шляхі да светлай будучыні іншым. Асветнік і паэт Мікола Гусоўскі, што ў далёкім Рыме адстойвае годнасць чалавека з зямлі пушчаў і зуброў, выяўляе высакародства і шляхетнасць, якія зрабілі б гонар любому з самай вядомай і рыцарскай на той пару краіны Еўропы. Уладзімір, князь зямлі Полацкай, мудры і смелы... і г.д.

Аўтар зазвычай — стрыманы, спакойны, іранічны, часта — саркастычны, сардонічны нават, калюча-ўшчыплівы. Ён уважліва сочыць за кампазіцыяй, архітэктонікай твора, дапасоўвае словы — што кладку цагляную кладзе. Свае перавагі. І свае страты. А інакш не бывае.

Нагадаю — напачатку, у сярэдзіне 1990-х, гэта было ўжо творчым набыткам. І пачалі з'яўляцца гістарычныя постаці не рамантычнага плана (Напалеон Банапарт, Кацярына II), а героі — носьбіты нацыянальнай ідэі: мы ўспрымаем іх праз успрыманне галоўных персанажаў. Да таго ж — гэта людзі пэўнай ідэі, настраёвасці, аднак не гераізаванага кшталту…

Новыя творы У. Арлова ўводзяць нашыя нацыянальныя турботы ў больш шырокі — еўрапейскі, і не толькі, кантэкст. Напалеон, Кацярына II. Лёсавызначальныя і, здавалася б, прыватныя моманты, што, аднак, даюць магчымасць зірнуць на гісторыю больш шырокага арэала — геаграфічнага і светапогляднага — праз светлафільтры нашага нацыянальнага ўспрымання і ўводзяць разуменне абавязку і наканаванасці, асабістай свабоды і гістарычнай прадвызначанасці, драмы бескампраміснасці і кампрамісу.

У. Арлоў па-ранейшаму аддае перавагу маналогу, унутранаму маналогу, монадзеннаму дыялогу. Ён імкнецца запаўняць пэўныя ўчасткі «контурнай мапы» гістарычнай памяці, не толькі спасцігаючы гістарычную рэальнасць, але і ствараючы свой мастацкі свет, дзе ёсць унутраная, сталая тэма, якая дэтэрмінуе, вызначае сюжэт, падпарадкоўвае сабе фактары знешнія, падзейныя.

А тым часам — ужо Беларусь становіцца асобнай дзяржавай, тут, як і на ўсёй постсавецкай прасторы, адменена цэнзура, з'явіліся прыватныя выданні і выдавецтвы, з'яўляецца такая пастаць, як спонсар, мецэнат... Адным словам, нечуваныя і не бачаныя раней магчымасці. Пакаленне У. Арлова — у найвыйгрышнай сітуацыі: атрымала адукацыю, хай сабе і з усімі хібамі савецкага часу, але бясплатная, набытыя веды — у бясплатных бібліятэках, набытыя кнігі — у параўнанні з коштам у іншых краінах свету, дармавыя, прачытваецца перыёдыка, надзвычай насычаная зместам у гады перабудовы, ды і з цікавымі прарывамі — да таго. Пакаленне У. Арлова досыць сур'ёзна і адважна абвясціла пра сябе і многае паспела ўжо спраўдзіць.

Час адкрывае неверагодныя магчымасці. Нечаканыя свабоды. Неймаверныя спакусы. Магчымасць не толькі ісці за сітуацыяй, але і фарміраваць яе. Можна выявіць сваё «Я» ў якіх сабе хочаш іпастасях. Якія заўгодна ролі і антыролі, якія заўгодна вандроўкі — у знешнім свеце і ў глыбінях самасвядомасці. Ідэя маналітнага субстанцыяльнага «Я», дэперсаналізаванага «Я» і канкрэтнага, у гістарычным часе і пэўнай рэчаіснасці — гэтага самага «Я».

Шматлікія карціны і вобразы персаналізаванага «Мы». Шматлікія вобразы і карціны «Я». З'яўляюцца «Там, за дзвярыма» і «Фаўна сноў». Выходзяць у свет кніга «Рэквіем для бензапілы», дзе, дарэчы, ёсць і аднайменнае апавяданне, і «Сібірская аповесць», і «Краявід з ментолавым пахам». Друкуюцца шматлікія эсэ паводле вандровак: Англія, Нямеччына, ЗША, Беларусь...

Не атаясамліваю герояў і аўтара, аднак, якая б ні была дыстанцыя, ёсць пазіцыя, ракурс бачання. І ў гэтым ракурсе — герой. На фоне, у экстэр'ерах і інтэр'ерах, у часе і прасторы. З тым гранічным адкідваннем усіх недамоўленасцей, вуаляў, эўфемізмаў, з нечаканай грубаватасцю і зрываннем усіх заслон.

Гэта агульны павеў. Калі не забаронена, значыць, дазволена. І чаму б не пагарэзаваць? Памятаю, у «Крыніцы» практыкавалі вёрстку допісаў пра чарговую гераіню альбо героя — падвёрсткай, падвальчыкам. І якія толькі тэксты ні даводзілася сустракаць пад сваімі радкамі! Шчыра радавалася новай вёрстцы, хаця ў ёй ёсць свае выдаткі, — але ж затое дыстанцыяванасць тых, хто піша пра пэўную асобу, і напісанага гэтай асобай. Няма «падвярстанага крытыка» — і гэта справядліва, бо чалавек часам піша не толькі пра аўтара, а і пра час, свядомасныя арыенціры, вызначальныя сутнасці... І ўвогуле — дыстанцыя абумоўлівае многае...

...Нейкія плыні свядомасці і падсвядомасці У. Арлова гэтыя рэчы пазначаюць... Што яны дадаюць у агульна-культурным еўрапейскім кантэксце? Цяжка вызначыць. Гісторыя дахрысціянскага і хрысціянскага свету бачыла ўжо ўсё: і суцэльную дазволенасць ва ўсім, і суцэльныя забароны... І тое, і другое мела зусім не радасную афарбоўку... Асабіста ж я, хутчэй за ўсё, проста апусціла б у гаворцы гэтыя творы, калі б не адзін выпадак.

У аўтобусе, што доўга ехаў па еўрапейскіх магістралях, на мяжы тысячагоддзя ішлі размовы пра рознае, у тым ліку беларускую літаратуру. Я згадала — з павагай і радасным імпэтам — прозвішча сённяшняга юбіляра. Адзін з суразмоўцаў — малады чалавек з фундаментальнай еўрапейскаю адукацыяй (толькі што скончыў курс навук у адной з самых паважаных навучальных установ Еўропы), з тых, што нарадзіліся, як пісаў некалі нам у рэдакцыю «Нёмана» адзін карэспандэнт, «у далёкім 1975 годзе», нешта прамармытаў. «Рэквіем для бензапілы»? Не ведаю, ці ён выпадкова пачаў знаёмства з пісьменнікам з гэтай кнігі, ці нехта вырашыў так прадставіць яму У. Арлова, аднак... Я з місіянерскім (усё ж!) хваляваннем даводзіла, прыводзіла, цытавала... Хачу спадзявацца, што не дарэмна... Тым больш што ў аўтобусе ехаў чалавек, які меў вялікі ўплыў на гэтага ў пэўным сэнсе неафіта, творы Уладзіміра Арлова ведаў не з чужых слоў...

А я задумалася...

...Нейкія павароты ў творчасці час ад часу непазбежныя. Інакш не бывае. Асабіста я не здзівілася б гісторыка-філасофскаму, накшталт пісьма Томаса Мана, раману У. Арлова. Але займеўшы вядомасць і, мабыць, адчуваючы асабістую адказнасць за нашыя мінулае і будучыню, пісьменнік стварыў шэраг гістарычных эсэ — «Таямніцы Полацкай гісторыі», шмат у чым выкарыстоўваючы знойдзеныя для гэтай кнігі матэрыялы, стварыў кнігу гістарычных апавяданняў «Адкуль наш род?» і — сумесна з навукоўцам Генадзем Сагановічам — кнігу «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі».

Тут быў і культурны, высокі прыцэл. Асветніцтва — яно ў нас патрэбнае, як нідзе, у нашай культурнай і грамадзянскай сітуацыі. Тут меўся, мабыць, і больш практычны момант. Ну, дзе ты знойдзеш спонсараў на інтэлектуальны, філасофскі раман, хай сабе нават геніяльны? А вось «Падзеі. Даты. Ілюстрацыі» — зусім іншая рэч. Тым больш калі гэта не нудотная «сухотка» — пералік, а вобразна, белетрызавана падсвечаныя празаікам і гісторыкам У. Арловым гістарычныя сюжэты...

Кнігі, дзякуючы фінансавай падтрымцы, выдадзены шыкоўна і з густам. Попыт на іх вялікі. Сам аўтар не шкадуе ні сіл, ні часу на выступленні, вандроўкі — дзеля асветніцкіх мэт.

Асветніцтва, культурны, паэтычны, літаратурны кшталт — у традыцыі ўсёй сям'і Арловых, з той няпростай, мабыць, жыццёва-сюжэтнай лініяй, якая пазначае звычайна шлюбныя саюзы самадастатковых творчых асоб, у дадзеным выпадку: вядомай паэтэсы і журналісткі Валянціны Аксак і пісьменніка Уладзіміра Арлова.

...А вяртаючыся да гаворкі пра тыя кнігі па гісторыі Беларусі, можна дадаць, што ў іх колькі прыхільнікаў, столькі і ворагаў. Асобнікі выданняў набываюць і тыя, і другія. Мабыць, паводле гамбургскага рахунку, у сур'ёзных даследчыкаў ёсць і пярэчанні, і нязгода.

Я не гісторык, таму нешта мне здаецца, чыста суб'ектыўна, больш доказным, нешта — менш. Але ўсё — чытаецца!

Галоўнае, што беларус Уладзімір Арлоў выйшаў на Рандэву з Гісторыяй і Сучаснасцю ва ўзбраенні таленту, ведаў, інтэлекту. Не спрачаючыся з Часам і не аспрэчваючы яго — занятак марны, — а спрабуючы спасцігнуць розныя бакі Быцця. У фактах і паміж імі, у падзеях і ў тых высновах, што ўзнікаюць неабвержна і мройна мігцяць недзе на даляглядах...

Ён розны, і розны ў яго чытач... Адно бясспрэчна: сённяшняя літаратурная і культурная рэальнасць нашай Бацькаўшчыны не ўяўляецца без постаці Уладзіміра Арлова.

ЛЕКТОРЫЙ

# ПРАБЛЕМА ВЕЖЫ, або ХАТА НА ВЕЧНЫ ЧАС

## ВОБРАЗ РАДЗІМЫ І НАРОДА Ў БЕЛАРУСКАЙ КАЗАЧНАЙ І ПРЫТЧАВАЙ ПРОЗЕ



Святлана ЦЫБАКОВА

**Стварэнне вобраза Радзімы, асэнсаванне мінуўшчыны роднага краю і жыцця суайчыннікаў у цяперашні час, перадача аўтарскіх поглядаў на духоўны стан народа і інтэлігенцыі належаць да ліку тых вечных грамадзянскіх тэмаў у літаратуры, якія амаль заўсёды разбіваюць майстроў слова на антаганістычныя ідэйныя напрамкі, у выніку чаго змест іх твораў набывае вострa палемічны і злабадзёны характар.**

Адлюстраванне негатыва сацыяльнай рэчаіснасці, а таксама асаблівасцяў нацыянальнага менталітэту ў жанравых формах казкі і прытчы — з'ява, хутчэй за ўсё, нетыповая для літаратурна-мастацкага мыслення і па вялікім рахунку адметная для позняга ці «посткрызіснага» перыядаў духоўных пошукаў творцы (напрыклад, «Тры прытчы» Л. Талстога, «Ельчык-бельчык» В. Астаф'ева). Зварот да паэтыкі фантастычнага, да алегорыі і сімвалаў дазваляе больш глыбока перадаць канцэптуальны сэнс твора, абстрагавацца ад асноўных дэталёвых прыкметаў той ці іншай рэальнай сітуацыі, увасобіўшы сутнасныя рысы і супярэчнасці жыцця суграмадзян у ёмкіх іншасказальна-абагульненых вобразах. Правядзенне ў формах казкі і прытчы аўтарскіх думак аб маральным становішчы сучаснага грамадства, аб небяспецы ўтылітарнага падыходу да вырашэння складаных праблемаў, якія звязаны з будучыняй нацыі, — адзін з галоўных напрамкаў позняй прозы Васіля Быкава і Віктара Казько.

У «сучаснай спадарожнай казцы» В. Казько — «Нахаў...» — пісьменніцка-публіцыстычнае адмаўленне валадарства «дзікага палявання ліхалецця» набывае паглыблена метафарычны і сімвалічны сэнс. У казцы паказана нейкая вымарачная, амаль жудасная рэчаіснасць, якая, тым не менш, выклікае ўражанне добра вядомай явы-абыдзеншчыны, «прозы жыцця», толькі нібыта перанесенай у сон чалавека, які заснуў з адчуваннем трывогі і роспачы перад днём наступным.

Цэнтральнае месца ў ідэйна-мастацкім свеце твора займае вобраз жанчыны, адна палова твару якой знявечаная, у рубцах-шнарах, з выцеклым вокам, а другая — «ветлівая і ўсмешлівая», у выніку чаго «неразмежаванасць ідавочнай і кідкай прыгажосці і такой жа відавочнай і задзірлівай, недзе нават трыумфальнай, выродлівасці бянтэжыла і палохала».

«Шчаслівая ў горкім сваім няшчасці», як яе парадаксальна характарызуе аўтар, жанчына-пасажырка невялічкага поезда, што праходзіць праз станцыі «малых лапікаў-астраўкоў» «былой дрымучасці палескай глыбінкі», увасабляе, перш за ўсё, самаахвярную мацярынскую любоў і па-сапраўднаму ціхмянамудрае прыманне існы аб незаменнай каштоўнасці і ачышчальнай ролі пачуцця Радзімы для чалавека, аб глыбіннай залежнасці беларуса ад ментальнага свету продкаў, аб ягонай сувязі з духоўнай спадчынай Бацькаўшчыны. Радзіма — «маці ... родная... Суровая, як наша жыццё, а ўсё роўна жыццё». Гэтыя словы жанчыны, якую чакае сын-інвалід, адрасаваныя маладому пасажыру «з тварам аднолькава фізіка-генія і Хрыста», «будаўніку хат на вечны час», якi амаль афарыстычна сцвярджае, што «Радзіма — магіла!», «Радзіма — смерць!».

Гісторыя, расказаная гераіняй аб Іванчыку-Пятру, у якога застаўся адзін «неабсечаны карэньчык», што і прывёў яго праз шмат летаў на родную зямлю, у палескую вёску Нахаў, выконвае ў кампазіцыі твора функцыю прытчы і зміншчае ў сабе асноўны ідэйны сэнс, выказаны аўтарам. «Рана ты вечныя хаты іншым ладзіць узяўся. Табе сеяць толькі пара, а ты прыкопваеш ужо. Магільшчык ты, вось і судзіш усіх з тых магіл, што іншым капаеш», — заўважае жанчына-маці, не прымаючы маргінальны духоўны нігілізм і адчай «угатавальніка вечнага адпачынку».

У якасці сімвала Радзімы жанчына-маці ўзвышаецца над сваім народам, абагульнены партрэт якога ў казцы вельмі негатыўны: «Твару ніводзін з іх тады не мае. Рыла ўсяленскае, вар'яцкае, звярынае. Жахлівa і жудасна таму, хто яшчэ не азвярэў і не здзічэў. Вольна і міжвольна ён адчувае ў такія мінуты, як і ў яго пачынае расці на целе поўсць, растуць рогі і хвост, — страшна робіцца за ўвесь род чалавечы: ці вы гэта, людзі, тысячу гадоў назад хрышчоныя, уведаўшыя Бога? Дзе ж ваш крыж? Хто ваш сёння бог? ... Новы Вавілон. І коціць гэты Вавілон няспынна, лаецца, мацюкаецца і б'ецца, дзень і ноч не ведаючы супынку».

Сярод пасажыраў поезда, апроч магільшчыкаў, вылучаюцца, уяўляючы два асноўныя напрамкі выраджэння нацы, — «юная прастытутка» і «прапойца». Радзіма-маці супрацьпастаўляецца сваім дзецям-маргіналам, прапашчым людзям: прапойцам, магільшчыкам, прастытуткам, «бязрукім і бязногім цельпушкам».

Пасажырка са знявечаным тварам параўноўваецца ў тэксце твора і з вядзьмаркай (аднавокая, сівая, са збітаю на патыліцу хусткаю, лічы, уляцела на ступе ці памяле ў поезд...»), што сведчыць аб яе здольнасці наслаць праклён ці наогул «загнаць у магілу». Сцервай называе яе «Хрыстос-магільшчык», убачыўшы ў старой жанчыне рысы былой духоўнай слабасці, безабароннасці перад зямнымі спакусамі і асалодамі. Вобраз жанчыны-маці, такім чынам, сімвалічна персаніфікуе не толькі тое, што суадносіцца з жыццём, але і тое, што зміншчае ў сабе сэнсы, звязаныя з катэгорыяй смерці. Менавіта ўніверсальная апазіцыя «жыццё-смерць» на сэнсава-абстрагаваным узроўні мастацкай структуры твора выконвае галоўную ідэйна-арганізацыйную функцыю. Мёртвай з'яўляецца знявечаная палова твару гераіні. З «вечнай хатай» параўноваецца магіла, адпаведна з уяўленнямі, укаранёнымі ў чалавечай свядомасці з язычніцкай даўніны, улонне Мацеры-Сырой Зямлі.

Праз апазіцыю «жыццё-смерць» рэалізуецца ў «сучаснай спадарожнай казцы» спаконвечны канфлікт паміж бацькамі і дзецьмі. Для апошніх, якія пасля крушэння ўзнёслых ідэалаў і памкненняў, аказаліся выкінутымі на абочыну жыцця, усё больш разлютоўваючыся ў непрымірнай жорсткай рэчаіснасці і хлусні, магіла і смерць становяцца галоўнымі сімвалічнымі ўвасабленнямі Радзімы-маці.

**Народу і яго кіраўнікам аўтар супрацьпастаўляе аднаго «асаблівa палымянага прамоўцу», які даводзіў, што парадку ў краіне не будзе, пакуль людзі не зруйнуюць Вежу. Вежа выступае сімвалам чалавечай саманадзейнасці і бязбожнасці**

Сувязь з жанравай мадэллю казкі праяўляецца ў значнай ступені на персанажным узроўні мастацкай структуры твора, праз аўтарскае ўключэнне ў яе вобразаў казак і народнай міфалогіі. Сумяшчэнне казачнай і міфалагічнай умоўнасці з рэалістычнымі прынцыпамі адлюстравання рэчаіснасці дапамагае аўтару дасягнуць большай ступені эмацыянальнай выразнасці і сімвалічнай шматпланавасці вобразаў, пранікнуць у архетыпічную глыбіню і вытокі псіхалагічных канстантаў забытых нябеснымі і зямнымі ўладарамі «маленькіх» і маргінальных людзей беларускага Палесся напрыканцы XX стагоддзя.

У прытчавай прозе Васіля Быкава вобразы народа і Радзімы створаны праз аўтарскі зварот да іншасказальнай паэтыкі сімвала, алегорыі і гратэску, а ў такой прыпавесці, як «Вежа», — пры дапамозе рэмінісцэнцый і алюзій біблейскага паходжання. Вядомы сюжэт аб будаўніцтве Вавілонскай вежы пісьменнік праецыруе на сучасную рэчаіснасць. Вежа ў творы, як і ў Вечнай Кнізе, выступае сімвалам чалавечай саманадзейнасці і бязбожнасці. Народу і яго кіраўнікам аўтар супрацьпастаўляе аднаго «асаблівa палымянага прамоўцу», які даводзіў, што парадку ў краіне не будзе, пакуль людзі не зруйнуюць Вежу.

У прыпавесці «Абязбожаны люд» В. Быкаў мадэліруе сітуацыю татальнага заняпаду рэлігіі, калі «Бог знік» і людзі ўпалі ў «паняверку». Пісьменнік паказвае заканамерную і непарушную сувязь паміж злом бязбожнасці і духоўнай дэградацыяй народа: «Распуста, гвалт і забойствы дасягнулі небывалых памераў, ад п'яных канфліктаў народ трáціў ці не больш, чым ад войнаў». У прыпавесці адлюстравана прасякнутая песімістычным настроем карціна шляху «абязбожанага люда» да стварэння ўласнага Зямнога Бога, які замяніў Бога Нябеснага, калісьці ў народнай свядомасці ўсемагутнага, да якога з малітвамі звярталіся вернікі, «асабліва ў нядобры час, у пару войнаў ды ўсялякай бяды і нягоды...». Зямны Бог сімвалізуе ў творы духоўна-псіхалагічную энтрапію, крайні рацыяналізм, адсутнасць імкненняў да ўнутранага развіцця, іх абмежаванасць колам матэрыяльных інтарэсаў і цялесных асалодаў. Пісьменнік стварае, па сутнасці, нейкую «міні-антыўтопію», прадметам мастацкага даследавання ў якой з'яўляецца «квазірэлігія» (У. Маканін). У адпаведнасці з логікай руху аўтарскай думкі, найбольш адмоўны варыянт апошняй — паварот «да звыклага ці не з паганскіх часоў ідалу — яе святасці Бутэльчыны».

У прытчы з містычна-лічбавай назвай «IX» сучаснага празаіка Анатоля Бароўскага, у адрозненне ад «казкі» Віктара Казько і прыпавесцей Васіля Быкава, адлюстраваны аўтарскі погляд на некаторыя небяспечныя і антыдухоўныя з'явы «новай цывілізацыі» (В. Быкаў) праз евангельскае вучэнне аб граху, пакаянні, любові і міласэрнасці. Арыентацыя на хрысціянскія каштоўнасці з'яўляецца складнікам духоўнай канцэпцыі чалавека ў творчасці пісьменніка, звязанай з яго паглыбленай канцэнтрацыяй на вывучэнні Бібліі як Вечнай і Боскай Кнігі. Так, апроч Евангелля, на стварэнне прытчы значны ўплыў аказаў Апакаліпсіс, ці Адрыццё Яна Багаслова, радкі з якога аўтар уключыў са значэннем прарочых папярэджанняў у тэкст прытчы. Аднак дамінуючае месца ў ідэйна-мастацкай канцэпцыі твора належыць такой хрысціянскай катэгорыі, як пакаянне. Галоўны герой — прапаведнік — надзелены рысамі святога юродзівага, які нясе на сабе груз адрынутасці ў свеце грэшных, спакушаных сатанінскім злом людзей. Адвергнуты ўсімі божы чалавек у прытчы «IX», падобна да біблейскага падзвіжніка, з'яўляецца «крыкам адзінотніка ў пустыні», таму што горад, які герой абраў месцам свайго служэння, «быў глухі і невідушчы, чэрствы і няўдзячны, абыякавы і патануў у грахах».

Заклік да пакаяння рэфрэнам праходзіць праз тэкст прытчы і суадносіцца з яго галоўнай сацыяльна-этычнай ідэяй, адчуваннем трывогі за будучыню свету, Радзімы, нацыі, непрыманнем будаўніцтва «атамных пачвараў», інварыянтам якіх у аўтарскай сістэме каштоўнасцей таксама з'яўляецца біблейская Вавілонская вежа. Горад, адлюстраваны пісьменнікам, увасабляе свет пад уладай Сатаны, стан унутранай пустэчы «абязбожанага люда»: і сучасных спажыўцоў «квазірэлігіі» і стваральнікаў шматлікіх ідалаў, адзін з якіх, што, «выдаўжыўшы руку», «паказваў шлях у светлае заўтра», застаўся адметнай складанай постсавецкай прасторы.

Казка «Нахаў...» В. Казько, прыпавесці В. Быкава «Абязбожаны люд», «Вежа» і «Герой», прытча А. Бароўскага «IX» блізкія па тыпу вобразнасці і ў жанравых адносінах. У іншасказальнай форме пісьменнікі выказалі свае погляды на сучаснасць, на маральны стан народа і будучыню Радзімы. Аўтараў твораў аб'ядноўвае пастаноўка актуальнай у час навукова-тэхнічнага прагрэсу «праблемы Вежы», вырашэнне якой патрабуе пераадольвання псіхалогіі ўтылітарызму і спажывецкіх адносінаў паміж людзьмі, а таксама — адмаўлення ад «ідаластварэння».

ЛІТКАЛЕЙДАСКОП

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ТУВЭ ЯНСЭН

**9 жніўня з'явілася на свет пісьменніца і мастачка Тувэ Янсэн — культавая літаратурная постаць дзіцячай літаратуры. Яна нарадзілася ў інтэрнацыянальнай сям'і шведскай мастачкі-ілюстратара Сігне Хамарштэн і вядомага фінскага скульптара Віктара Янсэна.**



Сама ж Тувэ лічыла сябе ў першую чаргу мастачкай. Яе славутыя гісторыі пра Мумі-троляў складаліся самі па сабе, і аўтарка не ставілася сур'ёзна да сваіх літаратурных твораў. Цяпер мала хто ведае, што менавіта Тувэ належаць такія працы, як фрэскі ў мэрыі горада Хельсінкі, размалёўка царкоўнага алтара ў г. Тува і насценная размалёўка ў мэрыі г. Хаміна.

Аднак ганарары за неаднаразова перавыдаваныя і экранізаваныя тэксты для дзяцей дазволілі Тувэ Янсэн выкупіць адасобленую выспу Клоўхарун у Фінскім заліве і жыць там спакойным жыццём — удалечыні ад быццёвых клопатаў і рэпарцёраў.

Пасля смерці Тувэ Янсэн у 2001 годзе ўлады Фінляндыі заявілі, што яна — самы вялікі ўнёсак краіны ў скарбніцу сусветнай культуры, пасля эпасу «Калявала» і творчасці кампазітара Яна Сібеліуса.

## ПОМНІК ТВАРДОЎСКАМУ

**У Маскве ў скверы Страснога бульвара непадалёк ад рэдакцыі часопіса «Новый мир» адкрыты помнік Аляксандру Твардоўскаму.**

Скульптура перададзена ў дар Маскве Расійскім фондам міру. Яна створана народным мастаком Расіі Уладзімірам Сураўцавым і заслужаным архітэктарам Расіі Віктарам Пасенкам.

А. Твардоўскі быў галоўным рэдактарам «Нового мира» з 1950 па 1954 гады, а таксама з 1958-га па 1970-ы. Пры ім у часопісе была, у прыватнасці, апублікавана аповесць А. Салжаніцына «Один день Ивана Денисовича» (першы твор будучага Нобелеўскага лаўрэата, які выйшаў у СССР). Акрамя таго, «Новый мир» А. Твардоўскага публікаваў творы Васіля Быкава, Васіля Шукшына, Юрыя Трыфанава, Фазіля Іскандэра, Уладзіміра Вайновіча і дзясяткаў іншых вядомых пісьменнікаў.

## ЦЕНЬ ПУШКІНА

У Адэсе па ініцыятыве адэсітаў Рамана Тапілава і Ігара Канавалава на скрыжаванні дзвюх цэнтральных вуліцаў, дзе пэўны час жыў Аляксандр Пушкін, усталююць незвычайны помнік: там заменяць дзвесце квадратных метраў пакрыцця ходніка на цёмную цэглу-клінкер, які створыць аптычны эфект трохмятровага ценю.

Арганізатары праекта «Цень А.С.Пушкіна» ўдакладняюць, што ў XIX стагоддзі тут знаходзіўся «дом Рэно», у якім Пушкін жыў падчас сваёй адэскай высылкі — і менавіта так «адкідаў цень», стоячы на гаўбцы.

## ФЕСТЫВАЛЬ ТОМАСА МАНА Ў НІДЗЕ

**У Летуве на Куршскай касе ў горадзе Ніда адбыўся чарговы фестываль Томаса Мана. Ён праходзіць там кожны ліпень — з 1996 года.**

У Нідзе ён ладзіцца зусім не выпадкова: менавіта тут Томас Ман пабудаваў сабе дом, напісаў раман «Іосіф і яго браты», а таксама, верагодна, запазычыў некаторыя вобразы для «Чароўнай гары». Падчас фестывалю арганізуюцца канцэрты, мастацкія выставы, дыскусіі, літаратурныя вечарыны.

Само мерапрыемства з'яўляецца вельмі маштабнай падзеяй: сярод яго гасцей гэтым разам былі прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ і прэзідэнт Нямеччыны Йоахім Гаук. Прэзідэнты перш за ўсё зайшлі ў дом Томаса Мана, размешчаны ў маляўнічым месцы над Залівам у атачэнні старых хвой. Нягледзячы на прысутнасць аховы, «простыя смяротныя» маглі «плячо да пляча» хадзіць па музеі з першымі асобамі дзяржаў.

Да параўнання: зусім іншая карціна адзначалася нядаўна на той жа Балтыйскай касе, якую вырашыў наведаць прэзідэнт Расіі. Увесь дзень не працаваў паром, і народ не мог туды патрапіць, не кажучы ўжо пра тое, каб падысці да першай асобы…

## ФБР І КАРЛАС ФУЭНТЭС

**ФБР апублікавала на сваім сайце 170-старонкавы матэрыял аб тым, як супрацоўнікі ведамства сачылі за Карласам Фуэнтэсам, адным з найзнакамітых пісьменнікаў Мексікі. Спецслужбы ЗША цікавіліся пісьменнікам таму, што ён падтрымліваў рэжым Фідэля Кастра.**



Фуэнтэс, які пакінуў свет у 2012 годзе, называецца ў дасье «камуністычным пісьменнікам Мексікі», а таксама «вядомым мексіканскім пісьменнікам з доўгай гісторыяй падазроных сувязяў». Як зазначыла Associated Press, ФБР не перастала пільна сачыць за Фуэнтэсам нават пасля таго, як той пасварыўся з кубінскай уладай. Тое адбылося ў 1971 годзе, калі з ініцыятывы кубінскай улады быў арыштаваны паэт Эберта Падзілья.

З апублікаваных дакументаў ФБР стала вядома, што ЗША некалькі разоў адмаўлялі Фуэнтэсу ў візах, а калі ён нарэшце з'явіўся ў краіне, ФБР шукала інфарматараў, якія б сачылі за пісьменнікам.

Фуентэс апублікаваў першую кнігу апавяданняў «Замаскаваныя дні» (Los dias enmascarados) ў 1954 годзе, а міжнароднае прызнанне атрымаў праз пяць гадоў пасля выхаду «Краю бязхмарнай яснасці» (La region mas transparente). Адзін з найвядомейшых твораў Фуэнтэса, раман «Смерць Арцеміо Круса» (La muerte de Artemio Cruz, 1962), прысвечаны ідэалісту-рэвалюцыянеру. Зазвычай імя Фуэнтэса ставіцца ў адзін шэраг з найвядомейшымі амерыканскімі пісьменнікамі XX стагоддзя — Хорхэ Луісам Борхесам, Марыё Варгаса Льёса, Габрыэлем Гарсія Маркесам і іншымі.



К. Сіманаў (другі справа) у Ташкенце

## ДОМ КАНСТАНЦІНА СІМАНАВА

У адным з мікрараёнаў Ташкента знаходзіцца дом, у якім жыў і працаваў Канстанцін Сіманаў. Як стала вядома, неўзабаве памятнага месца можа не стаць: тамтэйшую забудову плануюць знесці.

Нядаўна ў дом наведаліся супрацоўнікі праваахоўных органаў, члены ташкенцкага гарадскога кадастра і прадстаўнікі муніцыпальнай адміністрацыі. Яны распавялі грамадзянам, што для іх кватэр спыняецца працэс прапіскі і магчымасці куплі-продажу жылля. Мікрараён пойдзе пад знос — і жыхарам самы час пакаваць рэчы…

## ДУШУ — НА ПРОДАЖ

**Сяргей Іннер, пісьменнік з Санкт-Пецярбурга, выставіў на продаж уласную душу.**

Такую заяву аўтар зрабіў у рамках праекта, «запушчанага» 22 чэрвеня на сайце boomstarter.ru. Да 21 жніўня любы ахвотнік мог стаць народным фундатарам выдання і атрымаць імянны асобнік яго рамана «Паскаральнікі жыцця. Бог, наркотыкі, рок-н-рол», не дапушчанага да публікацыі ніводным з буйных выдавецтваў. Да моманту завяршэння праекта набраная сума павінна дасягнуць 100 000 расійскіх рублёў, а калі гэтага не адбудзецца, усе грошы вернуцца фундатарам.

Сваю душу С. Іннер абавязваўся аддаць любому, хто пагодзіцца прафінансаваць усё выданне цалкам. Сведчаннем дамовы стане асобнік рамана, падпісаны крывёй аўтара. Пецярбуржац сцвярджаў, што менавіта такая традыцыя суправаджала «першыя альбомы заходніх рок-груп».

Раман «Паскаральнікі жыцця. Бог, наркотыкі, рок-н-рол», па словах пісьменніка, распавядае пра недалёкую будучыню неназванай краіны. На фоне антыўтопіі, якая малюе адзін з варыянтаў развіцця сучаснага грамадства, разгортваецца дзеянне, напоўненае паўсталай з попелу рок-музыкай, неверагоднымі хімічнымі рэчывамі і кардынальнымі зменамі ў маральных поглядах чалавецтва. Аўтар падкрэсліваў, што ніякіх прапагандысцкіх функцый кніга не нясе. «Мастацкая літаратура павінна не павучаць, а распавядаць цікавыя гісторыі пра персанажаў з рознымі пунктамі гледжання, даючы чытачу магчымасць абраць сваю», — заявіў ён.

## КНІГАВЫДАННЕ

### УКРАІНСКІЯ КАЗКІ





Сарakатомнае выданне «Українські народні казки», якое прэзентавалі на Кіеўскай міжнароднай кніжнай выставе, стала прэтэндэнтам на аб'ект нематэрыяльнай спадчыны ЮНЭСКА.

Серыя кніг пабачыла свет у чарнавецкім выдавецтве «Букрек». Яе складальнік — этнограф і гісторык Мыкола Зінчук. Ён збіраў народную творчасць напрацягу 35 гадоў. Так, апошняя кніга з серыі змяшчае каля 160 казак і слоўнік дыялектызмаў. Як запэўнівае дырэктар выдавецтва «Букрек», у свеце няма аналогіі падобнаму праекту.

### УКРАІНА: ПАДАТАК НА КНІГІ З ЗАМЕЖЖА?

Ва Украіне прапанавалі ўвесці мыту на замежную літаратуру. Народныя дэпутаты з фракцыі «Свабода» ўнеслі ў парламент законапраекты пра занясенне зменаў у Мытны і Бюджэтны кодэксы, а таксама ў мытны тарыф Украіны, якім прапануецца абкласці 5%-ным падаткам кнігі, часопісы, брашуры, якія ўвозяцца з-за мяжы.

Цяпер імпартная друкаваная прадукцыя пры ўвозе ва Украіну мытамі не абкладаецца. На думку аўтараў законапраекта, гэта прыводзіць да выцяснення з прылаўкаў айчынных кніг і росту імпарту.

«5% — гэта не тая сума, якая пагоршыць гандлёвыя адносіны Украіны з іншымі краінамі. Гэта еўрапейская практыка абароны айчыннага рынка, якая дасць прэферэнцыі нашаму вытворцу», — растлумачыў у каментары для «КОММЕРСАНТЪ-Украина» адзін з аўтараў законапраекта, віцэ-спікер Руслан Кашулінскі.

Сродкі, атрыманыя ад увазной мыты, дэпутаты прапануюць накіраваць на абнаўленне і развіццё бібліятэчных фондаў.

«Да нас паступае мноства зваротаў ад бібліятэк са скаргамі на фінансаванне па рэштковым прынцыпе. Ім няма за што закупляць кнігі, ва Украіне бібліятэкі знаходзяцца на грані знікнення, дзяржава не вылучае сродкі на іх працу», — дадаў Кашулінскі.

Паказальна, што з падобнай прапановай аб увядзенні мытнага падатку ў такім жа памеры выступалі беларускія пісьменнікі на сваім з'ездзе яшчэ 10 гадоў таму…

### КНІЖНАЯ ВЕЖА Ў АДЭСЕ

Следам за кіеўскай адкрываецца мабільная электронная бібліятэка ў цэнтры Адэсы. Тут, як і ў сталіцы Украіны, з дапамогай распазнавання QR-кодаў і вай-фай можна будзе «загрузіць» каля пяцісот кніг, у вольным доступе прадстаўленых усім ахвотнікам.

Аднак адэская акцыя будзе мець сваю адметную асаблівасць: удзельнікаў, гэта значыць усіх адэсітаў і гасцей горада, запрашаюць прынесці з сабой папяровыя кнігі, з якіх будзе пабудавана кніжная вежа. Затым папяровыя кнігі арганізатары развязуць па дзіцячых дамах і бібліятэках аддаленых вёсак.

Акцыя стартавала 8 жніўня на Саборным пляцы г. Адэсы пад слоганам «Прынясі папяровую кнігу і атрымай наўзамен 500 электронных».

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў Newsru.ua, novostiliteratury.ru, РИА Новости і Deutsche Welle**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 6 ВЕРАСНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**10.10** Біяграфічная драма «Вангелія» (Расія-Беларусь-Балгарыя). 4-я серыя.
**11.15** «Летапіс у прамянях свята». Дакументальны фільм («Беларусьфільм»).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Дакументальны серыял «Усе грані ўтрапёнасці» (Германія).
**13.55** Серыял «У кожнага свая вайна».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія). Заключная серыя.
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**17.40** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**19.20, 23.50** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Біяграфічная драма «Вангелія» (Расія-Беларусь-Балгарыя). 5-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.55** Містычны трылер «Цёмная вада» (ЗША).
**00.40** Дзень спорту.
**00.50** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія). Заключная серыя.

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Жаночы доктар 2». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Інкогніта з Пецярбурга».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Белараша».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**20.55** Навіны спорту.
**21.00** Фінальнае шоў Міжнароднага конкурсу прыгажосці «Miss Supranational - 2013».
**23.30** Прыгодніцкі фільм «Ромавы дзённік».
**01.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**09.05** «Нам і не сніласся».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**13.55** Фільм «Дом ветру». Расія, 2011г.
**15.50** «Ашуканыя навукай».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Сакрэты старажытных прыгажунь».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Кактус». Францыя, 2005г.
**22.25** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** Сімфа-рок праграма Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў».
**10.15** Час футболу.
**11.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**11.40** Меладрама «Інсайт».
**13.30** Меладрама «Справа была ў Пянькове» (СССР).
**15.25** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка, 38. Каманда Пятроўскага» (Расія). 4-я серыя.
**16.40** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**17.15** Дача здароўя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Футбол. Таварыскі матч. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Прэм'ера. Крымінальная камедыя «Берні» (ЗША).
**23.25** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.10** Фактар сілы.
**00.40** Арэна.
**01.10** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Беларусь - Расія.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00, 12.00, 16.00, 23.15** «Мой горад». Чырвоны Бераг.
**08.15, 18.40** «Свята далёкай зоркі». Памяці Л.Р.Рахленкі.
**08.40** «Партрэт на фоне эпохі».
**09.30** «Разам з ім».
**10.00** «Раман Качанаў. Фільм-партрэт».
**10.40** «Паром». Кароткаметражны фільм.
**11.20** «Таямніца душы». Хросны шлях Росіцкіх мучанікаў.
**11.45** «Найменні вобразы». Народны майстар Мечыслаў Бейнар.
**12.15** «Свежына з салютам». Камедыя.
**13.30** «Тэатр. Выбранае». Паміж Беларуссю і Польшчай. Драматург Сяргей Кавалёў.
**14.10** «Гісторыя беларускай страўні». Мясныя прысмакі.
**14.35** «Загадкі дзеда Кандрата».
**15.05** «Існа». Музыказнаўца, прафесар, дырыжор Альбіна Скарабагатчанка.
**15.30** «Карані». Жанчыны Кішнёва.
**16.15, 22.25** «Песні мінулага стагоддзя». Канцэрт памяці Уладзіміра Мулявіна.
**17.10** «Тайнікі Рускага музея. Палацы Рускага музея».
**17.40** «Таямніца душы». Іканапіс Беларусі. Новае жыццё ікон.
**18.05** «Зубр».
**18.25** «Святыні полацкай зямлі».
**19.10** «Сакрэтны кінематограф». Дак. фільм «Паветраны бой.. на зямлі».
**19.35** «Сакрэтны кінематограф». «Пра тое, што было..» Супрацьракетная абарона.
**20.00** «Сакрэтны кінематограф. Спатканне з бомбай».
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Іван». Мастацкі фільм.
**21.55** «АРТиШОК». Знаёмства з в вандроўнікам, музыкантам, фатографам Сяргеем Мілюхіным.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Прэм'ера. «Справа лекараў».
**15.15** «І зноў добры дзень!».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Братэрства дэсанта».
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Карпаў».

### МИР

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**06.40** Серыял «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Фільм «Постскрыптум».
**11.15** «Сардэчна запрашаем».
**11.45** «Рэспубліка сёння».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Серыял «Клон».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** «Яшчэ не разам».
**16.20** Серыял «Апошні сакрэт Майстры».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** Фільм «Не спрабуйце зразумець жанчыну».
**20.00** Фільм «Прыгожае жыццё».
**21.00** Фінал міжнароднага конкурсу прыгажосці «Miss Supranational - 2013». Трансляцыя з Мінска.
**23.35** Серыял «Апошні сакрэт Майстры».
**01.20** «Народы Расіі».
**02.25** Серыял «Клон».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**08.30** Рэпартэр.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.25** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**10.05** «Бландзінка», серыял: 5 серыя.
**10.50** «Молатаў: цень Сталіна», дак. фільм, 2010 г., Германія.
**11.45** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**13.20** Рэпартэр.
**13.45** Аб'ектыў.
**14.15** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.55** «Бландзінка», серыял: 5 серыя.
**15.40** «Молатаў: цень Сталіна», дак. фільм, 2010 г., Германія.
**16.30** «Ранча», серыял: 3 серыя.
**17.30** Рэпартэр.
**18.00** На колах.
**18.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.30** ПраСвет.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Quo Vadis», тэлесерыял: 6 серыя.
**22.10** Размовы эксперта (інфармацыйнааналітычная праграма).
**22.30** «Небяспечны архіў. Рэабілітацыя», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**23.10** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар (паўтор).
**00.40** ПраСвет.
**01.05** Аб'ектыў.
**01.35** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 7 ВЕРАСНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Камедыя «Тры плюс два» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).
**10.45** Здароўе.
**11.30** Усё як мае быць!
**12.10** Музычная камедыя «Дзяўчына без адрасу» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.25** Каробка перадач.
**17.00** Анімацыйны фільм-фэнтэзі «Гісторыя цацак-2» (ЗША).
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Прэм'ера! Камедыйная меладрама «Поспех напракат» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Крымінальны трылер «Рабаванне на Бэйкер-стрыт» (Вялікабрытанія- ЗША).
**23.45** Дзень спорту.
**23.55** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. Новыя прыгоды».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Сінія ночы». Шматсерыйны фільм.
**14.10** Фільм «Д'Артаньян і тры мушкецёры».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Д'Артаньян і тры мушкецёры». Працяг.
**19.00** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Адмысловы выпуск.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Хачу ў ВІА ГРУ».
**23.25** Прыгодніцкі фільм «Перавозчык».

### СТВ

**06.10** «Салдаты». Серыял.
**07.00** «Анфас».
**07.15** Фільм «Кактус». Францыя, 2005г.
**09.00** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**09.05** «Чыстая праца».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.40** «100 адсоткаў».
**11.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**13.35** Фільм «Бабек», 1979г. 1-я серыя.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Такі лёс».
**18.30** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Ілюзіяніст». ЗША - Чэхія, 2006 г.
**22.25** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**22.30** «Зорны рынг». Дайджэст.
**23.30** Фільм «Летні дождж». Расія, 2002г.
**01.10** «Якія людзі!».
**02.00** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.35** Мультфільмы.
**07.50** Фільм-казка «Старая, старая казка».
**09.25** Пазакласная гадзіна.
**09.45** Тэлебарометр.
**09.50** Меладрама «Справа была ў Пянькове» (СССР).
**11.50** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.25** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**13.00** Меладрама «Інсайт» («Беларусьфільм»).
**14.50** Крымінальная камедыя «Берні» (ЗША).
**16.55** Прыгодніцкая камедыя «Воднае жыццё» (ЗША).
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Вышэй за дах.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** «КЕНО».
**21.05** Прэм'ера. Трагікамедыя «Галоўнае - не баяцца!» (ЗША).
**23.05** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Азербайджан - Беларусь.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Таямніца душы». Праваслаўны псіхатэрапеўт.
**08.30** Дзіцячы фільм. «Прыміце тэлеграму ў доўг».
**09.50** «Максім Танк».
**10.20** «Пінская флатылія».
**11.00** «Міхаіл Пташук».
**11.30** «Дарогі лёсу».
**12.20** «Карані». Вінніца.
**12.45** «Ён сэрцам песню адчуваў..».
**13.15** «АРТиШОК».
**13.40, 00.20** «Леанард Бернстайн. Амерыканскі кампазітар, піяніст і дырыжор».
**14.35** Канцэрты у Вялікай студыі Дома радыё. Музычная містэрыя для народных галасоў «Колаварот».
**15.50** «Полацк».
**16.05** «Плошча мастацтваў». Марыя Захарэвіч.
**16.35** «Скарбніца Віцебшчыны». Мая дзяржава. Здраўнёва. Маёнтак І.Рэпіна.
**17.05** «Ад зямлі, ветру і сонца».
**17.35** «Анатоль і Піліп Шчытавы. Абразы ў дрэве».
**17.45** «Скарбніца Магілёўшчыны». Схаваная святыня. Нікольскі жаночы манастыр.
**18.20** «Дзень беларускага пісьменства ў Быхаве».
**18.45** «Ілюзія палявання». Дэтэктыў. 1-я і 2-я серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.55** «Ілюзія палявання». Дэтэктыў. 3-я і 4-я серыі.
**22.35** «Страх і каханне». Экранізацыя п'есы А.П.Чэхава «Тры сястры».

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Страхавальнікі».
**08.00** Сёння.
**08.20** Агляд.
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Гатуем».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Следства вялі...
**14.10** «Вочная стаўка».
**15.00** «Крамлёўскія дзеці».
**15.50** Баявік «Кодэкс гонару».
**17.30** «З песні слоў не выкінеш!».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Цэнтральнае тэлебачанне».
**19.50** Серыял «Ментоўскія войны».
**23.15** Фільм «Помста без права перадачы».
**00.50** «Масквічы». Тэлевізійная камедыя.

### МИР

**05.00** Фільм «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**08.05** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.20** «Эксперыментатары».
**08.35** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Свет спорту».
**09.40** «Даведнік».
**10.05** «Зроблена ў СССР».
**10.30** Фільм «Увага, чарапаха!».
**11.35** Серыял «Ты - гэта я».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Серыял «Іншае жыццё».
**20.00** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.45** Фільм «Чырвоны гатэль».
**22.25** Фільм «Не спрабуйце зразумець жанчыну».
**00.05** Фільм «Аднагодкі».
**01.35** Серыял «Ты - гэта я».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**08.30** ПраСвет.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Мадла і Туп», «Чацвёра вушэй у пералеску».
**09.55** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 1 серыя.
**10.20** Асабісты капітал.
**10.40** На колах.
**11.10** «Бландзінка», серыял: 5 серыя.
**11.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.25** Форум (ток-шоу).
**13.10** МакраФон: «Права быць свабодным» (канцэрт альтэрнатыўнай музыкі «Луцк-2007»): выступ гуртоў «Крама», «Уліс»: 2 серыя.
**13.45** «Глыбокая вада», серыял: 13 серыя.
**14.35** «Новенькая», дэтэктыўны серыял: 8 серыя.
**14.50** «Молатаў: цень Сталіна», дак. фільм, 2010 г., Германія.
**15.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**15.55** «Quo Vadis», тэлесерыял: 6 серыя.
**16.40** «Час гонару», серыял: 49 серыя.
**17.30** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 10 серыя.
**17.55** Еўропа сёння.
**18.25** Назад у будучыню.
**18.45** Англійская для дзяцей.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.00** «Усё нашае жыццё — соц-арт», дак. фільм, 2004 г., Расія.
**19.40** МакраФон: XIV фестываль песеннай паэзіі ды аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Алеся Камоцкага.
**19.55** Зона «Свабоды».
**20.30** Відзьмо-невідзьмо: выд. 34.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Глыбоцкая змова», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**22.00** Суботні сеанс: «Выкрадаючы рай», трылер, 2011 г., Канада.
**23.25** ПраСвет.
**23.50** «Пітбуль», серыял: 27 серыя.
**00.40** «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца».
**01.10** Аб'ектыў.
**01.25** Вагон.

## 8 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### БЕЛАРУСЬ 1

**07.15** Музычная камедыя «Дзяўчына без адрасу» (СССР).
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйная меладрама «Вяртаваць боса» (Украіна-Расія).
**10.40** Медычныя таямніцы.
**11.10** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.45** Нашы.
**12.10** Камедыя «Тры плюс два» (СССР).
**13.55** «Аксана Волкава а prima vista». Дакументальны фільм («Беларусьфільм»).
**14.30** Заўтра - гэта мы!
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Прыгодніцкая фэнтэзі-казка «Хронікі Нарніі: Прынц Каспіян» (ЗША).
**18.05** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**19.05** Лірычная камедыя «Моцны шлюб».
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Прыгодніцкі баявік «Ідэальныя ўцёкі» (ЗША).
**00.20** Камедыйная меладрама «Вяртаваць боса» (Украіна-Расія).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Ледавіковы перыяд».
**13.35** Фільм «Моцны арэшак».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Усе трафеі Алены Прокловай».
**17.30** «Эстрадны кактэйль».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера сезону. «Ледавіковы перыяд».
**00.00** Прыгодніцкі фільм «Перавозчык 2».

### СТВ

**06.15** «Салдаты». Серыял.
**07.55** Фільм «Ілюзіяніст». ЗША - Чэхія, 2006 г.
**09.55** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Бабек». 1979 г. 2-я серыя.
**14.00** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Фантомны боль». Германія.
**22.25** Дзённік IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**22.30** Фінал IX Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**01.10** Фільм «Вяртанне дадому». 2007 г.
**02.40** «Дакументальны праект».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.35** Мультфільмы.
**08.20** Фільм-казка.
**09.45** Пазакласная гадзіна.
**10.05** Тэлебарометр.
**10.10** Трагікамедыя «Галоўнае - не баяцца!» (ЗША).
**12.15** Прыгодніцкі фільм «Белы ікол» (ЗША).
**14.20** Прыгодніцкі баявік «Свой сярод чужых, чужы сярод сваіх» (СССР).
**16.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**16.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** «Спортлато 5 з 36».
**21.05** «КЕНО».
**21.10** Прэм'ера. Спартовая драма «Фінішная прамая» (Францыя).
**23.05** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Беларусь - Харватыя.
**01.10** Спорт-кадр.

### БЕЛАРУСЬ 3

**08.00, 15.15, 18.35** «Размовы пра духоўнае». Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы.
**08.05** «Абіцель душы».
**08.35** Мультфільмы.
**09.00** «Ілюзія палявання». Дэтэктыў.
**12.30** «Наперад у мінулае».
**13.00** Дзіцячае кіно. «Прыгоды ў горадзе, якога няма». Музычная казка.
**14.20, 22.00** «Перасячэнні ў прасторы і часе».
**15.25** «Васіль Быкаў. Франтавыя старонкі».
**15.55** «Час патрыётаў». Гісторыя беларускага кіно.
**16.30** «AV INITIO (лат.) - Ад пачатку». Дак. фільм пра Прэзідэнцкі аркестр Рэспублікі Беларусь і яго галоўнага дырыжора Віктара Бабарыкіна.
**17.00** Карані». Мястэчка Адэльск.
**17.30** «Андрэй Бембель: Смерць, Перамога, Слава».
**17.55** «Ледзь смялейшы за іншых». Фільм-партрэт Уладзіміра Васільевіча Карпава.
**18.40** «Страх і каханне». Экранізацыя п'есы А.П.Чэхава «Тры сястры».
**20.30** Калыханка.
**20.45** Канцэрты у Вялікай студыі Дома радыё. Музычная містэрыя для народных галасоў «Колаварот».
**23.00** «Песні ваўка». Спектакль.

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Страхавальнікі».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.00** Сёння.
**13.20** Следства вялі..
**14.10** «Вочная стаўка».
**15.00** «Крамлёўскія дзеці».
**15.50** Баявік «Кодэкс гонару».
**17.30** «З песні слоў не выкінеш!».
**18.35** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Вострасюжэтны серыял «Ментоўскія войны».
**23.10** Прэм'ера. «Ягор 360».
**23.40** «Прамень Святла».
**00.10** «Школа зласлоўя».

### МИР

**05.00** Фільм «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Зямля і неба».
**09.40** «Незорнае дзяцінства».
**10.05** «На шашлыкі».
**10.30** Фільм «Загадка».
**13.05** Фільм «Постскрыптум».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.45** Серыял «Скарбы мёртвых».
**20.00** «Разам».
**21.35** Серыял «Скарбы мёртвых».
**22.30** Фільм «Не скажу».
**00.35** Фільм «Загадка».
**02.55** Фільм «Волга-Волга».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Нодзі ў краіне цацак», «Прыгоды і паходы».
**07.40** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 1 серыя.
**08.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 1 серыя.
**08.30** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**08.45** Беларусы ў Польшчы.
**09.00** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**09.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.55** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял: 1 серыя.
**10.25** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.05** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 14 серыя.
**11.35** Маю правы (юрыдычная праграма).
**11.55** «Бландзінка», серыял: 5 серыя.
**12.40** «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца».
**13.10** «Выкрадаючы рай», трылер, 2011 г., Канада.
**14.40** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**14.50** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Алеся Камоцкага.
**15.10** «Усё нашае жыццё — соц-арт», дак. фільм, 2004 г., Расія.
**15.55** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Svet Boogie Band».
**16.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**16.40** Невядомая Беларусь: «Глыбоцкая змова», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**17.20** «Забытая флатылія», дак. фільм, 2005 г., Польшча.
**18.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.00** «Час гонару», серыял: 50 серыя.
**19.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.05** Дакументальная гадзіна: «Cinema komunisto», дак. фільм, 2010 г., Сербія.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Фільматэка майстроў: «Эксклюзіў», дэтэктыўная камедыя, 2006 г., ЗША.
**23.30** «Палітыканы», серыял: 2 серыя.
**00.20** Відэьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 34.
**00.45** Два на два (тэледыскусія).
**01.10** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 930 79 22, Міхась
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 029) 364 42 60, Зінаіда
Гомель (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
| --- | --- | --- | --- | --- |
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Кассир Пеня ______ Всего ______

СПОРТ



Фанаты «Легіі» запалілі фаеры падчас матча ў Ламянках




Паліцыя накіроўваецца на поле, куды прарваліся фанаты «Легіі»

# БІТВЫ ФУТБОЛЬНЫХ ФАНАТАЎ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Нядаўні інцыдэнт на матчы польскага футбольнага клубу «Лех» з літоўскай камандай «Жальгірыс», калі польскія фанаты вывесілі абразлівы банэр з антылітоўскім тэкстам, зноў нагадаў пра праблему фанацкага руху ў Польшчы. Падобныя інцыдэнты з зайздроснай рэгулярнасцю і, на жаль, у больш жорсткай форме паўтараюцца і ва ўнутраным чэмпіянаце Польшчы. Мне, як кажуць, «на ўласнай шкуры» давялося ўбачыць, хто такія польскія псеўдааматары футболу і як яны паводзяць сябе на матчах.**

## Футбол — наша ўсё

Падчас адной са сваіх першых паездак у Польшчу, якая адбылася больш за 10 гадоў таму, заўважыў адзін цікавы і тады яшчэ не зусім зразумелы для мяне момант. Быццам бы Польшча не такая ўжо і футбольная дзяржава, але нашы заходнія суседзі папросту жывуць футболам. У краіне выдаецца вялікая колькасць часопісаў і газет не проста спартыўнай, але, перш за ўсё, футбольнай тэматыкі. Калі гуляе «рэпрэзентацыя» — нацыянальная зборная, — вуліцы польскіх гарадоў упрыгожваюцца ў нацыянальныя бела-чырвоныя колеры, а шалікі з'яўляюцца на шыях практычна кожнага мінака.

Цікава і тое, што палякі з такой жа стараннасцю і запалам падтрымліваюць і мясцовыя клубы. І не важна, ці гуляе любімая каманда ў «экстра-лізе» ці пляцецца на задворках першага, другога, трэцяга ці нават чацвёртага дывізіёну.

Аднак сярод аматараў «гульні №1» у Польшчы паступова з'яўляецца ўсё больш так званых псеўдазаўзятараў, для якіх важны не столькі футбольны матч, колькі агрэсія ў адносінах да апанентаў і чужой каманды. Прыкладаў дэструктыўнай дзейнасці польскіх фанатаў, на жаль, досыць шмат.

## Замест кубка — пабоішча

3 мая 2011 года ў Быдгашчы праходзіў фінал Кубка Польшчы па футболе, у якім сустракаліся «Лех» з Познані і варшаўская «Легія». Важнасць моманту падаграваў прысутны на матчы дэлегат УЕФА, у абавязкі якога ўваходзіла праверка гатоўнасці Польшчы да Еўра–2012. Розыгрыш кубка краіны ўжо некалькі гадоў праводзіцца пад патранатам прэзідэнта Польшчы, які і ўручае трафей камандзе-пераможцы. На той гульні Браніслаў Камароўскі не прысутнічаў, але быў міністр спорту, а таксама функцыянеры Польскага футбольнага саюза.

У серыі пенальці выйграла сталічная «Легія». Адразу ж на поле выскачылі заўзятары каманды і пачалі абдымацца з футбалістамі. Але эйфарыя доўжылася нядоўга. Насунуўшы шалікі на твар, варшавяне рушылі да фансектару «Леха», з якога ў іх бок ужо ляцелі выламаныя крэслы. За ўсім гэтым дзействам у жаху назіралі польскія дзяржчыноўнікі і дэлегаты УЕФА. Дасталося і журналістам. Усю Польшчу абляцелі відэакадры, на якіх бачна, як фанат падбягае да дзяўчыны-відэааператаркі і з усёй сілы штурхае яе нагой.

Толькі гумовыя кулі паліцэйскіх ды вадамёты супакоілі запал польскіх футбольных «фанатаў». Варта адзначыць, што ўлады Быдгашча чакалі падобны сцэнар. У свой час там праходзіла гульня 1/32 фіналу кубка, дзе сустрэліся мясцовы клуб «Завіша» і «Відзеў». Тады ў сутыкненнях з фанатамі было паранена 8 паліцэйскіх.

**Пэўная частка польскага грамадства лічыць, што такія жорсткія меры, як закрыццё стадыёнаў для гледачоў, не спрацуюць на патрэбны вынік**

Стадыёну быў нанесены матэрыяльны ўрон у 100 тысяч злотых (30 тысяч долараў). Дысцыплінарны камітэт Польскага футбольнага саюза наклаў спагнанне на абедзве каманды і зачыніў стадыён для заўзятараў на пяць матчаў. Паліцыя папярэджвала польскіх футбольных функцыянераў, што стадыён у Быдгашчы — не лепшае месца ў сэнсе бяспекі для правядзення фіналу. Але да разумных довадаў не прыслухаліся.

У 2011 годзе рэакцыя польскага ўраду на беспарадкі ў Быдгашчы была вельмі рэзкай. Прэм'ер Польшчы Дональд Туск раскрытыкаваў працу польскай федэрацыі футбола і парэкамендаваў ёй, мякка кажучы, перагледзець працу з фанацкімі арганізацыямі. «У мяне ўражанне, што ў некаторых выпадках хуліганы дамінуюць у кіраўніцтве клубаў і спартыўных арганізацый», — адкрыта заявіў Туск.



Паліцыя шыхтуецца на футбольным полі

## Бітва пры Ламянках

Падзеі, падобныя на пабоішча ў Быдгашчы, на жаль, паўтараюцца досыць часта. 17 жніўня 2013 года ў прыгарадзе Варшавы горадзе Ламянкі адбыўся матч чацвёртай (!) лігі польскага чэмпіянату паміж мясцовай камандай і клубам «Палонія», якая з-за фінансавых складанасцяў «апусцілася» ў ніжэйшы дывізіён польскага чэмпіянату.

Па запрашэнні маіх добрых сяброў з варшаўскай паліцыі, а таксама з адміністрацыі Ламянак я прыехаў у прыгарад Варшавы, каб на ўласныя вочы ўбачыць, як заўзеюць за футбол у Польшчы. Аднак перад гульнёй мяне папярэдзілі: «рыхтуйся да горшага».

Мясцовыя ўлады ўлічылі памылкі папярэднікаў і пастараліся ў дзень гульні сцягнуць у горад як мага больш паліцыі. На звычайным сельскім стадыёне, які нагадвае школьную спартыўную пляцоўку, у дзень гульні сабралася каля 300 заўзятараў... «Легіі». Так, менавіта фанаты варшаўскай каманды прыехалі ў Ламянкі, каб падтрымаць мясцовы клуб. На гульню прыбылі і заўзятары «Паloніі». Тры аўтобусы, на якіх тыя прыехалі, узялі ў шчыльнае кола паліцэйскага ачаплення і пакінулі каля стадыёна. Паліцыі, сапраўды, было вельмі шмат. Акрамя звычайных мікрааўтобусаў і легкавушак, ля стадыёна дзяжурыў… грузавік-вадамёт.

Ад футбольнага поля фанатаў «Легіі» аддзяляла толькі некалькі ахоўнікаў. Не паліцыянтаў, а менавіта супрацоўнікаў аднаго з мясцовых ахоўных прадпрыемстваў. У першыя хвіліны матча «легіянеры» разгарнулі банэр, тэкст якога абражаў прыезджую каманду. Затым у гульцоў «Палоніі» паляцелі яйкі і іншыя прадметы. Пазней на поле выбег чалавек у масцы, якога прыйшлося доўга «ўгаворваць» вярнуцца на месца. На 35-й хвіліне па рашэнні суддзі матч быў спынены. Каманды пачалі сыходзіць з поля — і тут адбылося нечаканае. Фанаты «Легіі» выскачылі на поле і накіраваліся ў бок аўтобусаў, у якіх прыехалі заўзятары «Палоніі».

Відовішча, скажу я вам, страшнае. Натоўп з 300 раз'юшаных малойчыкаў, нібы статак быкоў, рухаўся ў бок апанентаў. Наблізіўшыся, фанаты пачалі кідаць петарды, фаеры і бутэлькі з-пад піва. Праз некалькі хвілін сілы паліцэйскага спецназа адціснулі заўзятараў «Легіі» на поле. Неўзабаве ў ход пайшоў слезацечны газ, а на футбольнае поле выехала машына-вадамёт. Сутыкненне з паліцыяй працягвалася каля 20 хвілін. Затым паліцэйскім удалося выцесніць фанатаў са стадыёна і рассеяць. Яшчэ хвілін сорак яны расчышчалі раён, і толькі пасля гэтага рашыліся на вываз заўзятараў «Палоніі» і самой футбольнай каманды з горада.

Навіна пра «Бітву пры Ламянках» у лічаныя хвіліны заняла першыя месцы ў стужках усіх польскіх інфармагенцтваў. І не важна, што гаворка ідзе ўсяго толькі аб чацвёртай лізе. Сітуацыя ў Ламянках з'яўляецца сімптаматычнай і практычна цалкам паўтарае падзеі 2011 года ў Быдгашчы і іншых польскіх гарадах.

## Як з гэтым змагацца?

Зараз у Польшчы дзейнічае прадпісанне аб тым, што калі паліцыя не прызнае стадыён бяспечным для правядзення масавых мерапрыемстваў, ваяводскія ўлады абавязаны зачыніць яго для гледачоў. Гэта значыць, матч будзе праходзіць пры пустых трыбунах. Некаторыя польскія чыноўнікі выступаюць за забарону выезду фанатаў на гасцявыя матчы. Іншыя выказваюцца за тое, каб забараніць заўзятарам закрываць твар шалікам або капюшонам.

Меркаванні з нагоды таго, што рабіць з футбольнымі фанатамі, разыходзяцца. Усё, безумоўна, крытычна ставяцца да дзейнасці псеўдазаўзятараў. Але... пэўная частка польскага грамадства лічыць, што такія жорсткія меры, як закрыццё стадыёнаў для гледачоў, не спрацуюць на патрэбны вынік. Гэта, па-першае, б'е па інтарэсах звычайных заўзятараў, якія пазбаўляюцца магчымасці падтрымліваць любімыя каманды. Па-другое, страты нясуць і ўладальнікі клубаў, якія інвестуюць уласныя грошы ў развіццё сваіх «няпрофільных актываў».

Безумоўна, для вырашэння гэтай праблемы трэба выбудаваць заканадаўчы інструментар. Трэба дакладна сфармуляваць не толькі меры пакарання для псеўдазаўзятараў, але і прапісаць абавязкі арганізатараў спартыўных мерапрыемстваў.

На думку многіх палякаў, адзіным спосабам барацьбы супраць агрэсіўнага фанацкага руху ў Польшчы павінны стаць высокія штрафы і турэмнае зняволенне за парушэнне правілаў паводзінаў на стадыёнах.

На адным з польскіх спартыўных форумаў я прачытаў наступнае: «Калі б штраф за хуліганства на футбольных матчах быў бы 20 000 злотых (каля 5 тысяч еўра), то колькасць псеўдазаўзятараў хутка б зменшылася. Няма чаго з імі далікатнічаць. Такіх трэба судзіць і караць».

Безумоўна, пакідае жадаць лепшага і сістэма бяспекі на стадыёнах. На жаль, зараз паліцыя да апошняй хвіліны чакае моманту, калі фанаты пяройдуць мяжу дазволенага, і не ўмешваецца на ранняй стадыі праявы агрэсіі. Увогуле, праблема не з лёгкіх, і ад яе вырашэння залежыць прэстыж Польшчы ў цэлым і рэнамэ польскага футбола ў прыватнасці. Ды і не толькі польскага. Глабалізацыя фанацкага руху, прычым у яго агрэсіўных формах, сталася відавочнай.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### МЕКСІКА. МАБІЛЬНІК ВЫРАТУЕ ІНДЗЕЙЦАЎ

Правадыры індзейцаў у мексіканскім рэгіёне Talea de Castro прыдумалі, як супрацьстаяць хвалі асіміляцыі з боку іспанамоўных. Яны заснавалі сваю мабільную тэлефонную кампанію «Solo Telcel respondio». Зона пакрыцця антэнаў новай кампаніі невялікая. Па падліках эканамістаў, у лепшым выпадку, яе абанентамі могуць стаць не больш за 2 500 чалавек (менавіта столькі дарослых жывуць у камуне). Аднак уладальнікам «Solo Telcel respondio» больш і не трэба. Галоўная ідэя палягае ў тым, каб тубыльцы размаўлялі як можна больш паміж сабой і такім чынам падтрымлівалі сваю ідэнтыфікацыю. Між тым, бізнэсоўцы лічаць, што першы ў Мексіцы прыклад камунальнага мабільнага сеціва можа быць вельмі прываблівы. У перспектыве шматлікія муніцыпалітэты могуць таксама заснаваць свае кампаніі мабільных аператараў.

**Паводле іспанскай прэсы**

### МАЛДОВА. ГАГАУЗІЯ ЗБІРАЕЦЦА Ў МЫТНЫ САЮЗ

Народныя Зборы Гагаузіі (галоўны заканадаўчы орган гагаўзскай аўтаноміі) вырашылі пачаць «народнае абмеркаванне» наконт магчымага выхаду краю са складу Малдовы. Неабходнасць такога абмеркавання тлумачыцца ініцыятарамі абмеркаванняў ціскам з боку Кішынёва, дзе пры ўладзе цяпер знаходзіцца прарумынскі нацыяналістычны ўрад. Апошні, на думку гагаузаў, рэгулярна парушае закон аб аўтаномным статусе краю. На першым этапе ідэю сепарацыі Гагаузіі, адпаведна рашэнню Збораў, павінны абмяркоўваюць мясцовыя дэпутаты. Пасля да абмеркавання наконт суверэнітэту плануецца падключыць простых грамадзян, якія ў фармаце лакальных збораў выкажуць сваю думку. Тое, што простыя гагаузы прагаласуюць за правы Гагаузіі на самастойнасць, няма сумневаў. Цікава, што на павестку народных дэбатаў вынесены не толькі праект выхаду Гагаузіі са складу Малдовы, аднак таксама магчымы ўваход Гагаузіі ў склад Мытнага Саюзу. Як гэта можа адбыцца на практыцы, цяжка ўявіць. З улікам гэтага моманту, усё нагадвае кампанію палітычнага ціску на афіцыйны Кішынёў.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### ЗША. ХОБІТЫ БЫЛІ ЯЎРЭЯМІ

Так лічыць бостанскі праграміст Бары Галдштэйн, які праз кампутар апрацаваў усе выразы і словы, звязаныя з мовай хобітаў у казачным эпасе «Уладар пярсцёнкаў». Вынік даследавання праграміста — Толкіен (аўтар «Уладара пярсцёнкаў») падчас стварэння мовы хобітаў выкарыстоўваў нормы мовы ідыш. Увогуле, для таго, каб давесці свой тэзіс, Галдштэйну давялося апрацаваць каля 92 тысяч слоў з трылогіі Толкіена. Тое, што Толкіен ведаў пра



ідыш, цалкам зразумела з улікам таго, што да вайны гэта мова была вельмі пашыраная ў Еўропе. На ёй размаўлялі каля 10 мільёнаў чалавек. Цяпер колькасць носьбітаў ідыш ва ўсім свеце скарацілася да мільёна. Увогуле, гэта толькі пачатак даследаванняў Галдштэйна. Цяпер ён абяцае знайсці элементы ідыш у выказваннях іншага вядомага казачнага героя — Віні-Пыха.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ ПАД ЧЭШСКІМ ТРЫКАЛОРАМ

Рэкламная кампанія саміту «Вялікай двацаткі» (G20) у Пецярбургу пачалася з гучнага канфузу. Пільныя блогеры заўважылі, што на вымпелах, якія рэкламуюць G20, замест расійскага трыкалору красуецца сцяг пратэктарату Багеміі і Маравіі часоў фашысцкай акупацыі. Такі пратэктарат існаваў на месцы Чэхіі пасля ліквідацыі Чэхаславацкай рэспублікі ў 1938 годзе. Лагатып саміту на вымпелах, што рэкламуюць форум, які, па ідэі, павінен быў быць выканаsucceeded на фоне расійскага трыкалору, на справе грунтаваўся на зусім іншай гаме. У прыватнасці, чырвоная паласа апынулася не ўнізе сцяга, а ў цэнтры. Яна памянялася месцамі з сіняй. Між тым, бела-чырвона-сіняя гама ў часы фашысцкай акупацыі была знакам пратэктарату Багеміі і Маравіі. Праўда, канфузы з расійскім трыкалорам здараюцца даволі часта. У Дзень Расіі, 12 чэрвеня, людзі заўважылі, што на адным з будынкаў расійскія сцягі вывешаны дагары нагамі.

**Паводле расійская прэсы**

▸ АГЛЯД

# БАЎМГЕРТНЕР: КУПЛЯЕМ ПОП-КОРН, ЧАКАЕМ ПРАЦЯГУ!

*Алег НОВІКАЎ*

**Арышт Баўмгертнера стаў заўважнай падзеяй для расійскіх інтэрнэт-форумаў. Прапануем агляд выказванняў блогераў і каментатараў суседняй краіны наконт справы БКК**

Паколькі Расія — краіна з алігархічным тыпам эканомікі, арышт аднаго з чальцоў алігархічнага клубу лагічна выклікаў прыступ эйфарыі ў звычайных людзей. Пры гэтым шмат хто з іх выказвае падзяку АГЛ. Там і сям у рунэце можна наткнуцца на такія пасажы: «Бацька — малайчына, што хоць аднаго пасадзіў». «Зараз Пуцін можа сваіх алігархаў не садзіць, а ў камандзіроўкі ў Мінск адпраўляць», «Душы гадаў, Бацька!», «Прыгажун, Лукаш! Відаць, у Расіі такое пакуль немагчыма зрабіць».

Трактоўка канфлікту мала адрозніваецца ад матэрыялаў беларускіх афіцыйных СМІ. «І вось калійныя алігархі з РФ прынялі выводзіць сродкі з БКК у свае структуры, замыкаць на сябе тыя плыні калійных угнаенняў, што ішлі з Беларусі, фактычна падрываючы эканоміку рэспублікі (карысталіся яе крызісам). Мэта — прымусіць Лукашэнку прадаць «Беларуськалій», для пачатку разарыўшы яго і тарпедаваўшы эканоміку рэспублікі. І тады Аляксандр Лукашэнка зрабіў удар у адказ», — тлумачыць сэнс таго , што адбываецца, нехта Караваеў.

Арышт Баўмгертнера вельмі спадабаўся і блогерам Украіны, дзе тэма алігархаў таксама вельмі балючая. На форуме кіеўскай газеты «Сегодня» можна прачытаць: «Я лічу, гэты прыклад варта пераймаць. Трэба запрасіць Анішчанку ў Кіеў, няхай растлумачыць нам наконт бензапірэну ў цукерках».

Ёсць і тыя, хто мае на вязне «амерыканкі» уласны зуб. Напрыклад, нехта Алег Трацякоў з Уралу піша: «Гэты (Баўмгертнер) увесь мой родны горад падарваў, калі Керымаў купіў «Уралкалій» і яго паставіў дырэктарам. Карацей, зараз на прадпрыемствах гэтай кампаніі — як у зоне. Ніхто не пікне, бо прадпрыемства горадаўтваральнае: звольняць — куды пойдзеш? Яны як рабы там усё. Прыгонныя».

Зноў у Расіі завялі старую кружэлку пад назвай «Нам бы такога Бацьку». «Гэта вам не мляви Пуцін, пры якім алігархі і вышэйшыя саноўнікі РФ могуць паскудзіць зусім бяскарна. Гэта глыбока заканамерна. Канфлікт злодзейскага РФ-каланіялізму і беларускага нацыянальнага прагматызму быў непазбежны», — піша той жа Караваеў.

Некаторыя спадзяюцца, што арышт Баўмгертнера можа надаць новае дыханне працэсу будаўніцтва саюзнай дзяржавы: «Справу БКК цалкам можна разглядаць як частку антыкарупцыйнай кампаніі, якая разгортваецца і ў Беларусі, і ў Расіі. Алігархі, якія дзейнічалі ў вузкіх карпаратыўных і асабістых інтарэсах за кошт інтарэсаў Беларусі і Расіі, павінны панесці пакаранне. (...) Сама ж справа БКК можа і павінна быць выкарыстаная як падстава для перазагрузкі беларуска-расійскіх адносін. На павестцы дня павінна быць Саюзная дзяржава 2.0, як новая, лідарская мадэль узаемаадносін Беларусі і Расіі, што задае тон і выступае лакаматывам у еўразійскай інтэграцыі».

Аднак ёсць думка, што, хутчэй, арышт Баўмгертнера пахавае ўсю славянскую інтэграцыю.

Блогер Сіманаў адзначае: «Лёс аднаго чалавека часта ўплывае на працэсы гістарычнага маштабу. Усё роўна, што за гэтым стаяць (ці не стаяць) працэсы значна больш глыбінныя, але менавіта пэўны чалавек становіцца знакам зменаў. (...) Бывае так, што дробязь змяняе адносіны дзяржаў, развязвае войны і руйнуе саюзы. Такая дробязь, цалкам магчыма, здарылася напярэдадні, і зараз расійска-беларускія адносіны знаходзяцца пад пагрозай вельмі сур'ёзнага астуджэння, аж да поўнага разрыву».

Прычына для такіх прагнозаў шмат у чым звязаная з саркастычнымі ацэнкамі шматлікімі расейцамі нерашучых паводзінаў Крамля ў справе БКК. Вось тыповыя гацца ад «Бацькі» належнага кампенсавання. Тут складана казаць пра нейкія варыянты — беларускі бок зрабіў беспрэцэдэнтна цвёрды і абсалютна неапраўданы, як уяўляецца, ход, і зараз чарга за Расіяй. Лукашэнка раптам пачаў вайну супраць дэ-факта Расіі, прычым без абвяшчэння. Калі такое будзе ў чарговы раз беларускаму лідару даравана, то трываць яго выкрутасы Крамлю прыйдзецца яшчэ вельмі доўга» (Сіманаў).

Ёсць думка, што на гэты раз усё закончыцца, як і заўсёды. Андрэй Беляўскі адзначае: «У адносінах з Еўрасаюзам Лука сваіх грамадзян у закладнікі захоплівае, а з Расіяй можа сабе дазволіць і яе алігархаў захопліваць, усё адно вырвуцца». «Маскве разрыў з Мінскам невыгодны, да таго ж затрыманне гендырэктара расійскай кампаніі добра ўпісваецца ў правілы вядзення бізнэсу, прынятыя ў самой Расіі», — лічыць Mitenkov.

Шмат каго ўразіла тое, што прэм'ер Беларусі фактычна заманіў рускага ў пастку, даслаўшы яму асабістае запрашэнне на размову, фіналам якой фактычна стаў прывод у Амерыканку. Гэта выклікала хвалю чалавечага эмацыйнага абурэння. «Бульбашы зусім азвярэлі, нават шкада гэтага Баўмгертнера, развялі, як школьніка» (Улад Заяц).

Некаторыя намагаюцца разглядаць амаральныя паводзіны беларускіх уладаў у больш глабальным свеце. Так, блогер 999allan999 канстатуе: «Я шакаваны дзейнасцю некаторых нашых

**Складана казаць пра варыянты — беларускі бок зрабіў неапраўданы ход, і зараз чарга за Расіяй. Лукашэнка раптам пачаў вайну супраць Расіі, прычым без абвяшчэння**

каментары такога кшталту: «Расія ўяўляе сябе вялікай дзяржавай, але не можа прыструніць нават Беларусь. Затрыманне ў Беларусі кіраўніка «Уралкалію» — не першы канфлікт Лукашэнкі з расійскай элітай, і ні разу апошняя не здолела паставіць беларускага прэзідэнта на месца» (блогер #Orange). Каментатар Зорге піша: «А прыкольна, як грозная расійская ўлада з усімі сваімі СК, ФСО і ФСБ баіцца, варта ёй толькі сур'ёзна казу паказаць».

Адсюль робяцца вельмі ваяўнічыя высновы: «Па сутнасці, «сюрпрыз для Баўмгертнера» з'яўляецца сур'ёзнай праверкай не толькі для беларускага прэзідэнта, але і для Расіі. Уменне адстойваць інтарэсы ўласнага бізнэсу і ўласных грамадзян за мяжой — гэта прыкмета заможнасці дзяржавы, прыкмета таго, што яна гатова браць на сябе адказнасць у далікатных сітуацыях. Нават калі Баўмгертнер вінаваты ў тым, у чым яго вінавацяць, то Расія ўсё адно павінна ўсімі праўдамі і няпраўдамі выцягваць яго з гэтага становішча. А потым яшчэ і дама-

«братэрскіх» рэспублік. Бацька пакуе Баўмгертнера, генеральнага дырэктара кампаніі «Уралкалій». Увогуле, вар'яцтва нейкае. Падобна, з развалам саюзу ўсе былыя «малодшыя браты» імкліва коцяцца кудысьці ўніз, да дэградацыі і сярэднявечча». А вось думка нейкага «Самастоятельного»: «Не трэба было выкупляць беларускія прадпрыемствы за бесцэнь у чалавека, які кідае народ. Самі вінаватыя, таварышы імперыялісты. Бізнэс можна рабіць нават з людаедамі, як казалі амерыканцы, але не з такім чалавекам».

Падводзячы вынік агляду погляду на справу БКК, трэба выдзеліць яшчэ адну заўважную частку расійскіх інтэрнэт-каментатараў. Гэта людзі, якім глыбока фіялетавыя як праблемы беларускай, так і расійскай эліты, не кажучы пра лёсы Саюзнай дзяржавы і славянскай цывілізацыі. Яны бачаць у тым, што адбываецца, толькі фрагмент непрадказальнага шоу. «Так, грубавата, вядома. Але цікава, што ж будзе далей... Купляем поп-корн і чакаем», — піша блогер Стас.

МЕРКАВАННЕ

# У СІРЫІ ІДЗЕ ВАЙНА ПАМІЖ ЗША І РАСІЯЙ

**Пра тое, што думаюць самі сірыйцы наконт падзей на сваёй радзіме, журналіст НЧ Алег Новікаў спытаў у Халіда Аміра — аднаго з лідараў сірыйскай грамады ў Адэсе.**



***— Што, на вашу думку, адбываецца ў Сірыі?***

— У Сірыі паўтараецца лівійскі сцэнар з той розніцай, што апазіцыя не здолела на першай фазе паўстання замацавацца на нейкім плацдарме і стварыць сапраўдны фронт. Сірыйскі супраціў, які фармуецца за кошт замежных баевікоў, робіць стаўку на розныя дыверсіі, накшталт разбурэння інфраструктуры, тэракты. Мэта такой тактыкі — дэстабілізаваць сітуацыю да такога ўзроўню, калі была б неабходна вонкавая інтэрвенцыя для папярэджання гуманітарнай катастрофы.

***— Нашто замежным баевікам патрэбная Сірыя?***

— Сапраўдная прычына канфлікту — праект газаправоду з Катару ў Еўропу. Катар — адзін з самых вялікіх імпарцёраў газу, які дастаўляюць у Еўропу на танкерах у звадкаваным выглядзе. Усе транзітныя краіны рэгіёну далі згоду на будаўніцтва газаправоду. За выключэннем Сірыі, якая, традыцыйна, вельмі залежыць ад Расіі. Масква супраць газаправоду з Катару, паколькі праект у выпадку рэалізацыі падрывае дамінаванне расійскіх карпарацый на еўрапейскім рынку энерганосьбітаў.

Доўгі час арабскія шэйхі спрабавалі пераканаць Расію. Яны былі гатовыя гарантаваць Асаду далейшае знаходжанне пры ўладзе, набыць у Расіі зброю аж на 15 мільярдаў і інш. Аднак Пуцін разумее, што катарскі газ у Еўропе паставіць крыж на яго амбіцыях адраджэння звышдзяржавы. Пачаўся канфлікт. Сітуацыя перайшла ў плоскасць, калі ў сірыйскага прэзідэнта такая альтэрнатыва: або ён бяжыць з краіны, або змагаецца, руйнуючы сваю адміністратыўную і гаспадарчую сістэму. Здаецца, што, не маючы волі аспрэчыць пазіцыю Масквы, Башар Асад будзе змагацца да апошняга патрона.

***— Спонсары сірыйскага супраціву — арабскія шэйхі?***

— Дачыненне мае і амерыканская энергакампанія «Exxon», дарэчы, найбольшы бенефіцыяр іракскай кампаніі. Пасля падзення рэжыму Хусейна, новы іракскі ўрад аддаў карпарацыі манапольнае права 50 гадоў распрацоўваць нафтавыя запасы Іраку. Катарскай газавай кампаніі належаць каля 30 працэнтаў «Exxon». Іншымі словамі, праект газаправоду Катар — Еўропа звязаны з Белым домам. У Вашынгтоне таксама не ў захапленні ад развіцця сірыйска-іранскага супрацоўніцтва ў галіне ракетнай вытворчасці. Увогуле, спроба стварэння ў любой арабскай краіне сваёй індустрыяльнай базы вельмі пужае Захад. Не выпадкова, гістарычны паварот Егіпта ад СССР у бок ЗША ў 1970-я гады суправаджаўся разбурэннем інфраструктуры, якую егіпцяне пабудавалі з дапамогай Масквы.

***— Цяжка ўявіць, што купка наёмнікаў здольная дэстабілізаваць краіну...***

— Па-першае, не купка. Называецца лічба да ста тысяч чалавек. І гэта не так цяжка зрабіць, як вам падаецца. У якасці прыкладу возьмем Адэсу. Калі заблакіраваць на тыдзень галоўныя выхады з гораду, дакладна пачнуцца паніка сярод гараджан і крызіс камунальнай гаспадаркі. Калі працы няма, людзі самі гатовыя ісці ў наёмнікі. Акрамя таго, стаўка рабілася спачатку на правакацыі ў бедных мясцовасцях, дзе жадаючых узяць у рукі зброю было шмат. Галоўнае — стварыць ілюзію, што сапраўды пачаўся хуткі абвал рэжыму. Вялікую ролю тут згулялі спадарожнікавыя каналы з арабскіх краін. Такім чынам, узнікла крытычная маса незадаволеных, якая дала імпульс антыўрадавым акцыям.

***— Няўжо антыўрадавыя пратэсты выключна штучныя і справакаваныя? Відавочна, што супярэчнасці ў Сірыі таксама прысутнічалі.***

— Асад і яго палітычны лад не былі ідэальнымі. Перш за ўсё, гэта тычыцца палітычнай сферы. Па закону, забаранялася крытыкаваць прэзідэнта. Акрамя таго, у сярэдзіне 1970-х бацька цяперашняга прэзідэнта заключыў пакт з буржуазіяй, дазволіўшы ёй займаць пасады ў афіцыйнай партыі «Баас». Гэта выклікала карупцыю і ідэйную эрозію ўнутры партыі. Хутка пачалося тое, што было ў вас у часы Брэжнева. Маладыя людзі ішлі ў «Баас» выключна таму, што гэта давала ім больш шансаў, напрыклад, пры паступленні ў ВНУ. Не падабалася людзям і засілле спецслужбаў. Але гэтыя праблемы не значылі крызіс легітымнасці рэжыму Асаду. Эканамічны стан у Сірыі быў дастаткова някепскі. Прынамсі, лепшы, чым у суседнім Егіпце.

***— Да прычынаў пратэстаў у Сірыі адносяць і той факт, што Асад і яго атачэнне — гэта алавіты (шыіцкая секта), а большасць жыхароў Сірыі — суніты.***

— Пра канфесійныя прыналежнасці пачалі казаць не так даўно. Раней гэта тэма нікога не цікавіла. Алавітаў шмат сярод сілавікоў. Гэтую кадравую палітыку заклаў бацька Башара, які, як алавіт, хацеў аддданасці ад атачэння. Аднак у іншых сферах перавагі алавітаў няма. Напрыклад, жонка ў Асада — сунітка.

***— Асад у барацьбе з апазіцыяй прыцягнуў на свой бок курдаў. Ці значыць, што на мапе Сірыі можа, як і ў Іраку, з'явіцца курдская аўтаномія?***

— Курдскія вайсковыя часткі, дзейнічаючы ў кантакце з сірыйскай дзяржаўнай арміяй, сапраўды, узялі пад кантроль частку тэрыторыі на поўначы краіны. Аднак я не вялікі прыхільнік такой каапераці. Відавочна, што наступным крокам з боку курдаў стане патрабаванне палітычнай аўтаноміі. Між тым, сірыйскае грамадства да такой аўтаноміі не гатовае. Максімум, на што могуць пагадзіцца эліты ў Дамаску, — гэта курдская культурная і моўная аўтаномія. Гэта складае глебу для канфлікту ў будучыні і магчымасць паўтарэння іракскага сцэнару, дзе курды падтрымалі заходнюю вайсковую інтэрвенцыю, каб Ірак стаў дэфакта федэрацыяй.

***— Доўг час лічылася, што Ізраіль і Сірыя, нягледзячы на знешнюю ўзаемную агрэсіўную рыторыку, на самай справе някепска сябруюць. Аднак цяпер Тэль-Авіў нечакана падтрымлівае сірыйскую апазіцыю, сярод якой таксама шмат людзей з Аль-Каіды.***

— Аль-Каіда — не такі небяспечны для Ізраіля праціўнік, як ліванская партыя «Хезбалах», якая фінансуецца Дамаскам. Вайна 2008 года, калі «Хезбалах» абстрэльваў ракетамі нават раёны ў цэнтры Тэль-Авіву, давяла, што Ізраіль практычна бяссільны перад гэтай мілітарнай радыкальнай групоўкай.

***— Чым скончыцца сірыйская грамадзянская вайна?***

— Трагедыя ў тым, што ў вайне ў Сірыі пераможцаў не будзе, паколькі пакутуе перш за ўсё сірыйскі народ. Улады кожны момант могуць з'ехаць у Іран, а апазіцыянеры і так сядзяць у дарагіх гатэлях у Турцыі. На тэрыторыі Сірыі ідзе вайна паміж Расіяй і ЗША. Пакуль Масква і Вашынгтон не дамовяцца, сірыйцы будуць пакутаваць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АЛІСІЯ КАСТРА



Дэпутат парламента Аргенціны, блізкая сяброўка аргенцінскага прэзідэнта Крысціны Кіршнер, яшчэ больш пагоршыла і так далёка не ідэальны стан адносін Аргенціны і Вялікабрытаніі, якія, як вядома, не могуць падзяліць Фалькленскія (Мальвінскі) архіпелаг. Выступаючы на пасяджэнні парламенцкага камітэта па міжнародных справах, сеньёра Кастра адкрытым тэкстам назвала брытанскага прэм'ера Дэвіда Кэмерана «дурнем», бо ён не прыслухаўся да слоў цяперашняга Рымскага Папы. Апошні ў 2012 годзе, займаючы на той час пасаду аргенцінскага кардынала, назваў Фальклэнды «акупаванымі». Не так даўно той выраз кардынала нагадалі Кэмерану, аднак ён іх дэманстратыўна праігнараваў, што і выклікала гнеў з боку Кастра. Як і трэба было чакаць, абразы Кастра не спадабаліся Лондану. Асабліва абурaецца мясцовая жоўтая прэса, якія патрабуе ад Буэнас-Айрэса прабачэння за «дурня». Каб не будзіць звера, аргенцінскае пасольства ў Лондане распяшалася заявіць, што словы Кастра пра «дурня Кэмерана» былі вырваныя журналістамі з агульнага кантэксту.

### БАХАДЫР ЧАРЫЕЎ



Лідар узбекскага апазіцыйнага Народна-дэмакратычнага руху «Бірдамлік», які жыве ў ЗША, нечакана распаўсюдзіў на сваім вэб-сайце заяву пра пачатак «каляровай рэвалюцыі» ва Узбекістане. Рэвалюцыя, па яго словах, будзе складацца з трох этапаў. На першым этапе «Бірдамлік» плануе давесці інфармацыю пра планы і праграму руху да ўсіх грамадзян Узбекістана. Другі этап прадугледжвае правядзенне ў абласцях і раёнах краіны агітацыйнай работы «па пераводу дзяржаўных службоўцаў у структуры народнага кіравання». На трэцім этапе «Бірдамлік» плануе сфармаваць часовы ўрад, на які будзе ўскладзена адказнасць па спыненні анархіі, за ажыццяўленне рэформаў, рэгістрацыю партый, правядзенне выбараў і г.д. Пры гэтым «Бірдамлік», як падкрэслівае Чарыеў, заклікае насельніцтва да барацьбы негвалтоўнымі метадамі. Праўда, чамусьці Чарыеў не сказаў, у які дзень дакладна пачнецца першы этап той самай рэвалюцыі. Выступ Чарыева, які вядомы выключна як эміграцыйны палітык, мала хто зразумеў. Эксперты не надта вераць у здольнасць руху «Бірдамлік» нават правесці інфармацыйную кампанію. Аднак наўрад ці заява Бахадыра прагучала проста так. Ёсць версія, што Чарыеў нешта даведаўся пра кепскі стан здароўя прэзідэнта Карымава і хоча першым з апазіцыянераў заявіць пра сябе напярэдадні палітычнага хаосу, які можа выклікаць смерць гаранта.

### РОБЕРТ МУГАБЭ

Нядаўна абраны ў сёмы раз прэзідэнтам Зімбабве, нягледзячы на салідны ўзрост (89 гадоў), Мугабэ актыўна пачаў сваю чарговую кадэнцыю. Выступаючы на пахаванні аднаго з ветэранаў нацыянальна-вызвольнай вайны, ён заявіў пра намер увесці эканамічныя санкцыі супраць ЕС і ЗША. Такія санкцыі, на яго думку, будуць парытэтным адказам на рэжым санкцый, якія былі ўведзеныя супраць рэжыму Мугабэ за парушэнне правоў чалавека яшчэ ў 2002 годзе. «Калі нехта б'е мяне, я пачынаю біць яго. Вы ўводзіце санкцыі супраць мяне. У адказ я ўводжу санкцыі супраць вас», — растлумачыў гарант сваю палітыку. З улікам таго, што Зімбабве — адна з самых бедных краін у свеце, словы Мугабэ пра санкцыі трэба разумець спецыфічна. Усё, відавочна, абмяжуецца чарговым пераглядам прававога рэжыму амерыканскіх і англійскіх кампаній, якія працуюць у краіне. Праўда, цяжка зразумець, што яшчэ Мугабэ можа прыдумаць у гэтай сферы. Раней філіялы вядучых замежных прадпрыемстваў — Impala Platinum і Anglo American Corporation's Unki — і так прымусілі прадаць мясцовым бізнэсоўцам большасць акцый. Наступным лагічным крокам можа быць толькі нацыяналізацыя, што наўрад ці патрэбна ўраду. Таму большасць экспертаў лічаць, што словы Мугабэ пра санкцыі супраць ЕС і ЗША — эмацыйная рэакцыя на рашэнне не прызнаваць апошнія прэзідэнцкія выбары ў Зімбабве празрыстымі і дэмакратычнымі.



ПЕСНЯ І ПАЛІТЫКА



Фота www.gdb.ferl.org

# ВІКТАР ШАЛКЕВІЧ: ІНТЭЛЕКТУАЛ З ГІТАРАЙ

Юрка КОПЦІК

**Шалкевіч з'явіўся на сцэне беларускай аўтарскай песні ў пачатку 1990-х, і адразу заняў прыкметнае месца. Ён не быў першы, хто ўзяўся за тэму гістарычнай памяці і нацыянальнай самаідэнтычнасці. Але мала хто тады, дый сёння, меў такое аб'ёмнае бачанне нашай гісторыі і ўмеў гэтак дасціпна пазначыць найбольш болевыя кропкі сучаснасці.**

Упершыню я пабачыў яго ў 1992 годзе на фэсце «Аршанская бітва–92» на Крапіўне. Ужо тады ён быў адзіны, хто паставіў умову, каб яму аплацілі праезд. Ого, — падумалася тады, — гэты ведае сабе кошт! Ён і сёння адзін з вельмі нешматлікіх выканаўцаў аўтарскай песні, хто ў нас спрабуе жыць (і, кажуць, небеспаспяхова) сваім талентам. І гэта пры поўным ігнараванні яго беларускім тэлебачаннем і адсутнасці ў FM-эфіры.

Не менш імпазантна ён тады выглядаў: сярод паходных паддзёвак і джынсаў ягоны класічны гарнітур з белай кашуляй і гальштукам адразу кідаўся ў вочы. Шляхетнасць у паводзінах і выглядзе падабалася. Не менш шляхетныя былі ў яго і песні. Строга кажучы, патэнцыял тых песень быў настолькі высокі, што ён мог бы не пісаць больш наогул нічога. Напісанага тады ўжо хапала для таго, каб застацца ў гісторыі беларускай аўтарскай песні.

Там было ўсё: і незласлівая ўсмешка, і вострая сатыра, і гістарычная замалёўка, і роздум неабыякавага да лёсу краіны і нацыі чалавека. І ўсё нязменна прыпраўленае ладнай доляй гумару. «Ня пі, сынок, віна азербайджанскага агдаму, / Хай яго п'юць азербайджанцы самі, гультаі, лапцаі! / Ня пі, свіння, маскоўскае гарэлкі — слухай тату і маму! / А калі будзе кепска, то нашае палескай сапраўднай самагонкі глытані» («Ня пі, сынок!»). Я не ведаю, хто яшчэ з такім гумарам, з такой дасціпнасцю і любасцю сказаў бы пра нас! У «Вызваленчым блюзе» па-майстэрску сцісла была сфармуляваная сутнасць усёй левай ідэі ў ейным расійска-бальшавіцкім варыянце: «Вольнасць, хлеб і праца, / Роўнасць, еднасць і братэрства / Для малых, прыгнечаных людзей! / Мы ўсю Еўропу запаскудзім, / у рот ёй трэска, / сіфілісам велічных ідэй!»

Дык і запаскудзілі ж, і не толькі Еўропу. А кпіны з беларускага рок-н-ролу можна цалкам спраектаваць (з пэўнымі агаворкамі) і на сённяшнюю нацыянальную рок-сцэну:

«Яны не мыюцца, гарэлку п'юць, / І брудна лаюцца, і матам гнуць, / І па-расейску размаўляюць між сабой. / А гэтак званы беларускі рок / Я не пусціў бы нават у хату на парог — / Я не люблю дурных і бедных, Божа ж мой!» («Балада пра пастуха Аўласа»).

Але самы вялікі розгалас і нават палеміку тады выклікала ягоная «Добрай раніцы, жлобская нацыя!». Некаторыя радкі цяпер слухаюцца амаль як класіка: «Сабака на ганку залізвае раны, / Лёс нацыі просты і наканаваны». «А хто там ідзе?» Пазнаюць нас адразу: / Дзе мы — там вішчыць і аж курыцца пыл». А галоўнае — які прыпеў: «Добрай раніцы, жлобская нацыя! / Сонца ўзыходзіць лупатае. / Добрай раніцы, жлобская нацыя! / А ніхто дурную не сватае. / Добрай раніцы, жлобская нацыя! / Расцвіла ў парку акацыя. / Добрай раніцы, жлобская нацыя! / Вераб'і ў калюзе купаюцца...»

Амаль адразу ў правых колах нацыянальнай інтэлігенцыі ўзнікла нібыта палеміка, сэнс якой можна выказаць так: Шалкевіч — не беларус, таму ён не мае права гаварыць пра беларусаў такія рэчы. На што сёння мушу адказаць: Шалкевіч у тысячу разоў большы беларус, чым многія нашы стоадсоткавыя беларусы, таму што не стаў паўтараць зашмальцаваныя штампы пра памяркоўных і гасцінных беларусаў ці займацца эстэцтвам пад выглядам высокай паэзіі, а смела павярнуў люстра са сцэны прама ў залу і даў нам пабачыць сябе такімі, якімі мы насамрэч сёння і ёсць. Калі ўжо ніхто са «стоадсоткавых» не знайшоў у сабе смеласць на гэта.

Можа, якраз гэтага — жорсткага, цвярозага быкаўскага погляду на нас саміх — нам усім сёння больш за ўсё і не хапае. Ёсць адзін вельмі вядомы выканаўца, які на сваіх канцэртах часцяком какетліва падае сваё крэда так: калі мяне пытаюцца: «Почему вы не исполняете песен протеста?», я адказваю — ні пра цеста, ні пра дрожджы, ні пра цукар я не спяваю. Дык вось: гэта і ёсць самая сапраўдная песня пратэсту. А многія з тых, хто пад гітару сёння выдае са сцэны нібыта высокую паэзію, але пры ўважлівым поглядзе не асвечаную ані яскай таленту і натхнення, насамрэч якраз і спяваюць пра цеста з дражджамі і цукрам.

Віктар Шалкевіч ніколі не спяваў пра цеста. Не валодаючы гітарай на дастатковым узроўні, ён не стаў стругаць адзін пасрэдна запісаны гітарны цыкл за адным, а паспрабаваў запісацца з добрым інструментальным гуртом. І выйшла зусім не блага.

У ягоных песнях раз-пораз малююцца краявіды Гародні, любові да якой ён і не хавае. Ды і мова ягоных песняў, насычаная тамтэйшымі паланізмамі, беспамылкова выдае ў ім ураджэнца Гродзеншчыны. Касцёл Казіміра ў яго менавіта «гжэчны», а вераб'і купаюцца не ў лужыне, а ў незразумелай для ўсходняга беларуса калюзе.

Свет вобразаў ягоных песень шырокі і разнастайны. Не ведаю нічога больш напоўненага святлом надзеі на лепшае заўтра, чым фантасмагарычны «Блюз Вясна»: «Нехта ў радыё пачуў, / хтосць на ўласныя вочы ўгледзеў, / Але не паверыў: / З Заходняй Еўропы ішла да нас / лёгкім крокам Вясна. / Яе прыкметы ўсе добра ведалі, / яе з самага ранку чакалі / людзі і міліцыянты з сабакамі, / вайскоўцы ўсіх масцей. / Яна ішла, услед ёй несліся апладысменты / і аўтаматныя чэргі гучалі, / у адказ яна толькі смяялася... / і ішла далей. / Па гарадах і мястэчках горлы драў / ля гандэлкаў і крамаў / тлум нябожчыкаў і ідыётаў, / што не існуе ў свеце такое пары. / Яны шчэрылі зубы, ірвалі сцягі, / і махалі спадніцамі, знятымі з плоту. / Яны сонца хацелі спыніць і назад павярнуць, / яны палілі календары. / Ішла прыгожая дзяўчынка / ў вышытай шоўкам сукенцы. / Роты аўтаматчыкаў хаваліся па завуголлях, / стаялі, чакалі — дзе яна? / Загараліся белым полымем яблыні, вішні... / Расцвіталі надзеі людскія ў сэрцы... / Хто б у яе ні страляў, ні брахаў на яе з-за трыбуны — / Была, ёсць і будзе Вясна!»

Перапрашаю за амаль поўнае цытаванне, але як дакладна схоплена духоўная атмасфера ў нашай краіне! Яшчэ большую кампазіцыйную выразнасць надае выдатнае аранжаванне інструментальнага суправаджэння, чаго практычна немагчыма дабіцца ў класічным гітарным суправаджэнні.

Ягоны памфлет пра таварыша Сапегу стаўся, бадай, ці не самым здзеклівым з усіх вядомых мне, дзе знаёмы ўсім персанаж пазнаецца адразу. А які лірычны шэдэўр — самотны аповед пра бедную Касю, якая «на Брукліне забаўляе жыдоўскіх дзяцей»! Ды не столькі пра Касю, колькі пра сябе. Пра Бруклін Шалкевіч пэўна ведае не з газет; яго можна ўбачыць дзе заўгодна — ад Брукліна да Іркуцка. Веданне моваў дае яму ў творчасці поле для манеўра ў любым напрамку, і таму ў нас бадай што ніхто не можа пахваліцца такой геаграфіяй выступаў. А шмат хто і сёння ўзгадвае Шалкевіча-аўкцыянера, бо аўкцыёны, якія ён вёў, — гэта проста выдатны спектакль. Адна з найлепшых роляў яго як акцёра.

Наогул, калі казаць пра стылістыку Шалкевіча, дык там вы пачуеце і танга, і баладу, але я не ведаю ніводнага выканаўцы аўтарскай песні, у якога было б столькі песень у такім неўласцівым аўтарскай песні стылі, як блюз. У яго — не школа Высоцкага і Візбара, як у большасці нашых выканаўцаў. У адным інтэрв'ю Віктар сказаў, што польскі аўтар Марэк Грэхута моцна паўплываў на яго сваёй творчасцю. У любым выпадку, у Шалкевіча выразна адчуваецца заходняя школа аўтарскай песні. А ягонае ўменне балансаваць на мяжы блазна і прарока ўнікальнае для сённяшняй сцэны беларускай аўтарскай песні.

А што было потым? І на гэтае пытанне ў ягоных песнях вы таксама знойдзеце адказ: «Мы крычалі, дурныя, на мітынгах, / Мы хацелі, каб зараз і ўсё, / А наступствамі гэтай палітыкі / Супынілася наша жыццё». Расчараванне ў лідарах гэтак званай «сістэмнай апазіцыі», што фактычна распісаліся ў сваёй няздатнасці, тады падкасіла многіх.

У часы нацыянальнага бесчасоўя ліра Шалкевіча не супынілася, але настрой яе яўна змяніўся. Мне не дужа падабаецца тое, што спявае Віктар цяпер. Пераважае нейкая пабытоўшчына, жанравыя замалёўкі пра жанчыну з бутэлькай піва і да таго падобнае... А на сваіх канцэртах цяпер Шалкевіч — наогул, як мала хто аматар пагаварыць — ці не больш распавядае анекдоты, чым спявае. Усё часцей яго цягне ў літаратуру, кінематограф.

Ва ўсялякім выпадку, Шалкевіч здольны на большае, здольны сур'ёзна гаварыць з намі пра сур'ёзныя рэчы. Здаецца, культуролаг Максім Жбанкоў неяк назваў Шалкевіча страчаным героем беларускай культуры. Я б азначыў яго больш сціпла: інтэлектуал з гітарай, які яшчэ не ўсё сказаў. Таму не будзем спяшацца падводзіць рысу.

ЗГАДКА

# Павел Крынчык: ВЯЗЕНЬ ДВУХ РЭЖЫМАЎ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Гэты мой артыкул прысвечаны Паўлу Крынчыку (1898–1975) і Алене Лябецкай (1903–1982) — мужу і жонцы, якія ў першай палове XX стагоддзя былі актыўнымі дзеячамі вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, актывістамі Таварыства беларускай школы, вязнямі польскіх і савецкіх лагераў.**



Павел Крынчык



Алена Лябецкая



Павел Крынчык з братам пасля збіцця паліцыяй на дэманстрацыі 2 жніўня 1929 года. Фота друкуецца ўпершыню




Плакат з фотаздымкамі дэпутатаў фракцыі «Змаганне», 1930 г.

Арганізатар і кіраўнік Народнага музея СШ №4 у Слоніме Аляксандр Жукоўскі аднойчы запрасіў Паўла Крынчыка паглядзець ягоны вялікі музей. Павел Сцяпанавіч пагадзіўся. Ён зайшоў з кіёчкам у музей і адразу пачаў разглядаць стэнды. Пад шклом аднаго з іх ён убачыў партрэт Сталіна. Нядоўга думаючы, ветэран падняў кіёк і з усяе сілы стукнуў па шкле стэнда. Шкло пасыпалася на падлогу. Крынчык падскочыў да Жукоўскага і, махаючы перад носам кійком, закрычаў: «Калі ты яшчэ раз павесіш гэтага вусатага чорта, то я цябе павешу на гэтай кульбе». Аляксандр Жукоўскі ніколі больш не вешаў партрэт Сталіна ў сваім школьным музеі, хаця ён амаль увесь быў прысвечаны Другой сусветнай вайне.

Алена Лябецкая, калі польскія паліцыянты стукалі ў дзверы Слонімскай акруговай управы ТБШ у 1928 годзе, не разгубілася. Яна паспела праглынуць некалькі папер з тэкстам лістоўкі. Калі ў пакой ТБШ уварваліся паліцыянты і пачалі вобыск, яны ўжо нічога крымінальнага знайсці не змаглі.

Павел Крынчык нарадзіўся ў вёсцы Едначы Слонімскага павета. Перад пачаткам Першай сусветнай вайны рускія казакі выгналі сям'ю Крынчыкаў у Расію. Яны заехалі ажно ў Екацярынаслаў. Там юнак паступіў у мясцовы палітэхнікум шляхоў зносін. Скончыў яго, а потым сям'я вярнулася на Бацькаўшчыну, якая ўжо была пад Польшчай.

Вярнуўшыся на Слонімшчыну, Павел Крынчык стаў адным з ініцыятараў стварэння гуртkoў Грамады, Таварыства беларускай школы і спажывецкага таварыства. У 1928 годзе ў польскі сейм былі абраны тры беларускіх дэпутаты: І. Дварчанін, І. Гаўрылік, А. Стагановіч. У лютым 1929 года замест А. Стагановіча, дэпутатам сейма стаў Павел Крынчык. У Варшаве яму ўручылі пасольскі мандат, і з сакавіка 1929 года ён быў асобай недатыкальнай. Але…

Прыехаўшы ў Вільню, беларускі дэпутат польскага сейма актыўна ўключыўся ў працу сакратарыята пасольскага клуба «Змаганне». Ён стаў плённа працаваць над скліканнем Еўрапейскага сялянскага кангрэсу ў Берліне, удзельнікам якога разам з жонкай Аленай Лябецкай быў і сам. Палымяны голас пасла гучаў тады на шматлюдных мітынгах працоўных у Дзярэчыне, Воранаве, Ашмянах, Вільні, Смаргоні, Кельцах, Карэлічах і ў іншых гарадах і мястэчках.

Нягледзячы на дэпутацкую недатыкальнасць, Паўла Крынчыка на ўсіх мітынгах абражалі і білі польскія шпікі і паліцыянты. А летам 1929 года ў Карэлічах нават паранілі стрэлам з пісталета ў галаву. Ён апамятаўся толькі тады, калі сябры клалі яго на воз, каб адвезці да доктара. Доктар дастаў з патыліцы кулю і сказаў: «Пану вельмі пашанцавала!»

З забінтаванай галавой Крынчыка адвезлі ў гасцініцу, а потым на чыгуначную станцыю Наваельня, а адтуль у Вільню. Там перабінтавалі і зрабілі здымкі. Пазней гэта фатаграфія і фатаграфіі ягоных калег-паслоў Дварчаніна, Гаўрыліка, Грэцкага з перабінтаванымі галовамі будуць змешчаны на выбарчым плакаце. Плакат заклікаў беларусаў галасаваць за спіс кандыдатаў «Змагання» ў час дадатковых выбараў у сейм, якія праходзілі вясной 1930 года ў Лідскай выбарчай акрузе. Агітацыя аказалася даволі эфектыўнай і пераканаўчай. Толькі гэта ўсё хутка скончылася.

…Паўла Крынчыка паліцыя арыштавала дома. Вальніца — у Вілейцы, Гаўрыліка — у цягніку, які ехаў у Варшаву. Іх усіх адправілі ў стэфанаўскую турму ў Вільню. У пачатку 1931 года распачаўся суд над сябрамі беларускага сялянска-рабочага пасольскага клуба «Змаганне». І. Гаўрыліку, І. Дварчаніну, Ф. Вальніцу і П. Крынчыку далі па 8 гадоў кожнаму строгага турэмнага зняволення.

Праз пэўны час у турму завітала сябра Чырвонага Крыжа СССР у Польшчы Стэфанія Семпалоўская і сустрэлася ў камеры з Крынчыкам. Спадарыня Семпалоўская паведаміла, што савецкі і польскі ўрады дамовіліся аб абмене палітзняволенымі. «У спіс палітзняволеных, якія належаць абмену, уключаны і вы, — сказала яна. — Цяпер толькі павінна быць ваша згода». Семпалоўская заявіла таксама, што Крынчык можа ўзяць з сабой усю сваю сям'ю. Крынчык пагадзіўся і папрасіў з сабой узяць жонку Алену Лябецкую.

Так Павел Крынчык і яго жонка Алена Лябецкая апынуліся ў Мінску. Там іх шчыра віталі Валянцін Таўлай і Іван Тарасюк. Быў гэта 1933 год…

Цяпер пару слоў пра Алену Лябецкую. Яна была на 5 гадоў маладзейшая за свайго мужа. Нарадзілася на хутары Лягуцева Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён). У 1910 годзе сям'я яе пераехала ў Гродна, дзе паступіла ў падрыхтоўчы клас жаночай гімназіі.

Перад пачаткам Першай сусветнай вайны іх сям'ю выгналі ў Калугу. Там дзяўчына вучылася ў жаночай гімназіі. А калі вярнуліся ў 1920 годзе на Бацькаўшчыну — актыўна ўключылася ў грамадска-вызваленчы і культурны рух у Заходняй Беларусі: стварала гурткі ТБШ, была арганізатарам і ўдзельніцай беларускіх спектакляў, канцэртаў на Слонімшчыне, Дзятлаўшчыне і Зэльвеншчыне.

З лістапада 1927 года Алена Лябецкая стала працаваць сакратаром Слонімскай акруговай управы ТБШ. Потым яе як актыўную дзяячку ТБШ забіраюць у Вільню, дзе Алена працуе ў Галоўнай управе ТБШ, загадвае беларускай бібліятэкай-чытальняй.

У лютым 1930 года Алену Лябецкую арыштоўваюць польскія ўлады і асуджаюць на 6 гадоў турмы. Але ў выніку абмену палітвязнямі яна разам з мужам трапляе ў Мінск…

Спачатку ў БССР жыццё наладжвалася някепска. Павел працаваў, а Алена вучылася на геолага-геаграфічным факультэце БДУ, працавала інструктарам у ЦК Міжнароднай арганізацыі дапамогі барацьбітам рэвалюцыі Беларусі.

Але аднойчы іх сям'ю наведалі супрацоўнікі НКУС. Спачатку 26 лістапада 1935 года арыштавалі Паўла і прыгаварылі да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў за «сувязь з разведкай буржуазнай Польшчы». А потым, восенню 1937 года, арыштавалі і Алену. Павел Крынчык быў этапаваны ў адзін з Калымскіх лагераў. А Алена Лябецкая была выслана ў адзін з лагераў Усходняй Сібіры.

На Радзіму Алена Лябецкая вярнулася ў 1947 годзе, а Павел Крынчык — у 1956-м. Яны жылі ў Слоніме, дзе і памерлі. Пасля сябе Павел Крынчык і Алена Лябецкая пакінулі невялікія ўспаміны пра барацьбу і дзейнасць у 1920–1930-х гадах у Заходняй Беларусі. Гэтыя ўспаміны друкаваліся ў кнігах «У суровыя гады падполля» (Мн., 1958), «Годы испытаний и мужества» (Мн., 1973), «Вильнюсское подполье» (Вільнюс, 1966). Пра сталінскія лагеры ўспамінаў яны не пісалі.

Неяк перад выступленнем у адной са школ Алена Канстанцінаўна Лябецкая сказала: «Мы ніколі не ішлі на гатовае, мы ўсё аддавалі справе роднай Беларусі, бо ў нас іншых шляхоў не было».



Алена Лябецкая з сябрамі ТБШ на Слонімшчыне, канец 1920-х гадоў. Фота друкуецца ўпершыню

АД ПРАДЗЕДАЎ

# ГУДЗЕЎСКІЯ ЧАЎНЫ

Алесь БЕЛАКОЗ

**Захацелася, каб памяць пра чаўны не знікла ў народзе, а таму імкнуўся зрабіць усё, што ад мяне залежала, каб захаваць чаўны ў нашым Гудзеўскім музеі.**

Дзяцінства маіх аднагодак, дый маё таксама, прайшло на рэчцы ў купанні, лаўленні рыбы, плаванні наперагонкі, у нырцах на даўжэйшы час і ў катанні на чоўне.

У маёй роднай вёсачцы Лятківі, якая цяпер злілася з Гудзевічамі, на рацэ Верацейка былі два чаўны: у Яся Сырая і ў Валодзі Янушчыка. Ясь забараняў нам, дзецям, браць човен: баяўся, каб не ўтапіліся, а Валодзя прасіў, каб човен ставілі там, дзе бралі. А пазней дзядзька Яўген нават падараваў мне каяк — байдарку. На нашай даволі глыбокай рачулцы была ўжо цэлая флатылія.

Летам, калі пасля навальніцы вада разлівалася на метраў 600–1000 і затапляла Зелянкі (так называлі прырэчную сенажаць), побач з чаўнамі ды каяком з'яўляліся «капітаны» ў балеях — вялікіх начоўках. Нават аднойчы мы з некалькіх бярвёнаў змайстравалі плыт. Божа, які гэта быў шчаслівы час! Бывала, перавернеш човен, залезеш пад яго, а ўсе думаюць, што ўтапіўся. Шукаюць, гукаюць… Праз хвілін дзесяць вынырнеш за метраў 20 ад чоўна і распавядаеш розныя жахі пра вадзяніка ды русалак.

* * *

Захацелася, каб памяць пра чаўны не знікла ў народзе, а таму імкнуўся зрабіць усё, што ад мяне залежала, каб захаваць чаўны ў нашым Гудзеўскім музеі. Мне правяраючыя казалі, што нельга набываць экспанаты не па профілі, бо ў літаратурным музеі павінны быць кнігі, а не чаўны, але дзяржаўных сродкаў на экспанаты я ніколі не траціў: іх не давалі. Або купляў за свае, або жабраваў.

Ганаруся гэтым, бо сёння амаль ніводны музей Беларусі не мае сапраўднага чоўна, толькі некаторыя, самыя багатыя, маюць фрагмент чоўна ці карыта метры на тры даўжынёй, якое зроблена спецыяльна для музея і ніколі не было на вадзе. А экскурсаводы гэтым нават ганарацца і кажуць: «Бачыце, як нам пашанцавала: мы купілі новенькі човен, якім ніхто не карыстаўся».

Лічу, што гэта абраза для велізарнай флатыліі беларускіх чаўноў, якімі ў першай палове XX стагоддзя кішэлі нашы рэкі.

* * *

Аднойчы кампазітар Яўген Петрашэвіч паведаміў мне, што ў Гродне каля тых сходаў, што вядуць ад замка да Нёмана, стаіць човен, а гаспадар прадае яго за пяць рублёў.

Звярнуўся да старшыні калгаса Міхаіла Сцяпанавіча Пронкі з просьбай дапамагчы ў транспартаванні чоўна з Гродна ў Гудзевічы. Старшыня параіў:

— Заўтра павязем жыта здаваць для дзяржавы ў Гродна, дык сядайце да шафёра ў кабіну ды прывязіце човен.

26 жніўня 1981 года каля 14 гадзін мы ўжо былі на беразе Нёмана. Гаспадар раптам павысіў цану да 25 рублёў.

Мы даказваем, што маем толькі сем рублёў, а ён жа абяцаў прадаць за пяць. Упёрся мешчанін і не саступае ні капейкі. Дабаўляе восем рублёў кампазітар Яўген Петрашэвіч. Разам даем 15 рублёў, а ён не здаецца. Сабралася шмат народу. Хтосьці з прысутных гукнуў:

— Хлопцы, што мы з імі цацкаемся! Людзі робяць святую справу, хочуць захаваць човен для наступных пакаленняў, а ён злавіў чужы човен і мучыць іх. Давайце ўкінем яго ў Нёман!

Мужчыны кінуліся да гаспадара чоўна, а ён узмаліўся:

— Людове, не кідайце ў Нёман, я плаваць не ўмею! Я аддам човен за 15 рублёў!

Я тут жа аддаў грошы, мы пагрузілі човен на машыну і ўцяклі ад гэтага чалавека.



Човен мне спадабаўся: устойлівы на вадзе, шырокі, (67 см), нос востры, карма закруглена. У пярэдняй частцы — садок для злоўленай рыбы. Даўжыня чоўна — 456 см. Гэта вельмі практычны човен. І прыгожы.

У 1985 годзе мы спусцілі гэты човен на воды Гудзеўскіх ставаў. Плавалі на ім усе, хто гэтага жадаў.

Прыйшоў да мяне малады хлопец, мой былы вучань, і кажа:

— Хачу пакатаць на чоўне сваю дзяўчыну, праз месяц жаніцца буду і вас запрашаю на вяселле.

— Дзякую, Сяргей. Віншую, жадаю шчасця! А ключ ад чоўна ў вучня Тадзіка Багдана. Плавайце, толькі асцярожны будзь, бо чаўны няўстойлівыя на вадзе. На іх нельга хістацца.

Адамкнуў Сяргейка човен, адзін раз адпіхнуўся вяслом — і тут жа перакуліўся. Катанне сарвалася.

Плаваў на гэтым чоўне спрадвечны рыбак Валодзя Янушчык. Хваліў, што човен вельмі добры і ўстойлівы на вадзе. Нават захаваліся фатаграфіі гэтага рыбака на нашым чоўне.

Цяпер, калі вучні таго часу прыходзяць са сваімі дзецьмі ў музей, то хваляцца:

— На гэтым чоўне і я калісьці плаваў!

А мы ганарымся, што маем такі прыгожы човен.

Убачыў Яўген Петрашэвіч, што мы цікавімся чаўнамі, і прапанаваў:

— У піянерскім лагеры Гродна ёсць вельмі прыгожы човен, але дырэктар надта баіцца, каб піянеры не спусцілі яго ў Нёман, бо патопяцца.

Яўген Петрашэвіч параіў дырэктару лагера аддаць човен Гудзеўскаму музею.

Дырэктар усцешыўся:

— Няхай забіраюць, толькі каб хутчэй.

Тады якраз мы пачалі рамонт музея, і паехаў я да яго аж 2 лістапада 1982 года.

Знайшлі мы стоража лагера, а ён кажа:

— Бярыце гэтую бяду, бо дзеці ўсё хочуць яго ўкрасці ды пакатацца.

Дапамог ён нам пагрузіць човен на машыну. Даў я сторажу тры рублі, за якія тады можна было купіць тры бутэлькі віна ды пару коржыкаў на закуску. Усцешыўся стораж, пажадаў нам шчасліва даехаць, і дадаў:

— Каб не вы, то човен не перазімаваў бы: у ім назбіралася за лета ды восень вёдзер з сорак вады. Падыходзіць зіма, вада замерзла б, а лёд разарваў бы човен на дзве часткі.

Дахаты мы ляцелі як на крылах: хацелася хутчэй пахваліцца вучням, што здабылі такі прыгожы човен. З яго толькі абразы маляваць ды ў кіно здымаць, бо ён прыгажосці незвычайнай. Таксама з топаля, але гонкі. Імклівы, прыгожы. Нос і карма доўгія, вострыя і паднятыя ўверх, даўжыня яго — 530 см.

Цяпер мінскія экскурсаводы нам кажуць: «Нават у Мінску няма ніводнага такога цікавага музея, бо экскурсія ў вас, якая цягнулася шэсць гадзін, праляцела нібы адна хвіліна».








Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1048

Падпісана да друку 30.08.2013. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.
(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча